КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 46 (318) ◂ 30 лістапада ◂ 2012 г.
www.novychas.info

# Новы Час



**«НЯСВІЖСКАЯ КАЗКА» АЛЬБРЭХТА РАДЗІВІЛА**

Стар. 31

**ІНВАЛІД ПОБАЧ? ЛЕПШ НЕ ТРЭБА**

У Беларусі да людзей з інваліднасцю грамадства ставіцца з адценнем негатыву, пра гэта сведчаць вынікі апытання НІСЭПД

Стар. 6

**ФРАНЦУЗЫ СУПРАЦЬ ГЕЯЎ**

Пра вытокі гамафобіі французаў і перспектывы развіцця сітуацыі журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з Наталі Пізан, сябрам французскай праваабарончай арганізацыі «SOS racisme»

Стар. 29

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**РЭАЛІЗМ УТЫЛІТАРЫЗМУ**

Эсэ Віталя Воранава з цыклу «Куды ідзеш, мая краіна»

▸ З НАГОДЫ

# ПРАВААБАРОНЦЫ НЕ ЗДАЮЦЦА

Генадзь КЕСНЕР

**Ні для каго не сакрэт, што праваабаронцы разам з незалежнымі журналістамі ёсць сапраўднай косткай у горле беларускіх уладаў. Усімі праўдамі і няпраўдамі чыноўніцтва самага рознага кшталту спрабуе нейтралізаваць іх дзейнасць. Прычым пад уладны молах трапляюць як асобныя людзі, так і цэлыя арганізацыі.**




26 лістапада судовыя выканаўцы прыйшлі апячатваць офіс Праваабарончага цэнтру «Вясна», дзе праваабаронцы адпрацавалі дванаццаць гадоў. Офіс канфіскаваны ў адпаведнасці з рашэннем суда, які адбыўся 24 лістапада 2011 года над кіраўніком арганізацыі Алесем Бяляцкім.

«Нават на нейкім фізічным узроўні адчуваецца пералом, які чакае нас і які ўжо, у прынцыпе, наступіў. Гэта пераломны дзень, калі мы павінны пакінуць наша гняздо — як у Купалы, зараз увесь разбуранае. На ўзроўні розуму мы гэтага чакалі, гэта не было неспадзяванкай. Але ёсць яшчэ і эмацыйны ўзровень, калі ўсё ўнутры супраціўляецца таму, што гэта ўжо адбылося і што мы сюды больш ніколі не прыйдзем. За дванаццаць гадоў прывыкаеш не толькі да людзей, але і да месца, а гэтае месца было для нас як другі дом — роднае. Гэта было не толькі месца працы, але месца, дзе сустракаліся аднадумцы, калегі, сябры. Гэта момант разрыву мінулага і будучага», — адзначыла сябра Рады «Вясны» Таццяна Равяка.

Раніцай у панядзелак адбылося пасяджэнне Рады «Вясны», якая прыняла заяву з нагоды канфіскацыі офіса арганізацыі. Гэтую заяву журналістам агучыў намеснік старшыні «Вясны» Валянцін Стэфановіч.

«Рэпрэсіі супраць кіраўніка і сяброў Праваабарончага цэнтру «Вясна», а таксама канфіскацыя маёмасці не спыняць нашу працу, мы не згорнем ніводнага з напрамкаў легітымнай дзейнасці арганізацыі па абароне правоў чалавека. Усе ахвяры парушэнняў правоў чалавека паранейшаму могуць разлічваць на нашу дапамогу і падтрымку. Мы працягнем адстойваць каштоўнасці правоў чалавека, змагацца за іх выкананне беларускімі ўладамі, інфармаваць беларускае грамадства і міжнародную супольнасць аб рэальным стане з правамі чалавека ў Беларусі», — абяцаюць «вясноўцы».

Сёлета ўлады праз судовае рашэнне спынілі дзейнасць яшчэ адной праваабарончай арганізацыі. 9 кастрычніка гаспадарчы суд Мінска зліквідаваў Інфармацыйна-асветніцкую ўстанову «Платформа», якая займалася дапамогаю людзям, што сутыкнуліся з беларускай пенітэнцыярнай сістэмай, вывучала парушэнні правоў грамадзян, што апынуліся за кратамі.

27 студзеня і 24 мая 2012 года супрацоўнікі міліцыі затрымлівалі праваабаронцу, былога следчага пракуратуры Алега Волчака. Ён ачольвае праваабарончы цэнтр «Прававая дапамога насельніцтву», які пасля закрыцця ўладамі ў 2003 годзе ўсё ж атрымаў рэгістрацыю ў Кіеве (Украіна). Абодва разы Волчака абвінавачвалі ў дробным хуліганстве (лаяўся матам у грамадскім месцы — любімы праваахоўнікамі артыкул КаАП, па якім яны рэгулярна абвінавачваюць апанентаў дзеючай улады), і абодва разы суды пагаджаліся з бязглуздымі довадамі міліцыянтаў. Як вынік, юрыст правёў у Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на вуліцы Акрэсціна ў Мінску 4 і 9 сутак адпаведна. А зараз ад праваабаронцы патрабуюць дэкларацыю аб даходах за 10 гадоў.

Варта ўзгадаць і сёлетняе траплянне ў спісы невыязных шэрагу праваабаронцаў і журналістаў: Алега Гулака, Гары Паганяйлы, Валянціна Стэфановіча, Жанны Літвіной ды іншых. Праўда, праз пэўны час улады спісалі гэта ўсё на нейкую тэхнічную памылку, але хто ж гэтаму паверыць?

На мяжы ліквідацыі знаходзіцца адзіны ў Беларусі часопіс для інтэлектуалаў «ARCHE», цяпер ужо былы галоўны рэдактар якога Валеры Булгакаў быў вымушаны пакінуць Беларусь. Пад чарговай крымінальнай справай за нібыта паклёп на прэзідэнта ходзіць гродзенскі журналіст, сябра БАЖ Андрэй Пачобут. Больш за месяц за размешчаныя на ўласным сайце bnp.by фотаздымкі плюшавых мядзведзікаў, скінутых са шведскага лёгкаматорнага самалёта над Мінскам і Івянцом, у СІЗА КДБ правёў дваццацігадовы фотажурналіст Антон Сурапін. А колькі было яшчэ затрыманняў іншых журналістаў — пералічыць усё ў адным газетным артыкуле папросту немагчыма.

Улады вызначылі для сябе галоўных сваіх апанентаў. Відавочна, што сёння гэта не тытульная апазіцыя, але ў большай ступені незалежныя СМІ і праваабаронцы. Мо таму, што, як адзначыў у апошнія хвіліны перад апячатваннем офісу «Вясны» кіраўнік Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч, яны «працуюць больш эфектыўна, чым многія палітыкі»?

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БРЭСТ. ЖЫХАРЫ ДАМАГЛІСЯ ЭКСПЕРТЫЗЫ

Ужо некалькі месяцаў жыхары дома №32 па вуліцы Набярэжнай Брэста спрабуюць давесці, што пры будаўніцтве прыватнай аптэкі ў міжкалонnай прасторы іх 12-павярховага будынку парушаны нормы закону.

Сама будоўля мусіла скончыцца яшчэ ў кастрычніку, але людзі, што жывуць у гэтым доме, катэгарычна супраць з'яўлення аптэкі менавіта ў гэтым месцы, бо лічаць, што Брэсцкі гарвыканкам парушыў заканадаўства, калі без згоды жыхароў, якія з'яўляюцца дольшчыкамі, заключыў інвестыцыйную дамову з мінскім прадпрыемствам «Формула жыцця» (гэтая фірма замовіла будаўніцтва аптэкі).

Нягледзячы на тое, што разгляд гэтай справы ў раённым і абласным судах скончыўся не на карысць жыхароў, яны дамагліся ад гарвыканкаму правядзення незалежнай экспертызы, якая б мусіла засведчыць, ці ёсць бяспечным будаўніцтва аптэкі ў міжкалонnай прасторы дома, які яшчэ некалькі гадоў таму знаходзіўся ў аварыйным стане і патрабаваў узмацнення фундаменту.

Адначасова жыхары дома №32 па вуліцы Набярэжнай не хаваюць намеру дамагчыся і аб'ектыўнага разгляду сваёй скаргі на ранейшыя судовыя рашэнні ад Вярхоўнага суда Беларусі.

**Паводле spring96.org**

### ГОМЕЛЬ. «САПРАЎДНЫЯ СІМВАЛЫ – У КОЖНЫ ДОМ!»

Гомельская кааліцыя «Наша Альтэрнатыва» абвясціла конкурс з мэтай папулярызацыі нацыянальнай сімволікі «Сапраўдныя сімвалы — у кожны дом!».

Да ўдзелу ў конкурсе прымаюцца артыкулы на сацыяльную тэму, якая актуальна для канкрэтнага рэгіёну (усеагульнае п'янства, нізкія заробкі, парушэнне правоў сацыяльна неабароненых групаў насельніцтва, адсутнасць роварных дарожак і г. д.). Кожны ўдзельнік атрымае ў падарунак шэўрон з «Пагоняй», а ўдзельнік, чый артыкул будзе надрукаваны на сайце, атрымае 10 шэўронаў з «Пагоняй» на кашулю, заплечнік і г. д.

Каб узяць удзел, неабходна даслаць свой артыкул на электронны адрас: sos2012belarus@gmail.com.

Падрабязная інфармацыя — на сайце: http://spasemstranu.com.

### МАГІЛЁЎ. ЦІ ПАНЯСЕ АДКАЗНАСЦЬ ІДЭОЛАГ ЗА «СЛАВЯНСКІ МАРШ»?

Намеснік старшыні БСДП (Грамада) Ігар Барысаў напісаў скаргі ў пракуратуру, КДБ, гарвыканкам і Адміністрацыю прэзідэнта з патрабаваннем прыцягнуць да адказнасці намесніка старшыні гарвыканкаму Мікалая Міхаленю за яго неабачлівасць.

Паводле Ігара Барысава, чыноўнік, адказны за ідэалогію ў горадзе, праявіў сваю некампетэнтнасць, дазволіўшы правядзенне акцыі прарасійскіх правых радыкалаў, якія прапагандуюць шавіністычную ідэю панславянізму-манархізму.

«Праз скаргі я хачу атрымаць адказ наконт таго, на якой падставе было дазволена правядзенне антыканстытуцыйнага мерапрыемства прарасійскіх правых радыкалаў, якія не прызнаюць незалежнасць Беларусі і мараць пра аб'яднанне Расіі, Беларусі і Украіны ў адну дзяржаву. Я хачу, каб той, хто дазволіў гэтае мерапрыемства, быў пакараны», — кажа Ігар Барысаў.

Пры гэтым ён не выключае магчымасці, што ідэолаг мог прагледзець той факт, што заяўка на правядзенне «Славянскага маршу» падавалася ад імя прыватнай асобы — Дзмітрыя Дзенісенкі, і мог не ўбачыць таго, што гэтая асоба з'яўляецца сябрам незарэгістраванай у Беларусі прарасійскай радыкальнай арганізацыі.

«Дзе гэта бачана, каб па Магілёву хадзіла калона падлеткаў і крычала прарасійскія лозунгі — "Слава России!" ці "Русские вперёд!"? Я мяркую, што такое мерапрыемства мог дазволіць толькі чалавек, які з'яўляецца прыхільнікам шавіністычнай панславянскай ідэалогіі, якая ўзвышае славян у параўнанні з іншымі народамі», — адзначае Ігар Барысаў.

Хоць гэтым разам было забаронена выкарыстанне чорна-жоўта-белых сцягоў, ідэалагічных сімвалаў сучасных панславяністаў-манархістаў, яны ўжо выкарыстоўваліся ў Магілёве раней.

«Ёсць відэа ў інтэрнэце, дзе паказана, як, напрыклад, 17 ліпеня 2011 года некалькі чалавек прабягалі з гэтымі сцягамі па Магілёву. Прычым мерапрыемства афіцыйна дазволенае. Хто дазволіў выкарыстоўваць гэтую незарэгістраваную сімволіку, застаецца пытаннем. А як толькі выйдзеш у горад з нацыянальным бел-чырвона-белым сцягам, дык КДБ, міліцыя ды іншыя — усе збягуцца, каб у цябе яго адабраць», — прыводзіць параўнанне Барысаў.

Нагадаем, што 25 лістапада ў Магілёве адбыўся «Славянскі марш». Мерапрыемства было санкцыянаванае ўладамі. Там прысутнічала каля 40 чалавек. Шмат хто з удзельнікаў прыехаў з іншых гарадоў. У шэсці і невялікім мітынгу таксама прыняў удзел экс-кандыдат у дэпутаты Сяргей Рыжоў, які называе сябе сустаршынёй кансерватыўнай партыі «Белая Русь».

Варта дадаць, што акцыі апазіцыі ў Магілёве традыцыйна трапляюць пад забарону нават у адзіным дазволеным месцы — стадыёне «Хімік». У бягучым годзе гарвыканкам адмовіў у правядзенні нават бяскрыўднай моладзевай акцыі — моладзь хацела абменьвацца абдымкамі з мінакамі, аднак ідэолагі ўбачылі ў гэтым нейкую небяспеку.

**Паводле spring96.org**

ЦІСК

## ТАЦЦЯНУ РАВЯКА ПРАВЯРАЮЦЬ

**Падатковыя органы выкарыстоўваюць новыя спосабы ціску на сябра Рады Праваабарончага цэнтру «Вясна», прэзідэнта Беларускага Дому правоў чалавека Таццяну Равяка.**

Праверка даходаў і маёмасці праваабаронцы, якую ажыццяўляе інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах РБ па Першамайскім раёне Мінска за перыяд з 2004 па 2010 год, не выявіла ў прадстаўленых ёю дакументах парушэнняў, звязаных з утойваннем прыбыткаў. Аднак падчас праверкі высветлілася, што ў падатковы орган перададзены дадзеныя з крымінальнай справы кіраўніка Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага.

У выніку паўстала сітуацыя, што сродкі, якія былі прызнаныя асабістым прыбыткам Бяляцкага, могуць быць прызнаны і прыбыткам ягоных калег.

Таццяна Равяка ўжо двойчы (20 і 27 лістапада 2012 года) была апытаная старэйшым падатковым інспектарам аддзелу кантролю за дэклараваннем прыбыткаў і маёмасці фізічных асобаў інспекцыі МНС па Першамайскім раёне Валянцінай Буравай адносна сумаў, якія фігуруюць у крымінальнай справе Алеся Бяляцкага і якія праваабаронца нібыта ёй пералічваў. Па словах спадарыні Буравай, дадзеная інфармацыя была перададзеная ў раённую інспекцыю «вышэйстаячымі органамі Міністэрства па падатках і зборах РБ», але не змагла адказаць, па чыёй ініцыятыве яны былі туды перададзеныя. Дарэчы, менавіта гэты «вышэйстаячы орган», па словах інспектара, ініцыяваў праверку прыбыткаў і маёмасці праваабаронцы за апошнія 10 гадоў.

Таццяне Равяка было прапанавана адказаць на пытанні, датычныя наяўнасці рахункаў у літоўскім банку, мэтаў іх адкрыцця, характару пераводаў на іх сродкаў. У пратаколе апытання ўказваецца, што «ў інспекцыі маюцца копіі выпісак з рахункаў АО «DnB NORD банк», Вільнюс, Літва, згодна з якімі атрымальнікам грашовых сродкаў выступае Таццяна Равяка» (ад А. Бяляцкага), аднак інспектар адмовілася прадставіць самі выпіскі. У такой сітуацыі праваабаронца адмовілася каментаваць інфармацыю без азнаямлення з дакументамі, а адносна тлумачэнняў па рахунках скарысталася сваім канстытуцыйным правам не даваць сведчанняў, якія могуць быць скарыстаны супраць яе.

Інспектар Бурава паведаміла, што падатковая будзе праводзіць праверку па атрыманай са справы Бяляцкага інфармацыі, па выніках якой будзе прынята рашэнне, ці будуць сродкі, якія нібыта былі пералічаныя Таццяне Равяка, залічаныя як яе асабісты прыбытак, які не быў задэклараваны і з якога не выплачаныя падаткі.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» расцэньвае дадзеныя захады падатковых органаў як пераслед праваабаронцаў за прафесійную дзейнасць і яшчэ адзін са сродкаў ціску на арганізацыю, праца якой не спыняецца.

**Паводле spring96.org**

КУРАПАТЫ

## СПРАВЫ НЕ БУДЗЕ

**Марат ГАРАВЫ**

**Бараўлянскі аддзел міліцыі Мінскага РУУС адмовіўся распачынаць крымінальную справу па акту вандалізму ва ўрочышчы Курапаты.**

Пра гэта паведаміў на пасяджэнні грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыяла «Курапаты» гісторык Ігар Кузняцоў.

Нагадаем, што напрыканцы кастрычніка знікла закладная шыльда будучага мемарыяльнага знаку ў гонар афіцэраў польскай арміі — прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў, забітых супрацоўнікамі НКУС на тэрыторыі Беларусі ў красавіку 1940 — чэрвені 1941 гадоў. Шыльда была ўстаноўлена грамадскасцю ў Дзень памяці ахвяраў палітычных рэпрэсій ў Беларусі, па ініцыятыве аргкамітэта па правядзенні Года памяці ахвяраў таталітарызму і асвечаная святаром грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы айцом Пахомам.

Але менш чым праз суткі пасля адкрыцця шыльда знікла разам з ускладзенымі кветкамі і знічкамі, а таксама была паразбіваная бетонная пліта пад мемарыяльны знак.

Па гэтаму факту Ігар Кузняцоў звярнуўся з заявамі ў Бараўлянскі аддзел міліцыі. Сваё рашэнне па выніках праверкі кіраўніцтва аддзела міліцыі матывавала тым, што ў дзеяннях нявыяўленай асобы, каторая ажыццявіла крадзеж, «бачацца прыкметы адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага артыкулам 10.5 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь» (дробны крадзеж маёмасці ў суме, якая не перавышае дзесяці базавых велічынь; гэтае правапарушэнне цягне за сабою накладанне штрафу ў памеры ад 10 да 30 базавых велічынь ці адміністрацыйны арышт). «У выпадку ўстанаўлення дадзенай асобы да сканчэння тэрміну накладання адміністрацыйнага спагнання, яна будзе прыцягнутая да адказнасці», — гаворыцца ў паведамленні аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы.

Як адзначыў Кузняцоў, вынікі разгляду яго заяў супрацоўнікамі міліцыі не сталі нечаканымі. «Справа ў тым, што пасля знікнення шыльды і выкліку ў Курапаты супрацоўнікаў міліцыі яны паўтары гадзіны размаўлялі са мною ў машыне, але не праводзілі аніякіх следчых дзеянняў, нягледзячы на тое, што ішоў снег.

У Курапатах шматразова адбываліся акты вандалізму, аднак толькі аднойчы злачынцы былі ўстаноўлены. 30 мая 2009 года двое непаўнагадовых мінчан — навучэнцаў школы і прафтэхвучэльні — былі абвінавачаныя ў знішчэнні мемарыяльных крыжоў ва ўрочышчы, аднак яны амнiставаныя следствам да суду. 10 красавіка 2009 года старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч прапанаваў Міністэрству ўнутраных спраў арганізаваць пастаяннае пешае патруляванне Курапатаў сіламі ваенных вайсковай часткі 3310 — другой асобнай спецыяльнай брыгады міліцыі, якая дыслакуецца ў вёсцы Аколіца Мінскага раёна. Аднак на гэту прапанову ўпраўленне ўнутраных спраў Мінскага аблвыканкама адказала адмовай, матывуючы яе шэрагам аб'ектыўных прычын.

ЗАКЛІК

## ПАДТРЫМАЙЦЕ «НОВАЕ ЖЫЦЦЁ»!

**Аргкамітэт па стварэнні БХД заклікае ўсе незалежныя сілы Беларусі, усіх сумленных і неабыякавых грамадзян падтрымаць царкву «Новае Жыццё».**

5 снежня ўлады плануюць захоп памяшкання пратэстанцкай царквы, вернікі якой болей за шэсць гадоў адстойваюць права на свабоду сумлення, права збірацца ў адробленым імі памяшканні.

Нягледзячы на рэгулярныя пагрозы і шантаж, вернікі працягваюць збірацца і маліцца разам. Іх змаганне стала сімвалам барацьбы за свабоду сумлення ў Беларусі. За мінулыя восем гадоў былі выпадкі, калі не толькі пратэстантаў, але і каталікоў, і праваслаўных спрабавалі судзіць па новым дыскрымінацыйным законе аб свабодзе сумлення. Таму сёння абарона царквы «Новае Жыццё» — гэта абарона права на свабоду сумлення ў краіне.

«Высяленне на гэтым тыдні, 26 лістапада, на вуліцу праваабарончага цэнтру «Вясна» і плануемы захоп на наступным, 5 снежня, памяшкання царквы — гэта падзеі аднаго лагічнага шэрагу. Гэта пачатак таталітарнага ўзмацнення рэпрэсій у краіне», — лічаць актывісты БХД.

БХД заклікае таксама міжнародную супольнасць выказацца па дадзеным пытанні, а сродкі масавай інфармацыі — сачыць за сітуацыяй і як мага больш поўна асвятляць падзеі з захопам будынку царквы.

Кантакты царквы:

http://www.newlife.by; +375 29 5028718; 220119, Мінск, вул. Кавалёва, 72.

**Паводле інфармацыі прэсавай службы БХД**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ПРАПАГАНДА НА ЭКСПАРТ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Здаецца, самому Аляксандру Лукашэнку надакучыла тлумачыць еўрапейцам прапісныя для Беларусі рэчы. Ужо шмат гадоў прыязджаюць і прыязджаюць да яго замежныя журналісты. А пытанні, здаецца, адны і тыя ж. Надакучыла ўжо казаць, што ніякіх рэвалюцый у Беларусі не будзе, што мы за нармальныя стасункі з Захадам, але Захад нас не разумее, што няма ў нас палітзняволеных, і што за ўладу трымацца Лукашэнка не будзе: папросяць па-добраму — сыдзе.**




Альбо заходнія журналісты задаюць адны і тыя ж пытанні, альбо Аляксандр Лукашэнка адказвае на аднолькавыя пытанні па-рознаму. Тое ці іншае, але адчуванне такое, што Захад «не даганяе», таму яму трэба ўсё тлумачыць некалькі разоў. А значыць што? Значыць, трэба стварыць пастаянную трансляцыю прамоў Аляксандра Лукашэнкі на Захад. Здаецца, ён гэтым і заняўся.

І 28 лістапада, прымаючы старшыню Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Генадзя Давыдзьку, Аляксандр Лукашэнка даручыў пашырыць міжнароднае тэлевяшчанне Беларусі і палепшыць яго якасць. Сапраўды, колькі можна тлумачыць пастаянна адно і тое ж? Таму Лукашэнка пацікавіўся ў Давыдзькі, як наладжана міжнароднае вяшчанне кампаніі: «Я хацеў бы, перш за ўсё, атрымаць ад вас аб'ектыўную інфармацыю аб працы беларускага канала за мяжой. Для нас гэта вельмі важна. Тое, што ўнутры адбываецца, мы гэта бачым, а як бачыцца наш канал, як яго глядзяць за межамі нашай краіны?»

Давыдзька адрапартаваў у вайсковым стылі. Аказваецца, зараз міжнароднае вяшчанне ажыццяўляецца тэлеканалам «Беларусь–ТВ» з трох спадарожнікаў на тэрыторыю ўсёй Еўропы і Паўночнай Афрыкі. Гіпатэтычная колькасць тэлегледачоў складае каля 220 мільёнаў чалавек.

Справа ў тым, што, як гаворыцца на сайце тэлеканала, перш за ўсё ён разлічаны на «замежных тэлегледачоў, асабліва для руска- і беларускамоўных жыхароў постсавецкай прасторы, якія жадаюць аператыўна атрымліваць усебаковую і дакладную інфармацыю аб Беларусі».

Еўропа і Паўночная Афрыка — гэта, здаецца, не «постсавецкая прастора», тут Давыдзька ў школе геаграфію недавучыў. Недавучыў ён і матэматыку, паколькі вяшчанне канала «ажыццяўляецца на беларускай і рускай мовах» — той самы афіцыйны сайт «Беларусь–ТВ». Для адрознення паміж «гіпатэтычным», «патэнцыйным» і рэальным гледачом, трэба адправіць яго ў падарожжа ў Паўночную Афрыку з загадам не вяртацца адтуль да тых часоў, пакуль ён не прывязе з сабою хоць аднаго бедуіна гэтага рэгіёну, які б валодаў беларускай мовай і з гэтай нагоды глядзеў бы «Беларусь–ТВ».

Давыдзька мог бы пахваліцца яшчэ і тым, што з 28 сакавіка 2008 года тэлеканал «Беларусь–ТБ» пачаў вяшчанне на спадарожніку Galaxy 19 (97°W), сігнал якога распаўсюджваецца на тэрыторыі Паўночнай Амерыкі. З гэтага моманту ўладальнікі больш як 2 мільёнаў антэн у ЗША і Канадзе, а таксама жыхары Мексікі, Гватэмалы, Кубы, Дамініканскай Рэспублікі, Пуэрта-Рыка, атрымалі магчымасць глядзець праграмы беларускага канала. Але знайсці беларускамоўнага ў Дамініканскай Рэспубліцы, здаецца, значна цяжэй, чым беларускамоўнага бедуіна.

Таму, здаецца, правільна Лукашэнка прыняў рашэнне значна паменшыць бюджэтную падтрымку беларускіх тэлеканалаў у наступным годзе. Навошта марнаваць грошы на нікому не патрэбныя спадарожнікі? «Хачу вас папярэдзіць, што мы рэфармуем усе структуры, якія карыстаюцца сродкамі з бюджэту. Такіх маса ў краіне, у тым ліку і Белтэлерадыёкампанія. 25–30% скарачэння і павелічэнне эфектыўнасці — гэта непахіснае маё патрабаванне, і вы, напэўна, гэта ўжо адчуваеце», — цытуе Лукашэнку яго прэс-служба.

**Шведы «плюшавым дэсантам» у нейкім сэнсе прапіярылі Беларусь. Можа, ім аддаць рэштку грошай і ад Белтэлерадыёкампаніі, і ад піяршчыка лорда Бэла?**

Хутка ў нас з'явіцца шмат беспрацоўных карэспандэнтаў БТ. Шкадаваць, шчыра кажучы, ім няма аб чым. Нядаўна БТ спрабавала ў Мінску карэспандэнта знайсці — усяго за 600 тысяч рублёў заробку. Лепш за ў пяць разоў большае ўзнагароджанне прыбіральшчыкам метро пайсці…

Патрэбныя новыя формы і новыя метады працы. Не бáўбатаць праз «зомбаскрыню», а вынаходзіць іншае. Вось шведскае рэкламнае агенцтва «Studio Total» атрымала за плюшавы дэсант у Беларусі міжнародную рэкламную ўзнагароду — «Epica Awards 2012». Як паведамляецца на сайце «Epica Awards», шведскай кампаніі было прысуджана золата ў намінацыі «Public Relations». Прычым, прэмія не абы-якая: «Epica Awards» — найбуйнейшы сусветны конкурс рэкламістаў, пераможцу вызначаюць рэдактары 41 часопіса з 34 краінаў свету.

Варта адзначыць, што шведы сваім «плюшавым дэсантам» прапіярылі не толькі самі сабе, але і Беларусь у нейкім сэнсе. Можа, гэта шведам аддаць рэштку грошай і ад Белтэлерадыёкампаніі, і ад піяршчыка лорда Бэла, і ад іншых, хто не здолеў вывесці Беларусь на сусветны ўзровень так, як гэта зрабіла «Studio Total».

Наўрад ці яны прыедуць у Беларусь нават за грашыма, бо расследаванне іх пралёту ўсё ж працягваецца. Генпракуратура Літвы «ў хуткім часе адкажа» на запыт Беларусі адносна расследавання незаконнага перасячэння ў ліпені гэтага года беларускай мяжы з літоўскай тэрыторыі лёгкаматорным самалётам, які пілатаваў шведскі экіпаж. Пра гэта паведаміў 27 лістапада журналістам у сейме намеснік генпракурора Літвы Дарус Раўлушайціс.

«Адкажа тое, што і павінна адказаць у мэтах выканання сваіх міжнародных абавязацельстваў і дагавора аб прававой дапамозе з Беларуссю», — сказаў Раўлушайціс. Паводле яго слоў, падрыхтоўка адказу зацягнулася, таму што трэба было «сабраць матэрыял».

Ды і грошы тут занадта не прываблівыя. На выдаткі выйдзе больш, бо па выніках дзесяці месяцаў 2012 года Беларусь заняла першае месца па росце цэн сярод краін былога СССР.

За студзень—кастрычнік цэны ў Беларусі павялічыліся на 18,1%, у Таджыкістане — на 6,1%, Расіі — на 5,6%, Кыргызстане — на 5%, Казахстане — на 4,6%, Эстоніі — на 3,8%, Літве — на 3,1%, Малдове — на 3%, Латвіі — на 1,6%.

У Арменіі і ва Украіне цэны знізіліся на 0,3%, у Грузіі — на 1,2%, Азербайджане — на 2%. Ва Узбекістане цэны за студзень — верасень павялічыліся на 3,3%, у Туркменістане за першае паўгоддзе — знізіліся на 1,8% (больш свежыя даныя з гэтых дзвюх краін адсутнічаюць). Нават у самаабвешчанай Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспубліцы цэны ўзраслі за дзесяць месяцаў толькі на 9,2%.

Дык хто сказаў, што ў нас няма крызісу? Хай бы Лукашэнка патлумачыў рост цэнаў. Але замежнікаў, здаецца, наш рост цэнаў хваляваць не павінен.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ТАДЭВУШ КАНДРУСЕВІЧ




Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч паўстаў перад вернікамі ў вобразе звычайнага чалавека. Каталіцкі іерарх узяў удзел у Першым чэмпіянаце Беларусі па міні-футболе сярод каталіцкіх святароў. У чэмпіянаце ўдзельнічалі шэсць каманд: па адной з кожнай дыяцэзіі — Віцебскай, Гродзенскай, Пінскай, Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, а таксама каманды з гродзенскай і пінскай духоўных семінарый. Папярэднічала футбольным баталіям імша ў лідскім фарным касцёле, якую ўзначаліў мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

У гаміліі арцыпастыр падкрэсліў вартасці футболу, адзначыўшы, што гэтая гульня «вучыць павазе да іншага чалавека і ахвярнасці дзеля дабра ўсёй каманды», «дазваляе ўбачыць таленты кожнага спартсмена», «вядзе да логікі братэрства і любові». Іерарх прывёў таксама аналогіі паміж жыццём хрысціяніна і футболам», — піша інтэрнэт-партал catholic.by. Правёўшы лёсаванне, Мітрапаліт пажадаў, каб гэты футбольны турнір стаў прыкладам хрысціянскага жыцця, справай абвяшчэння веры.

Міні-футбол дастаткова папулярны сярод святароў Аўстрыі, Польшчы, Венгрыі, Харватыі, Славеніі, Партугаліі, Украіны, Румыніі, Славакіі, Босніі і Герцагавіны. У некаторых з гэтых краін існуюць нават адмысловыя чэмпіёны краіны сярод святароў.

### ІРЫНА ЯТЧАНКА, ІВАН ЦІХАН






Па выніках пераправеркі допінг-пробаў, узятых падчас Алімпіяды 2004 года, ва ўжыванні забароненых прэпаратаў абвінавачаныя беларусы Іван Ціхан і Ірына Ятчанка, руская Святлана Крывелева і Алег Перапячэнаў, украінец Юры Беланог, паведамляе агенцтва «Увесь спорт».

23 лістапада стала вядома, што пяць медалістаў Алімпіяды ў Афінах з краін былога СССР абвінавачаныя ў парушэнні антыдопінгавага заканадаўства. Па правілах, допінг-пробы захоўваюцца восем гадоў, у жніўні 2012 года перад заканчэннем тэрміну захоўвання Сусветнае антыдопінгавае агенцтва (WADA) правяло пераправеркі 110 пробаў. Пяць тэстаў далі станоўчы вынік.

Іван Ціхан выступае ў кіданні молата, Ірына Ятчанка — у кіданні дыска. На Гульнях у Афінах Ціхан выйграў срэбра, Ятчанцы дасталася бронза.

Пры гэтым Ціхан ужо станавіўся ўдзельнікам допінгавага скандалу. На Алімпіядзе ў Пекіне ён выйграў бронзу, аднак неўзабаве быў абвінавачаны ва ўжыванні допінгу, пазбаўлены медаля і дыскваліфікаваны. Але беларус у арбітражным судзе даказаў сваю невінаватасць, атрымаўшы алімпійскі медаль назад.

На рахунку Ціхана ўдзел у трох Алімпійскіх гульнях, тры перамогі на чэмпіянатах свету. Ятчанка ўдзельнічала ў пяці Алімпіядах, выйграўшы ў 2000 годзе бронзавы медаль.

### МІКАЛАЙ ДЗЯДОК



На 4 снежня прызначана выязное пасяджэнне Шклоўскага суда па справе палітвязня Мікалая Дзядка. Суд будзе вырашаць, ці накіроўваць Мікалая Дзядка як злоснага парушальніка рэжыму з калоніі ў «крытую» турму, — паведамляе Радыё «Свабода».

Суддзя Віталь Волкаў дазволіў абаранаць Мікалая Дзядка на пасяджэнні ягонаму адвакату, але не даў дазволу, каб палітвязня абаранаў таксама ягоны бацька, былы суддзя Мінскага абласнога суда Аляксандр Дзядок.

Паводле Аляксандра Дзядка, у яго сына ўжо 22 спагнанні за розныя парушэнні дысцыпліны, і спецыяльная камісія ў калоніі выказалася за накіраванне Мікалая Дзядка ў «крытую» турму.

«Усе гэтыя нібыта парушэнні тлумачацца адным — сын адмаўляецца падпісваць прашэнне аб памілаванні і трымаецца па-ранейшаму мужна і прынцыпова, не скараецца», — кажа Аляксандр Дзядок.

Актывіст анархісцкага руху Мікалай Дзядок у 2011 годзе быў асуджаны на 4,5 гады зняволення за хуліганства і пашкоджанне маёмасці падчас акцый каля Міністэрства абароны, на тэрыторыі расійскага пасольства, ізалятара на Акрэсціна ды іншых. У зняволенні Мікалай Дзядок яшчэ мусіць адбыць больш за 2 гады.

У «крытых» турмах зараз знаходзяцца палітвязні Мікалай Аўтуховіч, Мікалай Статкевіч, Зміцер Дашкевіч, Яўген Васьковіч.

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ПАТРЫЯТЫЗМ З ДЗЯРЖАЎНЫМ ТВАРАМ

Сяргей НІКАЛЮК

**Сфармаваць пачуццё згуртаванасці нескладана. Дзеля гэтага дастаткова падзяліць людзей на групы, якія канкуруюць паміж сабой.**




Патрыятызм (ад грэчаскага «айчына») у максімальна кароткім выкладанні — сацыяльнае пачуццё, зместам якога з'яўляецца любоў да Айчыны і гатоўнасць падпарадкаваць яе інтарэсам свае прыватныя інтарэсы.

Было б дзіўным, калі б спецыялісты па дзяржаўнай беларускай ідэалогіі ад любові да Айчыны не перакінулі масток да любові да дзяржавы. Вось як гэта зрабіў галоўны дзяржаўнік краіны ў Пасланні–2012: *«Патриотизм был, есть и должен оставаться незыблемым постулатом нашей государственности»*.

Не варта шукаць у такім поглядзе на патрыятызм нейкае асаблівае ноў-хаў. У свой час савецкія ідэолагі свядома нівелявалі адрозненні паміж дзвюма далёка не ідэнтычнымі паняццямі, перитварыўшы іх па сутнасці ў сінонімы. Як тут ні працытаваць экс-начальніка Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта Алега Праляскоўскага: «У масавай свядомасці людзей таго часу панаваў дзяржаўны патрыятызм, паколькі пераважная большасць насельніцтва падзяляла сістэму каштоўнасцяў савецкага грамадства».

## Ад міфаў да рэальнасці

Згаданую вышэй цытату я запазычыў з артыкула «Перамога народа-вызваліцеля, народа-праведніка». Прыгледзімся ўважлівей да народа з такімі неардынарнымі характарыстыкамі, але для поўнай карціны пачнём з дасавецкага перыяду. У Першую сусветную вайну на кожную сотню салдат царскага войска, што загінулі ў баях, знаходзілася каля 300 тыс, хто здаўся ў палон. У англійскім войску на 100 забітых было 20 палонных, у французскім — 24, у нямецкім — 26. Іншымі словамі, падданыя Расійскай імперыі здаваліся ў палон у 12–15 разоў часцей.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны, паводле дадзеных Міністэрства абароны РФ, у палон патрапілі 4,559 мільёна савецкіх вайскоўцаў, страты забітымі склалі 8,860 мільёна. Адноснае зніжэнне колькасці палонных, пры жаданні, можна растлумачыць ростам дзяржаўнага патрыятызму. Аднак магчымы і іншыя тлумачэнні. У якасці прыкладу абмяжуюся фрагментам загада №227 ад 28 ліпеня 1942 года («Ні кроку назад!»): «Сфармаваць у межах войска 3–5 добра ўзброеных загараджальных атрадаў, да двухсот чалавек у кожным, паставіць іх у непасрэдным тыле няўстойлівых дывізій і абавязаць іх у выпадку панікі і бязладнага адыходу частак дывізій расстрэльваць на месцы панікёраў і баязліўцаў».

«За Веру, Цара і Айчыну!» — пад такім дэвізам належала паміраць салдату Расійскай імперыі. Камуністы замянілі цара Сталінам, айчыну — Радзімай, а праваслаўную веру як ідэалагічнага канкурэнта выключылі зусім. Аднак варта адрозніваць народжаныя прапагандай міфы ад рэальнасці. У чарговы раз працытую мемуары салдата пераможцы Мікалая Нікуліна (не маршала і не генерала, што вельмі важна): «Калі выходзілі на нейтральную паласу, зусім не крычалі: «За Радзіму! За Сталіна!», як пішуць у раманах. Над перадавой чутныя былі хрыплае выццё і густыя мацюкі ды лаянка, да таго часу, пакуль аскепкі і кулі не затыкалі глоткі гарлапанаў. Ці да Сталіна было, калі побач смерць?»

Паводле перапісу 1897 года, 85% насельніцтва Расійскай імперыі складалі сяляне — носьбіты патрыярхальнай (г. зн. дадзяржаўнай) культуры. Шмат хто з іх ніколі не выязджаў за ваколіцу роднай вёскі, таму думаць катэгорыямі дзяржавы і, адпаведна, адчуваць сваю адказнасць за яе, яны былі не ў стане.

Дысцыпліна ў войску, што было ўкамплектавана такім культурным кантынгентам, падтрымлівалася шпіцрутэнамі (ням. Spiess — дзіда, Rute — бізун). Удары шпіцрутэнамі прызначаліся за памылкі на страявых вучэннях, за неахайнасць форменнай адзежы (ад 100 удараў), за п'янства (да 500 удараў), за ўцёкі (да 5000 удараў). У Расіі пакаранне шпіцрутэнамі ўвёў Пётр І. Адменена яно было толькі ў 1864 годзе.

Падвядзем вынік. Салдат, выхаваны шпіцрутэнамі, вяваў у сілу звычкі падпарадкоўвацца. Але варта было толькі саслабець голасу начальства, як салдат пераставаў падпарадкоўвацца загадам і дызертаваў. Не саступаючы заходняму салдату ў фізічных якасцях, ён не меў уласцівага таму грамадзянскага пачуцця, пачуцця прыналежнасці да больш шырокай супольнасці.

## Выпрабаванне глабалізацыяй

У ХХ стагоддзі ў межах Расійская імперыя двойчы назіраўся распад дзяржавы, і абодва разы не знайшлося крытычнай масы патрыётаў-дзяржаўнікаў гэты распад прадухіліць. *«Народ-богоносец»* паводле трапнага выразу Васіля Розанава (1918 г.) *«поднасрал»*. Аднак і народ-праведнік, які тры пакаленні асвойваў сістэму савецкіх каштоўнасцяў, у 1991 годзе і пальцам не паварушыў, каб прадухіліць распад нібы сваёй народнай дзяржавы.

З няздольнасці тыповага прадстаўніка беларускай «большасці» пражыць без дзяржаўнай падтрымкі зусім не вынікае, што ён асвоіў асновы дзяржаўнай культуры. Тут мне варта спаслацца на аўтарытэт культуролага Ігара Якавенкі: «У крытычнай сітуацыі просты чалавек спадзяецца не на дзяржаву, а на ўладу. Ёй скардзяцца, на яе спадзяюцца, да яе апелююць у канфлікце з чыноўнікам. <...> Дзяржава як сацыяльны інстытут, што заклікана абараняць правы і рэалізоўваць інтарэсы грамадзян, у традыцыйнай свядомасці папросту не існуе. Дзяржава — гэта сукупнасць чыноўнікаў, якія плодзяць «паперы». Абапіраючыся на «паперы», чыноўнікі душаць простага чалавека, таму ўлада разглядаецца як адзіная сіла, здольная даць рады чыноўніку і змяніць штосьці да лепшага».

Улада заўсёды персаніфікаваная. Гэта персона і выступае ў якасці адзінага палітычнага ўмацавання, якое ўтрымлівае традыцыйнае насельніцтва і дзяржаву ў стане адзінства. Нескладана здагадацца, да якіх наступстваў здольная прывесці страта персонай сваёй харызмы.

Але ідзем далей. *«В современной цивилизации, —* справядліва адзначае наш адзіны палітык (АП), *— понятие патриотизма подвергается жестоким испытаниям»*. Аднак ад крыніцы выпрабаванняў нельга пазбавіцца, бо яна палягае ў глабалізацыі, што прадстаўляе *«человеку огромный выбор для применения своих сил»*. Сучасны беларус, у адрозненне ад беларуса эпохі пераможнага сацыялізму, мае магчымасць са сваёй краіны *«спокойно уехать и устроиться за тысячи верст от родины»*.

Незалежныя сацыёлагі актуальнасць такіх асцярог пацвярджаюць. Працэнт беларусаў, якія дэкларуюць сваю гатоўнасць назаўжды пакінуць Радзіму, не апускаўся за апошнія 10 гадоў ніжэй за 34% (тут і далей дадзеныя НІСЭПД). Але гэта ў цэлым па выбарцы. Сярод моладзі гатоўнасць выехаць на ПМЖ — у два разы вышэй!

Адказ на пытанне «Дзе, на ваш погляд, лепш жывецца насельніцтву — у Беларусі ці ў краінах ЕС?» не выклікае ў суайчыннікаў складанасцяў. У чэрвені 2012 года 67% рэспандэнтаў абралі ЕС і толькі 13% — Беларусь (7 гадоў таму колькасць эканамічных патрыётаў была ў два разы вышэй). З падобным успрыманнем рэальнасці ўлада не можа не лічыцца. Адсюль маніякальнае жаданне павялічваць заработную плату тэмпамі, якія не стасуюцца з магчымасцямі эканомікі.

У свой час венгерскія таварышы паспрабавалі адказаць на выклікі глабалізацыі дамарослай мадэллю, якая атрымала назву «гуляшны сацыялізм». Як і яе беларускі аналаг, венгерская мадэль не адпрэчвала рынку, але пад жорсткім кантролем з боку дзяржавы. У ролі ж галоўнага эканамічнага суб'екта выступалі чыноўнікі. Вынік не прымусіў сябе доўга чакаць. Чыноўнікі-прадпрымальнікі набралі пазыкаў, за якія пасля 1990 года давялося расплачвацца дзяржаўнай уласнасцю. Венгрыя — лідар еўрапейскага маштабу па колькасці замежнага капіталу ў эканоміцы: каля 60% — у апрацоўчай прамысловасці і ў банкаўскім сектары.

## Патрыёты «ржавай трубы»

Дзяржаўная ідэнтычнасць — ненадзейная, асабліва ва ўмовах, калі не дзяржава з'яўляецца гістарычнай вытворнай ад народа, а наадварот — народ фармуецца ў якасці пабочнага прадукту дзяржавы, што функцыянуе. А гэта якраз наш выпадак.

Механізм адміністрацыйнага згуртавання быў вывучаны псіхолагам Музеферам Шэрыфам у серыі палявых эксперыментаў. На працягу некалькіх гадоў Шэрыф арганізоўваў летні лагер для амерыканскіх школьнікаў, якія да прыезду ў лагер не былі знаёмыя адзін з адным. Дзеці падзяляліся на дзве групы, што размяшчаліся ў асобных дамках. На пачатковым этапе ў кожнай групе выпрацоўваліся свая сімволіка, рытуалы і нормы групавых паводзін. Падчас наступнай фазы даследавання паміж дзвюма групамі ладзілася некалькі спаборніцтваў (па бейсболу, футболу і інш.) з раздачай калектыўных трафеяў, якія прысуджаліся чальцам групы, што перамагла.

Такога кшталту спаборнасць спараджала варожасць у адносінах да чальцоў іншай групы. Абедзве групы рэдка не скарыстоўвалі магчымасць распачаць сварку і прынізіць здольнасці адзін аднаго. Да часу заканчэння спаборніцтваў чальцы абедзвюх груп сцвярджалі, што яны не хочуць больш нічога рабіць разам. У той жа самы час даследнік фіксаваў рост унутрыгрупавой салідарнасці.

Такім чынам, выключна намінальны падзел людзей на групы аўтаматычна спараджаў схільнасць бачыць свет скрозь прызму дыхатаміі «мы — яны». Пры гэтым «мы» заўсёды апыналіся ў чымсьці лепшымі, чым «яны». Як тут ні прыгадаць афарызм АП: *«Белорусы — это те же русские, но со знаком качества»*.

Але не сам факт падзелу спараджаў міжгрупавую варожасць. Варожыя пачуцці ўзнікаюць з міжгрупавой канкурэнцыі за абмежаваныя рэсурсы, а таксама з іншых рэальных ці ўяўных канфліктаў інтарэсаў.

Звернемся да сакавіцкага апытання НІСЭПД. Колькасць прыхільнікаў продажу «Белтрансгаза» Расіі была меншая за колькасць не згодных з гэтым (15% vs. 54%). Нагадаю, што за «ржавую трубу» беларусы атрымалі 5 мільярдаў долараў. Без гэтай сумы пазбегнуць калапсу фінансавай сістэмы ў канцы 2011 года было б праблематычна. Але грамадская думка не ў стане аналізаваць такія тонкасці. Труба — наша, і страта кантролю роднай дзяржавы над адным з галоўных эканамічных актываў краіны насельніцтва ўспрыняло хваравіта.

Сам факт агароджвання пэўнай тэрыторыі дзяржаўнай мяжой здольны спарадзіць шлейф прыналежных займеннікаў: «мы», «наша» і да таго падобных. Аднак гэта той выпадак, калі форма не адпавядае зместу. Пра гэта неабходна памятаць.

ФІНАНСЫ

# МІЛЬЯРДЫ ДОЎГУ — НЕ ПРАБЛЕМА?

Вольга ХВОІН

**У наступным годзе Беларусь не плануе браць крэдыты, каб расплаціцца з выплатамі па дзяржаўных пазыках. Пра гэта паведаміў Аляксандр Лукашэнка ў інтэрв'ю інфармацыйнаму агенцтву «Reuters». Разам з тым у наступным годзе пачынаецца перыяд пікавых плацяжоў па пагашэнні знешняга дзярждоўгу.**

«З 2013 года пачынаюцца пікавыя плацяжы па пагашэнні знешняга дзяржаўнага доўгу. Аб'ём рэсурсаў, неабходных для гэтых мэтаў у 2013 годзе, складзе каля 2,3 мільярда долараў, што перавышае плацяжы 2012 года ў 2,6 разы», — гаворыцца ў тлумачальнай запісцы да прынятага бюджэту на наступны год, дакумент патрапіў да журналістаў інтэрнэт-рэсурса Naviny.by. Патрэба ў фінансаванні расходаў па пагашэнні асноўнага доўгу па крэдытах беларускага ўрада ўзрасце ў 2013 годзе ў параўнанні з 2012-м на 234,2 мільёна долараў і складзе 421,7 мільёна долараў, павялічацца і дзяржаўныя выдаткі на абслугоўванне знешняга дзярждоўгу. На пагашэнне працэнтаў у 2013 годзе будзе накіравана з бюджэту 786,6 мільёна долараў (у 1,3 разы больш, чым у гэтым годзе). У суме Беларусь будзе вымушаная сплаціць прыблізна 3,5 мільярда долараў.

«Маючы ВУП пад 60 мільярдаў долараў і бюджэт з усіх крыніц пад 20 мільярдаў, я думаю, вы разумееце, што 2,5 мільярда (журналіст «Reuters» назваў лічбу ў 2,5 мільярда долараў — аўт.) — гэта невялікая праблема», — заявіў Лукашэнка, адказваючы на пытанне, дзе ўрад Беларусі возьме грошы на выплату пазыкаў.

Аляксандр Лукашэнка ў чарговы раз адзначыў, што ён не супраць прыватызацыі як працэсу, але супраць продажу «золата нацыі» за бясцэнак.

Тым не менш Беларусь спрабуе шукаць пакуль не зусім традыцыйныя для нас метады прыцягнення ў дзяржаву сродкаў. Напрыканцы лістапада Беларусь правядзе прэзентацыю еўрабондаў у Сінгапуры і Ганконгу. Арганізатарамі выпуску беларускіх еўрабондаў выступяць даччыныя структуры найбуйнейшых расійскіх дзяржбанкаў «ВТБ Капітал» і «Сбербанк КИБ». Пра гэта гаворыцца ў паведамленні Мінфіна Беларусі. Міністр фінансаў Беларусі Андрэй Харкавец раней заяўляў, што размяшчэнне адбудзецца, хутчэй за ўсё, на азіяцкім рынку, аб'ём складзе не менш за 500–600 мільёнаў долараў.

Па словах кіраўніка Нацбанка, у выпадку поспеху суверэнных еўрабондаў дэбютантам на гэтым рынку сярод беларускіх банкаў мог бы стаць найбуйнейшы дзяржаўны «Беларусбанк», які ўжо двойчы адкладваў размяшчэнне еўрааблігацый з-за фінансавага крызісу.

Кіраўнік Нацбанка Беларусі Надзея Ермакова заявіла, што ў выпадку поспеху суверэнных еўрабондаў дэбютантам на гэтым рынку сярод беларускіх банкаў мог бы стаць найбуйнейшы дзяржаўны «Беларусбанк», які ўжо двойчы адкладваў размяшчэнне еўрааблігацый з-за фінансавага крызісу. «У 2013 годзе «Беларусбанк» будзе ў гэтым кірунку працаваць», — сказала Ермакова.



У ліпені 2010 года Беларусь размясціла ў Еўропе першы выпуск еўрабондаў на 600 мільёнаў долараў са стаўкай купона 8,75% гадавых і пагашэннем у 2015 годзе, у жніўні — даразмясціла дзяржаблігацыі яшчэ на 400 мільёнаў долараў, даходнасць па паперах склала 8,251% гадавых. У студзені 2011 года Беларусь размясціла сямігадовыя еўрабонды на 800 мільёнаў долараў пад 8,95% гадавых. Арганізатарамі здзелкі з'яўляліся расійскі «Ашчадбанк РФ», французскі «BNP Paribas», брытанскі RBS і германскі «Deutsche Bank». Пасля пад ціскам міжнародных праваабарончых арганізацый з сіндыката выйшлі тры заходнія банкі. Міжнародны валютны фонд (МВФ) вітаў планы беларускіх уладаў па размяшчэнні еўрабондаў, бо «гэта дазволіла б атрымаць дадатковае знешняе фінансаванне».

Застаецца адкрытым да канца года і пытанне выдачы Беларусі чарговага траншу крэдыту ў памеры 440 мільёнаў долараў з антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС. «Мы 7 снежня едзем у Мінск, будзе пасяджэнне Антыкрызіснага фонду, будзем разглядаць пытанне», — сказаў міністр фінансаў РФ Антон Сілуанаў. Праўда, Сілуанаў адзначыў, што, паводле ацэнак Мінфіна РФ, не ўсе ўмовы для выдачы расійскага крэдыту Беларусь выканала.

Пагадненне паміж Беларуссю і Еўразійскім банкам развіцця (ЕАБР), які кіруе сродкамі Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС, па выдзяленні крэдыту на 3 мільярда долараў шасцю траншамі падпісана 9 чэрвеня 2011 года. Першы транш на 800 мільёнаў долараў ЕАБР пералічыў у Беларусь 21 чэрвеня 2011 года, яшчэ 440 мільёна долараў — у снежні 2011 года. У 2012 годзе Беларусь павінна была атрымаць два траншы па 440 мільёна долараў кожны. Трэці транш атрыманы ў чэрвені і быў залічаны ў золатавалютныя рэзервы краіны.

Не так даўно кіраўніцтва Беларусі прадэманстравала яшчэ адзін спосаб пошуку грошай: задняй датай быў уведзены збор за экспарт угнаенняў. Зроблена гэта з 1 студзеня па 31 ліпеня 2012 года. Указ № 530 ад 22 лістапада 2012 года прадугледжвае, што база для вылічэння збору — гэта аб'ём мінеральных або хімічных калійных угнаенняў у натуральным выражэнні, вывезеных за гэты перыяд. Збор выплачваецца па стаўцы 279,8 тысячы рублёў за тону угнаенняў.

Згодна з дакументам, плацельшчыкі збору — арганізацыі, якія рэалізуюць выключнае права знешняга гандлю (у часткі экспарту) мінеральнымі або хімічнымі калійнымі ўгнаеннямі і ажыццяўляюць іх вываз за межы краін Еўразійскай эканамічнай супольнасці, за выключэннем вывазу ў краіны, з якімі Беларусь заключыла міжнародныя дагаворы аб свабодным гандлі.

Збор выплачваецца штомесяц роўнымі часткамі да канца 2012 года не пазней за апошні працоўны дзень, пачынаючы з месяца афіцыйнага апублікавання ўказа. Пры гэтым ён распаўсюджвае сваё дзеянне менавіта на адносіны, якія ўзніклі з 1 студзеня гэтага года.

Як адзначыў першы намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Уладзімір Сямашка, каментуючы гэты ўказ, у прадпрыемства, стопрацэнтным уласнікам якога з'яўляецца дзяржава, можна адбіраць звышпрыбыткі.

«Я не магу назваць лічбы, але нашы прадпрыемствы, як і многія прадпрыемствы калійнай галіны, працуюць з добрай рэнтабельнасцю. Ёсць цвярозыя эканамічныя разлікі, якія кажуць пра тое, што, каб весці бягучую дзейнасць, рэалізоўваць інвестыцыйныя праграмы, патрэбна пэўная сума, а ўсе астатняе пасля выплаты падаткаў і падатку на прыбытак дзяржава мае права канфіскаваць і накіроўваць на іншыя неабходныя мэты», — падкрэсліў віцэ-прэм'ер Беларусі.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# МІНЭКАНОМІКІ ПРЫЗНАЛАСЯ

Вольга ХВОІН

**Чытач НЧ Андрэй Мініч прымусіў Міністэрства эканомікі адказаць на сваё пытанне: чаму цягам апошняга года так моцна выраслі цэны на харчовыя тавары, што вядзе народ да галечы ды парушае правы грамадзян на годнае жыццё.**



Адказ, зразумела, даволі расплывісты, але разам з тым цікавы і будзе карысным для азнаямлення ўсім, хто ходзіць у крамы ды штораз здзіўляецца цэннікам, якія ўсё больш становяцца падобнымі да тэлефонных нумароў.

Андрэй Мініч ведае юрыдычныя тонкасці, да таго ж працуе ў дзяржорганах, мае спецыялізацыю адваката, таму, хаця і не з першай спробы, але ў яго атрымліваецца дамагчыся рэакцыі ад чыноўнікаў. Спачатку зварот спадара Мініча па пытанню пратэсту на пастанову Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь ад 8 мая 2012 года № 41 «Аб унясенні дапаўненняў і зменаў у пастанову Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь ад 26 красавіка 2012 года №35, якой былі змененыя максімальныя адпускныя цэны на шэраг харчовых тавараў разглядала Генпракуратура. Яна прыйшла да высновы, што «ў звароце няма якіх-небудзь звестак аб парушэнні законнасці», ды спасылалася на неіснуючыя палажэнні заканадаўства.

Пасля настойлівай перапіскі Мініча з дзяржструктурамі ў справу ўмяшаўся Камітэт дзяржкантролю. І ўжо па яго даручэнню Андрэй Мініч атрымаў тлумачэнні росту цэнаў у лісце за подпісам намесніка міністра эканомікі Антона Кудасава.

Прапануем вашай увазе вытрымкі з гэтага ліста-тлумачэння.

«Летась з улікам значнай дэвальвацыі рубля ўрад быў вымушаны стрымліваць цэны, каб не выклікаць абвал спажывецкага рынку і захаваць рэальныя даходы насельніцтва. Таму ў гэтым годзе, калі назіраецца рост рэальнай заработнай платы, прымаюцца неабходныя для эканомікі рашэнні аб падвышэнні цэн на шэраг прадуктаў харчавання.

Цяпер дыспарытэт цэнаў з суседнімі рэгіёнамі па большасці прадуктаў харчавання значна скараціўся, а па асобных таварах — ліквідаваны. Калі ў снежні 2011 года па дадзеных органаў статыстыкі сярэднія рознічныя цэны ў Цэнтральнай федэральнай акрузе Расіі былі вышэй цэнаў у Рэспубліцы Беларусь па ялавічыне і свініне — да 50%, малочнай прадукцыі — ад 70% да 2,5 разы, птушцы — 12%, муцэ пшанічнай — 66%, цукру — 14%, то ў кастрычніку 2012 года з улікам прынятых рашэнняў дыспарытэт склаў па ялавічыне і свініне — 31–37%, малочнай прадукцыі — 26–27%, муцэ — 52%, цукру — 8%.

Галоўнай задачай дзяржаўнай палітыкі ў галіне аплаты працы ў 2012 годзе ёсць падвышэнне дабрабыту насельніцтва рэспублікі, у тым ліку дасягненне ўзроўню заработнай платы па рэспубліцы дакрызіснага перыяду, то бок 500 долараў ЗША на канец года. ...Ва ўмовах інавацыйнага развіцця эканомікі рост заработнай платы мусіць падтрымлівацца ростам ВУП. Урад падкрэслівае, што незаробленыя грошы нікому выплачвацца не будуць. Для збалансаванага развіцця эканомікі неабходна жорстка звязваць падвышэнне заробку і вытворчасць працы.

Для даведкі: асноўнымі прычынамі падвышэння цэн на харчовыя тавары з'яўляюцца: стратная вытворчасць сацыяльна значнай прадукцыі (малочнай, мясной, хлебабулачнай) у сувязі са значным падвышэннем для сельскагаспадарчых вытворцаў закупачных цэнаў на прадукцыю раслінаводства і жывёлагадоўлі (дыспрапорцыя ўнутры тавар-ных груп па малочнай, мяснoй і хлебабулачнай прадукцыі), цэнавы дыспарытэт з сумежнымі краінамі».

Андрэй Мініч мяркуе, што ў гэтым лісце Мінэканомікі фактычна распісалася ў сваёй неэфектыўнай палітыцы ды засведчыла, што беларускія ўлады не маюць ўцямнага плану нешта канкрэтнае рабіць у кірунку выпраўлення сітуацыі.

«Урад прызнаў, што быў вымушаны стрымліваць кошты, была дапушчаная істотная дэвальвацыя беларускага рубля, мае месца стратная вытворчасць сацыяльна значнай прадукцыі, рост цэнаў на харчовыя тавары. Ці ёсць гэта эфектыўнай дзяржаўнай палітыкай?» — задае рытарычнае пытанне наш чытач Андрэй Мініч.

▸ АПЫТАННЕ

# ІНВАЛІД ПОБАЧ? ЛЕПШ НЕ ТРЭБА

Вольга ХВОІН

**У Беларусі да людзей з інваліднасцю грамадства ставіцца з адценнем негатыву, пра гэта сведчаць вынікі апытання НІСЭПД.**

Апытанне праводзілася з 24 верасня па 3 кастрычніка, у ім удзельнічала больш за 1,5 тысячы жыхароў Беларусі. Каардынатар Офіса па правах людзей з інваліднасцю Сяргей Драздоўскі паведаміў, што каля траціны рэспандэнтаў лічаць, што інваліды павінны жыць у закрытых установах. Прыкладна столькі ж упэўнены, што людзям з інваліднасцю патрэбна пастаянная апека з боку навакольных. Прыкладна ў траціны апытаных зносіны з інвалідамі выклікаюць псіхалагічны дыскамфорт. Столькі ж думаюць, што большасць інвалідаў не вельмі імкнецца да зносін са здаровымі людзьмі. Больш траціны ўдзельнікаў апытання адзначылі, што, калі бачаць чалавека з інваліднасцю, ім міжволі хочацца адвесці позірк. Больш за 17% сказалі, што ніякіх адносінаў з людзьмі з інваліднасцю яны не збіраюцца падтрымліваць.



Сяргей Драздоўскі

Сяргей Драздоўскі бачыць прычыны захавання дыскрымінацыі ў страху большасці перад узаемадзеяннем з непадобнай на іх групай, а таксама недастатковыя намаганні з боку дзяржавы па адаптацыі інвалідаў у грамадстве. Каб выправіць апошняе, неабходна заканадаўча замацаваць у Беларусі панятак дыскрымінацыі і ўстанавіць адказнасць за яе праявы.

Паводле яго слоў, Беларусь з'яўляецца апошняй краінай Еўропы, якая не далучылася да Канвенцыі ААН па правах інвалідаў. Каардынатар офіса нагадаў, што на працягу апошніх гадоў прадстаўнікі дзяржорганаў Беларусі абмяркоўвалі магчымасць далучэння да гэтага дакумента, аднак гэты крок увесь час адкладаецца. Так, па словах Драздоўскага, чыноўнікі заяўляюць, што «спачатку мы ўдасканалім наша жыццё настолькі, што як прымем канвенцыю, то ў нас яна будзе аўтаматычна выконвацца».

«Гэта не пытанне рэзкага радыкальнага рэвалюцыйнага кроку, а пытанне прызнання гонару, годнасці людзей з інваліднасцю ў нашай краіне. Гэта, у першую чаргу, заява дзяржавы аб тым, што яна мае намер і ў далейшым ісці па шляху гуманізацыі адносінаў да людзей з інваліднасцю і эфектыўна вырашаць праблемы ў грамадстве», — гаворыць Сяргей Драздоўскі.

Дарэчы, апытанне паказала, што хаця беларусы і не надта талерантныя да людзей з абмежаванымі магчымасцямі, тым не менш многія маюць інвалідаў у сваім акружэнні.

Звярталіся да рэспандэнтаў і з пытаннем, ці гатовыя яны сумесна вучыць дзяцей з інваліднасцю і дзяцей без інваліднасці. Адказы «за», «супраць», «не ведаю» падзяліліся прыкладна ў аднолькавай прапорцыі. Больш часта супраць сумеснага навучання выступаюць менавіта бацькі дзяцей з інваліднасцю.

Спецыялісты Офіса па правах людзей з інваліднасцю пазітыўным лічаць той факт, што апытаныя часта сустракаюць людзей з інваліднасцю ў грамадскіх месцах, то бок інваліды ўсё ж не нябачныя ў сучасным свеце.

«Для нас было важнае пытанне, як менавіта грамадскасць бачыць безбар'ернае асяроддзе. Мы папрасілі ацаніць ступень забяспечанасці безбар'ернага асяроддзя. І большасць ацаніла альбо «зусім дрэнна», альбо «дрэнна». Гэта паказвае, што нават для сярэдняга грамадзяніна відавочна, што безбар'ернае асяроддзе сёння не забяспечана ў патрэбнай меры», — тлумачыць Сяргей Драздоўскі.

Цешыць, што беларусы разумець: быць чалавекам з абмежаванымі магчымасцямі — гэта значыць мець праблемы з сацыяльнай уключанасцю. Так, на думку апытаных, інваліды ў пераважнай большасці выпадкаў маюць праблемы з матэрыяльным забеспячэннем, атрыманнем адукацыі, працаўладкаваннем. Яны часта сутыкаюцца з ізаляванасцю ад культурнага жыцця і забаў, няроўным, прыніжаючым годнасць абыходжаннем.

**ЯКІЯ ЎЗАЕМААДНОСІНЫ З ЧАЛАВЕКАМ З ІНВАЛІДНАСЦЮ АСАБІСТА ДЛЯ ВАС ПРЫМАЛЬНЫЯ? (МАГЧЫМА БОЛЬШ ЗА АДЗІН АДКАЗ)**

| Варыянт адказу | % |
|---|---|
| Быць суседзямі | 54,4 |
| Асабістае сяброўства | 40,3 |
| Быць калегамі па працы | 25,3 |
| Шлюбныя адносіны | 7,6 |
| Ніякія | 17,8 |

**ЦІ ЁСЦЬ СЯРОД ВАШЫХ СВАЯКОЎ, СЯБРОЎ ЦІ ЗНАЁМЫХ (У ТЫМ ЛІКУ ДЗЯЦЕЙ) ЛЮДЗІ З ІНВАЛІДНАСЦЮ ЛЮБОЙ ФОРМЫ? (МАГЧЫМА БОЛЬШ ЗА АДЗІН АДКАЗ)**

| Варыянт адказу | % |
|---|---|
| Я сам маю інваліднасць | 6,4 |
| Маю дзіця (дзяцей) з інваліднасцю | 1,9 |
| Маюць інваліднасць бліжэйшыя сваякі (бацькі, муж і жонка, родныя браты, сёстры) | 17,2 |
| Маюць інваліднасць больш далёкія сваякі, сябры, знаёмыя | 28,9 |
| Няма | 45,9 |
| Не змаглі адказаць / Не вызначыліся | 3,2 |

**ЯК ЧАСТА ВЫ АСАБІСТА СУСТРАКАЕЦЕ ЛЮДЗЕЙ З ІНВАЛІДНАСЦЮ Ў НАСТУПНЫХ МЕСЦАХ АБО СІТУАЦЫЯХ?**

| | Пастаянна | Даволі часта | Даволі рэдка | Ніколі | Я не бываю ў гэтых месцах | Не змаглі адказаць |
|---|---|---|---|---|---|---|
| На вуліцы | 12,7 | 43,5 | 40,1 | 3,1 | 0,1 | 0,5 |
| У транспарце | 6,8 | 27,8 | 48,5 | 11,5 | 4,8 | 0,6 |
| У крамах | 6,3 | 25,2 | 55,1 | 12,0 | 0,6 | 0,8 |
| У кіно, тэатрах, музеях | 1,1 | 4,6 | 28,2 | 37,1 | 27,8 | 1,2 |
| У кафэ, рэстаранах | 1,3 | 2,6 | 21,9 | 44,1 | 28,9 | 1,2 |
| Па месцы працы (вучобы) | 2,7 | 7,0 | 32,3 | 37,9 | 18,6 | 1,5 |

▸ ПРАБЛЕМА

# БУЛЬБАШ-ХОЛ ПРЫТАРМАЗІЛІ

Вольга ХВОІН

**Будаўніцтва забаўляльнага комплексу «Бульбаш-хол» каля пахавання ў Курапатах часткова прыпынілі.**

Нагадаем, увагу да будаўніцтва прыцягнула грамадскасць, быў праведзены нават адмысловы круглы стол «Абаронім Курапаты», дзе гаварылі аб недапушчальнасці будаўніцтва «Бульбаш-хола». На зварот удзельнікаў круглага стала адрэагавала Міністэрства культуры Беларусі. Ліст за подпісам намесніка міністра культуры Віктара Кураша атрымала арганізатар грамадскай ініцыятывы за ўратаванне Курапатаў Ганна Шапуцька.

«У часе выезду на месца ўстаноўлена, што працы праводзяцца часткова ў ахоўнай зоне гісторыка-культурнай каштоўнасці. Пры гэтым іх выкананне ажыццяўляецца без дазволу Міністэрства культуры», — сказана ў гэтым афіцыйным лісце. Мінкультуры выдала прадпісанне заказчыку работ прадпрыемству «*Белрестинвест*» і Мінаблвыканкаму аб спыненні работ у зоне аховы гісторыка-культурнай каштоўнасці. «Аднаўленне работ будзе магчыма пасля забеспячэння адпаведнасці праектнай дакументацыі прававым нормам».



**Даведка:**

Курапаты — лясны масіў на паўночным ускрайку Мінска, дзе былі пахаваныя людзі, расстраляныя ў 1937–1941 гадах. Колькасць пахаваных ахвяраў дакладна не вядомая і, паводле розных ацэнак, можа складаць ад 7 тысяч чалавек (паводле генеральнага пракурора Беларусі А. Бажэлкі) да 250 тысяч чалавек (паводле прафесара Вроцлаўскага ўніверсітэта Здзіслава Вінніцкага).

З 1993 года ўрочышча Курапаты занесенае ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь як месца пахаванняў ахвяраў палітычных рэпрэсіяў 1930–1940-х гадоў. Курапаты маюць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці першай катэгорыі. З'яўляюцца найбольш вядомым сярод прынамсі васьмі месцаў масавых расстрэлаў, якія здзейсніў НКУС на тэрыторыі Мінска.

Арганізатар ініцыятывы за ўратаванне мемарыялу Курапаты Ганна Шапуцька кажа, што грамадскасць выйграла час, але да поўнага спынення будаўніцтва забаўляльнага комплексу яшчэ далёка.

«Я ўпэўненая, што на прыпыненне будаўніцтва забаўляльнай установы ў Курапатах падзейнічала тое, што грамадскасць так актыўна выступіла супраць гэтай забудовы, актыўна пратэставала і падпісвала зварот у Генпракуратуру», — гаворыць актывістка.

Цікава, што Міністэрства культуры ведала пра будаўніцтва. У 2003, 2005 і 2006 гадах гэты праект быў узгоднены, яно дало дазвол на будаўніцтва. Калі прадстаўнікі Мінрайвыканкама і Мінкульта выехалі на месца забудовы, яны зрабілі замеры і выявілі, што будаўнікі выйшлі за тэрыторыю, якую ім прапаноўвалі для забудовы. І забудоўшчык вымушаны былі спыніць будаўніцтва на гэтай зоне. Як толькі забудоўшчык прывядзе дакументы ў парадак, ён зможа працягнуць работы ў ахоўнай зоне, адзначыла Ганна Шапуцька.

Удзельнікі круглага стала «Абаронім Курапаты» пагаджаюцца, што прыпыненне будаўніцтва забаўляльнага комплексу побач з пахаваннем рэпрэсаваных ёсць толькі першым крокам. Ганна Шапуцька паведаміла, што на чарговай сустрэчы ўдзельнікі ініцыятывы прынялі рашэнне патрабаваць скасавання гэтай забудовы ўвогуле. Адпаведны зварот будзе бліжэйшым часам накіраваны ў Савет Міністраў. «Таксама будзе зварот у Следчы камітэт і пракуратуру, каб там высветлілі, як такое магло стацца, што ажно да гэтага года Мінкульт не ведаў, хто і што там будуе, чаму дакументацыя не была ўзгодненая», — распавяла ініцыятарка ініцыятывы па абароне Курапатаў. Пазней будзе зварот да кіраўніцтва краіны з прапановай стварыць побач з Курапатамі музей ахвяраў рэпрэсій.

Нядаўна у інтэрнэце з'явіўся сюжэт з апытаннем мінакоў на тэму, што такое Курапаты? Узровень неабазнанасці беларусаў у тэме, канешне, уражвае. Магчыма, гэта падштурхнула абаронцаў Курапатаў да рашэння правесці маштабную інфармацыйна-асветніцкую кампанію, у тым ліку і ў ёй абяцалі ўзяць актыўны ўдзел прадстаўнікі грамадскай кампаніі «Гавары праўду».

Грамадская ініцыятыва за ўратаванне мемарыялу Курапаты мае інтэрнэт-сайт, дзе можна знайсці апошнюю інфармацыю па тэме: http://kurapaty.by.

Ганна Шапуцька падкрэслівае, што яна і аднадумцы пастараюцца зрабіць усё магчымае, каб побач з месцам расстрэлаў людзей паўстаў не забаўляльны комплекс, а мемарыял.

Яна заклікае ўсіх неабыякавых людзей падпісваць звароты і распавядаць сваім знаёмым пра Курапаты.

Петыцыю можна падпісаць у інтэрнэце. А лепш прыехаць на офіс БНФ (працуе з 10:00 да 20:00 па буднях) па адрасе Чарнышэўскага, 3–39: там знаходзіцца зварот у Генпракуратуру, пад якім можна паставіць свой подпіс.

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 3 СНЕЖНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніца, Беларусь!.
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Вакол планеты.
**11.25** Журналісцкае расследаванне.
**12.15** Камедыя «Дзяўчаты» (СССР).
**14.10** Мультфільмы.
**14.25** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.25** Драма «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**17.30** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.30** Адмысловы рэпартаж.
**18.45, 23.45** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.50** Прэм'ера. Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія-Украіна). 1- я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.45** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**00.10** Дзень спорту.
**00.25** Містычная камедыя «Траса 60» (ЗША-Канада).

### Н

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**15.00** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм «Кітайскі сервіз».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.55** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адкрыты фармат».
**22.10** АНТ прадстаўляе: «Лэдзі Ікс».
**23.15** «Вячэрні Ургант».
**23.55** «Забойная сіла». Шматсер. фільм.
**00.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінщчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**10.10** «100 адсоткаў».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** Канцэрт М.Задорнава.
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінщчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Дрэйф». Германія, 2006 г.
**22.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік фіналу.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Музычнае шоў краіны «Гарады, што спяваюць». Паўфінал.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.45** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**11.55** Прэм'ера. «Я шчаслівая!» Дакументальны фільм.
**12.25** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.15** Камедыйны серыял «Светлафор».
**14.20** Дэтэктыў «Заганы і іх прыхільнікі» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**16.40** Беларуская часіна.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Дэтэктыў «Заганы і іх прыхільнікі» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**23.40** Авертайм.
**00.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Шукальнікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Галубка».
**22.25** Тэлесерыял «Земскі доктар. Жыццё нанова».
**00.20** Навіны - Беларусь.
**00.30** «Дзяжурны па краіне».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Праграма «Максімум».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Ліцейны».
**21.20** Дэтэктыўны серыял «Дзікі-3».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Вісякі».

### EUROSPORT

**01.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - Дзень 2.
**02.45** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Жанчыны Гонка праследу.
**10.30** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - Дзень 2.
**11.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142.
**12.30** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Куусама - 10км. Класіка. Жанчыны.
**13.15** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Мужчыны Гонка праследу.
**14.00** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Жанчыны Гонка праследу.
**14.45** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - Дзень 2.
**16.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - Дзень 3.
**19.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - Дзень 3.
**19.30** Футбол: Еўрагалы.
**20.15** Тэніс: «Матс пойнт».
**20.45** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Мужчыны Гонка праследу.
**21.15** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Жанчыны Гонка праследу.
**23.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142.
**22.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**23.00** Усе віды спорту.
**23.05** Пра рэстлінг.
**23.35** Усе віды спорту.
**23.45** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - Дзень 3.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Без рэтушы: «Куды адплылі пінскія караблі?», рэпартаж, 2012 г., Польшча.
**07.25** Зона «Свабоды».
**07.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**08.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.30** Дакументальная гадзіна: «Паўднёвыя Курылы. Выспы забытых», дак. фільм, , 1997 г., Польшча–Германія.
**17.55** «Піянеры зменаў. Іспанія», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Цюхця, што ты за стварэнне?!».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**19.25** Невядомая Беларусь: «Феадальнае права Савецкага Саюза», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**20.25** Два на два (тэледыскусія).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.30** «CIA: таемныя войны», 2008 г., Францыя: фільм 1, «Сакрэтныя аперацыі».

## 4 СНЕЖНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!.
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.45** Слова Мітрапаліта Філарэта.
**09.15** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія-Украіна). 1-я серыя.
**10.15** Адмысловы рэпартаж.
**10.30** Таямніцы следства.
**11.00** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.35** Зямельнае пытанне.
**12.15** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія).
**13.20** Дак. серыял «Будзь у тонусе».
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.15** Медычныя таямніцы.
**16.40** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**17.30** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Украіна).
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.25** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Серыял «Джамайка». 2-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Тэлефільм АТН «Радзівілы. Таямніцы сям'і. Першая серыя».
**22.20** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Саграта» (Белтэлерадыёкампанія).
**23.30** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**00.50** Дзень спорту.
**01.00** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія).

### Н

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**15.00** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Сіндром Цмока».
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Сіндром Цмока».
**23.35** «Вячэрні Ургант».
**00.15** «Забойная сіла». Шматсер. фільм.
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінщчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік фіналу.
**09.10** «Вялікі сняданак».
**09.50** «Такі лёс».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Адкрытая прастора». ЗША, 2003 г.
**16.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік фіналу.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінщчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Фантомны боль». Германія, 2009 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Гульня на выжыванне».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**10.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.
**11.05** Авертайм.
**11.35** Цела чалавека.
**12.15** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**13.05** Школа рамонту.
**14.25** Камедыйны серыял «Светлафор».
**15.25** Дэтэктыў «Заганы і іх прыхільнікі» (Расія). 3-я серыя.
**16.40** Беларуская часіна.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Тайландскі бокс.
**20.20** Камедыйны серыял «Светлафор».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Дэтэктыў «Заганы і іх прыхільнікі» (Расія). 3-я серыя.
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Мілан-Зеніт. Прамая трансляцыя.
**01.05** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. Агляд дня.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** Прэм'ера. «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Прэм'ера. Дэтэктыўны тэлесерыял «Таямніцы следства».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Галубка».
**22.25** Тэлесерыял «Земскі доктар. Жыццё нанова».
**00.20** Навіны - Беларусь.
**00.30** «Адмысловы карэспандэнт».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Ліцейны».
**21.20** Дэтэктыўны серыял «Дзікі-3».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Вісякі».

### EUROSPORT

**01.00** Футбол: Еўрагалы.
**01.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142.
**02.45** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - Дзень 3.
**10.30** Футбол: Еўрагалы.
**11.15** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Мужчыны Гонка праследу.
**12.00** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Жанчыны Гонка праследу.
**12.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**13.45** Футбол: Еўрагалы.
**14.30** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - Дзень 3.
**16.00, 19.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - Дзень 4.
**20.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142.
**21.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - Дзень 4.
**22.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - 1/8 фіналу.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Невядомая Беларусь: «Феадальнае права Савецкага Саюза», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.25** Два на два (тэледыскусія).
**08.50** Аб'ектыў.
**17.50** «Рэвалюцыя», дак. фільм, 2007 г., Францыя: 1 серыя, «Парагвай».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Фільм са страшнаю назваю».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**19.25** Рэпартэр.
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**20.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.30** «Глыбокая вада», серыял: 13 серыя.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 5 СНЕЖНЯ, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!.
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
07.10, 08.10 Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія-Украіна). 2-я серыя.
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.25** Патрабуецца.
**10.45** Адмысловы рэпартаж.
**10.55** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Сакрата» (Белтэлерадыёкампанія).
**12.15** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія).
**13.20** Дакументальны серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія-Германія).
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.20** Каробка перадач.
**16.55** Заўтра - гэта мы!.
**17.20** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.25** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.50** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія-Украіна). 3-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Тэлефільм АТН «Радзівілы. Таямніцы сям'і».
**22.20** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Сакрата» (Белтэлерадыёкампанія).
**23.30** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**00.50** Дзень спорту.
**01.05** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія).

### АНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**15.00** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Сіндром Цмока».
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Сіндром Цмока».
**23.35** «Вячэрні Ургант».
**00.15** «Забойная сіла». Шматсер. фільм.
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Гадзіна суду».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Фантомны боль». Германія, 2009 г.
**15.35** «Жывая тэма».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Правінцыялка». ЗША, 2007 г.
**22.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік фіналу.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Гульня на выжыванне».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Наперад у мінулае.
**10.50** Меладрама «Давай пажэнімся» («Беларусьфільм»).
**12.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Барусія - Манчэстар Сіці.
**14.25** Камедыйны серыял «Светлафор».
**15.25** Дэтэктыў «Заганы і іх прыхільнікі» (Расія). 4-я серыя, заключная.
**16.40** Беларуская часіна.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Дэтэктыў «Заганы і іх прыхільнікі» (Расія). 4-я серыя, заключная.
**22.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Бавары - БАТЭ. Прамая трансляцыя.
**01.05** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд дня.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** Прэм'ера. «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнкі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Прэм'ера. Дэтэктыўны тэлесерыял «Таямніцы следства».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Галубка».
**22.25** Тэлесерыял «Земскі доктар. Жыццё нанова».
**00.20** Навіны - Беларусь.
**00.30** Прэм'ера. «Марына Голуб. Не прыкай да дажджу.».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Развод па-руску».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Ліцейны».
**21.20** Дэтэктыўны серыял «Дзікі-3».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Вісякі».

### EUROSPORT

**01.00** Аўта і Мотаспорт.
**01.15** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Мужчыны Гонка пераследу.
**02.00** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Жанчыны Гонка пераследу.
**02.45** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - 1/8 фіналу.
**10.30** Аўта і Мотаспорт.
**10.45** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - 1/8 фіналу.
**12.15** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Мужчыны Гонка пераследу.
**13.00** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Жанчыны Гонка пераследу.
**13.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142.
**14.30** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - 1/8 фіналу.
**16.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - 1/8 фіналу.
**19.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - 1/8 фіналу.
**20.05** Усе віды спорту: Абранае па серадах.
**20.10** Конны спорт: Кубак свету. Стакгольм.
**21.10** Навіны коннага спорту.
**21.15** Гольф: Гольф Клуб.
**21.20** Ветразевы спорт: Яхт клуб.
**21.25** Усе віды спорту: Абранае па серадах.
**21.30** Алімпійскі часопіс.
**22.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - 1/8 фіналу.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**17.55** «Рэвалюцыя», дак. фільм, 2007 г., Францыя: 2 серыя, «Гаіці».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**19.30** «Казка», дак. фільм, 2005 г., Польшча–Расія.
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**20.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.30** «CIA: таемныя войны» (C.I.A. Secret Wars), 2008 г., Францыя: фільм 2, «Страчаныя ілюзіі».

## 6 СНЕЖНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!.
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.30** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія-Украіна). 3-я серыя.
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.25** Патрабуецца.
**10.45** Адмысловы рэпартаж.
**10.55** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Сакрата» (Белтэлерадыёкампанія).
**12.15** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія).
**13.20** Культурныя людзі +.
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Evrovision. Вынікі тыдня.
**15.45** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.40** Перазагрузка.
**17.25** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.20** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.50** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія-Украіна). 4-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Тэлефільм АТН «Радзівілы. Таямніцы сям'і. Трэцяя серыя».
**22.20** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Сакрата» (Белтэлерадыёкампанія).
**23.30** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**00.45** Дзень спорту.
**01.00** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія).

### АНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**15.00** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Сіндром Цмока».
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Сіндром Цмока».
**23.35** «Вячэрні Ургант».
**00.15** «Забойная сіла». Шматсер. фільм.
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік фіналу.
**09.10** «Не хлусі мне!».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Правінцыялка». ЗША, 2007 г.
**15.35** «Прагнасць».
**16.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік фіналу.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Прызнанні небяспечнага чалавека». ЗША-Германія-Вялікабрытанія, 2002 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Гульня на выжыванне».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Вышэй за дах.
**10.45** Страсці па культуры.
**11.30** «Свята і цяні майго лёсу». Дакументальны фільм.
**12.05** Дарожная гісторыя «Кіроўца аўтобуса» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**14.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Шахцёр - Ювентус.
**16.45** Камедыйны серыял «Светлафор».
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**20.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Удзінэзэ - Ліверпуль. Прамая трансляцыя. У перапынку. 21.50 КЕНО.
**22.55** Тэлебарометр.
**23.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Тотэнхэм - Панацінаікас. Прамая трансляцыя.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** Прэм'ера. «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнкі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Прэм'ера. Дэтэктыўны тэлесерыял «Таямніцы следства».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Галубка».
**22.25** Тэлесерыял «Земскі доктар. Жыццё нанова».
**00.20** Навіны - Беларусь.
**00.30** «Паядынак».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі.».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.40** Серыял «Ліцейны».
**21.20** Дэтэктыўны серыял «Дзікі-3».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.40** Дэтэктыўны серыял «Вісякі».

### EUROSPORT

**01.00** Тэніс: «Матс пойнт».
**01.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**02.15** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - 1/8 фіналу.
**10.30** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - 1/8 фіналу.
**12.15** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Жанчыны Гонка пераследу.
**13.00** Тэніс: «Матс пойнт».
**13.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**14.30** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - 1/8 фіналу.
**16.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - 1/4 фіналу.
**19.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - 1/4 фіналу.
**20.00** Тэніс: «Матс пойнт».
**20.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**21.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - 1/4 фіналу.
**22.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - 1/4 фіналу.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** «Казка», дак. фільм, 2005 г., Польшча–Расія.
**07.55** Студыя «Белсат».
**08.20** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.50** Аб'ектыў.
**17.55** «Рэвалюцыя», дак. фільм, 2007 г., Францыя: 3 серыя, «Мадагаскар: сем месяцаў хаосу».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**19.25** Без рэтушы: «Беларускі лес», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**20.25** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.30** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 13 серыя.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

**Выпуск №11 (75)**
**(лістапад)**

www.lit-bel.org www. novychas. info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


**Анонс**



**ПОГЛЯД**




# КУРАПАТЫ–2012

**Ігар ТУМАШ**

**Дзяды — беларускае свята, якое дайшло да нас з глыбіняў язычніцтва ў новай нечаканай якасці: дзень памінання знішчаных продкаў.**

Адразу адзначу: я катэгарычна супраць язычніцкіх святаў, на Радаўніцу дэманстратыўна застаюся дома, на Масленіцу ўладкоўваю «разгрузны» дзень. Але ж у нашых сучасных Дзядах хрысціянскага больш, чым у іншых афіцыёзных святах. Рэч у тым, што Дзяды ва ўмовах «дэмагагічнай дэмакратыі» трансфармаваліся ў дзень памінання ахвяраў сталінскага тэрору. У дзяржаве, у якой афіцыйная гісторыя лічыць факт рэпрэсій у адносінах да 50 000 000 савецкіх грамадзянаў усяго толькі прыкрым непаразуменнем на фоне велічных перамог… нічога іншага, як памінаць іх уласнымі сіламі, не застаецца.

Беларусы сталі майстрамі мімікрыі. Не ў асуджэнне кажу, бо разумею: супраць лома няма прыёма… Акрамя таго, мы ж прыроджаныя партызаны…

У інтэрнэце прачытаў, што сёлетні збор шэсця да Курапатаў (ад завода «Прамень» па вуліцах Каліноўскага, Гамарніка і Мірашнічэнкі) з 10:00 да 10:30. У 9:50 я быў ужо каля завода. Што ж убачыў?

Добрую сотню міліцыянтаў і спецслужбоўцаў у цывільным, акрамя таго — не менш за сотню прадстаўнікоў ТБ-каналаў і журналістаў. З тых, хто відавочна планаваў удзельнічаць у шэсці, адзначыў толькі аднаго чалавека — ён маўклівы і засяроджана збіваў крыжы з нарыхтовак, яго здымалі з розных бакоў на некалькі лічбавых камер.

Да такой глыбіннай праявы нашага партызанскага менталітэту гатовым я не быў. Бо заяўка ў Мінгарвыканкам паступіла на 5000 чалавек! Вырашыў пра сябе, што… шэсце сарвалася, пачалночу па бульвары Талбухіна туды-сюды нейкі час і паеду дадому з чыстым сумленнем.

Не атрымалася ўцячы. Народ усё ж пачаў збірацца — бліжэй да 11:00. Але колькі было таго народа? Чалавек сто? На аднаго ўдзельніка шэсця — па адным журналісце і па адным сілавіку? Аднак на працягу яшчэ 10 хвілін — нібы з-пад зямлі! — вырасла яшчэ чалавек… чатырыста. (Паводле афіцыйнай інфармацыйнай зводкі, у шэсці ўдзельнічалі 500 чалавек. Сілавікі, якія «ўвекавечылі» кожнага ўдзельніка на фотакамеры, падлічылі даволі правільна.)

Між прысутнымі хадзіў пісьменнік і прапаноўваў купіць свае кнігі. Так і жывём: нашыя крамы-«светачы» завалены нікому не патрэбнай афіцыёзнай макулатурай, прыватныя кнігарні працуюць з вушлымі маскоўскімі камерцыйнымі выдавецтвамі, беларускія аўтары спрабуюць прадаць свае кнігі панурым з прычыны холаду камітэтчыкам, якія, напэўна, са школы ніводнай беларускай кнігі і ў руках не трымалі…

Група маладых людзей прадэманстравала журналістам сваё стаўленне да планаў па будаўніцтве забаўляльнага цэнтра «Бульбаш-хол» побач з Курапатамі. З плакатамі ў руках яны сталі ў шэраг і прастаялі, пазіруючы, хвілін з дзесяць.

Мала зямлі ў Беларусі? Абавязкова будаваць карчму на святыні? (Хоць бы і каля яе.) Зносіць цэрквы (канфлікт з «Новым Жыццём»), зносіць гістарычныя будынкі… Дзеля чаго? Каб зрабіць Мінск яшчэ больш пхеньяністым?.. Мая прапанова: зносьце турму на Арэсціна і што заўгодна — хоць цырк будуйце.

З палітыкаў заўважыў на шэсці Віталя Рымашэўскага, які не пабаяўся ўзяць з сабой маленькую дачку. Узначаліў калону харызматычны Сяргей Каваленка, падобны сечанымі рысамі твару да Чкалава. Ён ганарлівы, нібы вядучы спартовец зборнай на алімпійскім парадзе, панёс самы вялікі сцяг. За яго Сяргей вывеў гатоўнасць ахвяраваць жыццём. (Цікава, ці існуе на абшарах «Сінявокай» хоць адзін чалавек, гатовы плаціць аналагічны кошт за фетышы афіцыёзнай прапаганды?)

А цяпер — трымайся, афіцыёз! Увесь маршрут да Курапатаў прайшоў я з самым сапраўдным ветэранам Вялікай Айчыннай, які з'яўляўся таксама ветэранам Народнага Фронта. І ён аказаўся здольным пракрочыць па ледзяной кашы некалькі кіламетраў!

Мы ішлі за групай маладзёнаў з адчайнага Маладога Фронта: няма ў Беларусі міліцэйскага ўчастка, дзе б іх не кантавалі. Я назіраў за іх тварамі, чакаючы ўбачыць праявы нейкай асаблівай мужнасці, арліных позіркаў… Нічога падобнага: звычайныя маладыя твары людзей, чыстых сэрцам… Жывыя твары.

Зважаю на гэтую дэталь, бо… выбачайце, але мы жывём не ў самым духоўным месцы планеты, а ў даліне смяротнага ценю. І яшчэ зусім нядаўна навязвалі гэты цень усяму свету. Мы самыя духоўныя, мы самыя… Ды ў нас за веру ў духоўнае расстрэльвалі. За Біблію ў хаце давалі пяць гадоў турмы. Духоўнейшы Савецкі Саюз, які загубіў трацінy насельніцтва…

Спачатку смерць прыходзіць у дух чалавечы, затым разбурае душу (быў разумны і прыстойны, стаў дурным і подлым), нарэшце, забівае цела. Хоць бы і самае пышнае, трэніраванае...

Многія аўтамабілісты віталі калону сігналамі. Не сумняюся, што калі б не згубны страх, не звычка да бездакзнасці, не традыцыйная інертнасць, калона была б мільённай… Непрымання шэсця адзначыў адзін раз: нейкая пажылая жанчына з новай падушкай у празрыстым пакеце (ну і вобраз, захочаш прыдумаць — фантазіі не хопіць), абліла калону струменем бруднай лаянкі, сутнасць якой зводзілася да таго, што ўдзельнікі шэсця няйначай як няўдзячныя дармаеды… Не нярвуйся, родная. Каб Беларусь прачнулася, гэтых пяцісот чалавек усё адно мала…

Абапал, нібы канвой на этапе, калону суправаджалі міліцыянеры і бесцырымонныя «людзі ў цывільным». З фотакамерамі. Аднак і без камер яны ідэнтыфікаваліся за кіламетр. Чаму? Я, вядома, прашу прабачэння, але толькі вылучаліся яны сваімі тварамі… У іх былі твары людзей, надзеленых уладай, але з мёртвым духам. Твары людзей адной толькі фізічнай іпостасі. (Прычым маладыя служкі выглядалі жывымі. Духоўна памерлыя — пасля трыццаці, якія праслужылі гадоў па дзесяць. Што з гэтай нагоды можна сказаць? Не тым займаецеся, таварышы…)

Мёртвая ідэалогія — мёртвы горад Сонца — мёртвыя служкі — мёртвы электарат з падушкамі… І маладыя хлопцы і дзяўчыны, гатовыя сядзець у страшных сярэднявечных турмах, ахвяруючы здароўем, за натуральнае права свайго народа дыхаць жывым паветрам… Кафка адпачывае, неўрастэнікі вешаюцца.

Мемарыяльны комплекс «Курапаты» сустрэў калону змрочнай цішынёй. На падлiках даследчыкаў, на гэтым кавалачку зямлі было расстраляна і закапана ў велізарных ямах ад 30 да 250 тысячаў чалавек. Безумоўна, сталінскія рэпрэсіі — гэта злачынства камунізма супраць чалавецтва, і яму няма прабачэння. Але няма ласкі і да тых, хто на дзень памінання продкаў ходзіць па горадзе з падушкамі…

**АНТАЛОГІЯ**

# ДЗЯДЫ

**Ларыса ГЕНІЮШ**

*Смалу і дзёгаць ў пушчах дабывалі*
*з старых, вякамі пачарнелых пнёў*
*і мёдам залацістым налівалі*
*рады гліняных, паленых збаноў.*

*Аружжа цьвёрдае кавалі сабе самі,*
*Вастрылі стрэлы, нацягалі лук,*
*Часамі быў аружжам толькі камень,*
*ці двое дужых, гартаваных рук.*

*І дзік, і лось, мядзьведзь —*
*асілак буры,*
*пад сілай рук ня раз у лесе паў.*
*Цьвярдое ложа пакрывалі скуры,*
*кругом сплывалі зь дзераўляных лаў.*

*Як дуб магутныя, адважныя,*
*як зьверы,*
*адужалі ў лясох суровае жыцьцё.*
*Перад цяжкою, кованай сякерай*
*паганы вораг назаўсёды ўцёк.*

*Калі-ж дружынаю за стол*
*дубовы селі*
*і кубкі пенным мёдам налілі —*
*ня знаці меры буйнаму вясельлю*
*сівыя продкі нашае зямлі.*

*А калі князь агнём раскідаў віці,*
*Ісьці каб дружна Край свой*
*бараніць, —*
*каўшы кідалі зь мёдам залацістым,*
*каваць жалеза ды смалу паліць.*

*Пад горды сьцяг зьбіраліся дружыны,*
*грудзямі-мурам ворага спаткаць,*
*нашчадкам імя слаўнае пакінуць*
*ды родных пушчаў недругу ня даць.*

*Гэроям сыпаліся курганы-магілы.*
*Мінлі славы поўныя вякі,*
*аж покуль вораг хітры не асіліў*
*Крывіцкі род з-над Нёману-ракі.*

*Ня ўзяў нам пушчаў, ветрам*
*калыханых,*
*магутных замкаў, слаўных карадоў,*
*і не прысвоіў славы на курганах,*
*дзе тлеюць нашых попелы дзядоў.*

*І часта вецер ноччу на магіле*
*азьвецца стогнам волатаў сівых:*
*– Мы Край грудзьмі сваімі баранілі,*
*Каб ўнук ў няволі, ў сораме зацих?*

*Каб нашы землі, нашы пушчы, рэкі,*
*чужак сваёй краінай называў,*
*ды слаўна племя мучыў сяньня*
*зьдзекам*
*і нават мове волі не даваў?*

*Так стогнуць сэрцы волатаў*
*магутных,*
*як быццам вецер жалем галасіў,*
*што маладая Крывія — у путах*
*ды ўнук аб славе дзедавай забыў.*

**1935**

ЮБІЛЕЙ

# КВЕТКІ ЯКУБУ КОЛАСУ

3 лістапада ў дзень 130-годдзя Якуба Коласа прадстаўнікі ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» усклалі кветкі на магілу класіка беларускай літаратуры. Прагучалі прачулыя выступы аб ролі народнага паэта ў фармаванні нацыянальнай ідэі і беларускай дзяржаўнасці. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел Эдуард Акулін, Сяргей Законнікаў, Васіль Зуёнак, Сяргей Панізнік, Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч, Анатоль Сідарэвіч, Валер Стралко, Сяржук Сыс ды іншыя.



## ПАЛІЦА

«ПУНКТ АДЛІКУ» БІБЛІЯТЭКІ СБП

**Андрэй Пакроўскі. Як я перастаў верыць у Дзеда Мароза**




Дэбютную кнігу Пакроўскага склалі кароткія апавяданні, якія напоўніцу раскрываюць тэму дзеда Мароза, тэму ровара, тэму Антона, які насамрэч Андрэй, і шмат іншых важных для пісьменніка тэм, актуалізуючь праблемы кубка кавы і тралейбуса. Кніга спадабаецца ўсім, для каго гэтыя тэмы таксама вострыя і актуальныя, усім, каму згаданыя праблемы гэтаксама вярэдзяць чулыя струны душы.

**Кірыл Дубоўскі. Хороший роман**




Зборнік склалі апавяданні 2004–2010 гадоў. Чытаецца ён лёгка і прыемна, нягледзячы на невясёлыя тэмы некаторых апавяданняў: трагічную смерць маладога графамана, нялёгкія офісныя будні, няшчаснае каханне, спробу нацыянальнага самавызначэння, сумную гісторыю ад работніка запаркa і не менш сумную споведзь «мэнэджара сярэдняга звяна».

**Кацярына Зыкава. Объяснительная**

Дэбютны зборнік Кацярыны Зыкавай тонкі ва ўсіх сэнсах. У ім 26 вершаў пра русалак, рыб, каткоў, коней, слівы, сыктыўкары; але насамрэч — пра каханне і крыху пра адзіноту.




## СНЕЖАНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

03.12.1937 — Данута Янаўна Бічэль
05.12.1947 — Алесь Сцяпанавіч Разанаў
06.12.1947 — Георгій Леанардавіч Ліхтаровіч
22.12.1922 — Алена Сымонаўна Васілевіч

А таксама неюбілейны і несвабодны дзень нараджэння сустрэне
30.12.1976 — Павел Канстанцінавіч Севярынец.

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!



САЮЗ

# СВЯТА Ў ГОНАР ПАЭТА Й ЖЫЦЦЯЛЮБА

**У вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна восьмы раз ладзілася традыцыйнае Свята беларускай паэзіі ў гонар Анатоля Сыса «Дух — гэта, людзі, Я!».**



Свята прымеркавана да дня народзінаў слыннага беларускага паэта, які нарадзіўся 26 кастрычніка 1959 года й заўчасна памёр у траўні 2005-га.

Родныя й землякі, вядомыя беларускія пісьменнікі Анатоль Вярцінскі, Барыс Пятровіч, Алесь Пашкевіч, Эдуард Акулін, Анатоль Бароўскі, Ларыса Раманава, Сяржук Сыс, Вадзім Болбас, Генадзь Лапацін, а таксама барды й гісторыкі наведалі магілу паэта пад жоўтымі бярозамі на гарошкаўскіх могілках.

Да помніка паэту, высечанага з граніту скульптарам Генікам Лойкам, леглі жывыя восеньскія кветкі.

Адкрываючы імпрэзу, старэйшы беларускі паэт Анатоль Вярцінскі сказаў, што ягоны цёзка й сабрат па пяры Анатоль Сыс быў «слаўным беларусам, выдатным паэтам, грамадзянінам і патрыётам». І працягнуў: «Некалі Анатолю гэтыя могілкі мроіліся як Гарошкаўскі рай. І называў іх Анатоль «запаветным гаем».

Моладзевыя актывісты з гомельскай рэгіянальнай арганізацыі «Талака» павязалі на помнік Анатоля Сыса нацыянальны ручнік, вытканы супольна па неглыбоскіх матывах адмыслова да свята паэзіі ў Гарошкаве.

З могілак імпрэза перамясцілася да роднай хаты Анатоля ў цэнтры вёскі Гарошкаў.

Тут у роднай хаце сабраны кнігі, прыватныя рэчы, карціны, абразы, фотаздымкі, якія акружалі Анатоля Сыса пры жыцці. Усё гэта зберагаюць сёстры паэта Тамара, Валянціна, брат Віктар.

З нізкага восеньскага неба падчас паэтычных чытанняў стаў церушыць першы снег. Але на панадворку не пераставалі гучаць вершы Анатоля й прысвячэнні яму ў выкананні прысутных беларускіх паэтаў. Барды Тацяна Беланогая і Зміцер Бартосік спявалі песні.

Згадвалі тут і Алеся Бяляцкага, які ў свой час таксама спрычыніўся да арганізацыі свята паэзіі ў Гарошкаве, а цяпер знаходзіцца за кратамі за сваю праваабарончую дзейнасць.

Рэй на панадворку вёў паэт і сябра Анатоля Эдуард Акулін: «Я лічу, што для Беларусі паэзія Анатоля Сыса й ёсць яе духоўная сутнасць. Такіх паэтаў, як Анатоль, нараджаецца вельмі мала. Я даўно паставіў для сябе яго ў адзін рад з такімі творцамі, як Янка Купала, як Максім Багдановіч. Анатоль Сыс — гэта наш беларускі дух».

Барыс Пятровіч уручыў нядаўна прынятаму ў Саюз пісьменнікаў паэту Яўгену Сергіенку пасведчаньне сябра арганізацыі. Алесь Пашкевіч прачытаў прысвечаны 20 гадоў таму Анатолю Сысу верш. Старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч, які таксама прыехаў у Гарошкаў, перакананы, што свята паэзіі тут будзе неўзабаве адзначацца на дзяржаўным узроўні, а магіла й родная хата Анатоля абавязкова набудуць статус дзяржаўных помнікаў культуры.

У межах свята адбылася прэзентацыя кніг серыі «Кнігарня пісьменніка»: «Стрэмка» Сержука Сыса, «Святая вада» Ларысы Раманавай, «Около облака» Генадзя Лапаціна, а таксама юбілейнага, 60-га нумара часопіса «Дзеяслоў», у якім ёсць прысвячэнні і Анатолю Сысу.

**Паводле www.svaboda.org**

# СЛАВУТЫЯ СЫНЫ

**У магілёўскай гарадской бібліятэцы адбылася літаратурна-музычная вечарына «Славутыя сыны зямлі беларускай», прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа і Янкі Купалы.**

На вечарыну былі запрошаны вайскоўцы магілёўскай вайсковай часткі 5523. Яны з вялікай цікавасцю праслухалі аповед пра жыццё беларускіх песняроў, убачылі дакументальны фільм, паслухалі вершы паэтаў у выкананні артыстаў народнага тэатра Палаца культуры вобласці.

Старшыня магілёўскага аддзялення СБП Мікола Яцкоў расказаў пра асабістыя стасункі Якуба Коласа і Янкі Купалы, пра іх ролю ў станаўленні самасвядомасці беларускага народа ў перыяд грамадска-рэвалюцыйных зменаў пачатку XX стагоддзя. Завершылі вечарыну песні — Мікола і Ала Яцковы выканалі цыкл «Ваяцкіх песняў» Янкі Купалы, што вельмі спадабалася вайскоўцам, якія дружна падпявалі, а потым выказалі жаданне вывучыць некаторыя з песняў у якасці страявых.

# У СВЯТЛЕ «ЖЫРАНДОЛІ»

**Жырандольцам**

*Жырандоля, жырандоля —*
*льецца песня у прасцяг:*
*наша слова, наша воля,*
*наш бел-чырван-белы сцяг!*

*Жырандоля, жырандоля!*
*Рэха коціцца за Буг:*
*наша сонца, наша доля,*
*баразна, ралля і плуг.*

*З жырандоляй, з жырандоляй —*
*не загінем мы, сябры, —*
*як акрыленыя воляй*
*Белавежскія зубры!*

Такім экспромтам-прысвячэннем намеснік старшыні ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Эдуард Акулін распачаў свята Кнігі, зладжанае сябрамі Брэсцкага аддзялення СБП у памяшканні аднаўленага будынка Цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя А. С. Пушкіна. Пасля віншавальнага слова сталічны госць выказаў падзяку за плённае супрацоўніцтва і перадаў дырэктару бібліятэкі Святляне Сямашка 9 тамоў твораў Васіля Быкава, выданнем якога займаецца пісьменніцкая арганізацыя. Затым па чарзе бралі слова берасцейскія творцы: Васіль Дэбіш, Алесь Каско, Леанід Філатаў, Мікалай Аляксандраў, Леанід Валасюк, Мікола Сянкевіч, прэзентуючы свае новыя кнігі і творы, надрукаваныя ў чацвёртым нумары літаратурнага штогадовіка «Жырандоля».

Падсумаваў вынікі літаратурнага года старшыня Брэсцкага аддзялення СБП Іван Мельнічук.

Хораша, на высокай паэтычнай ноце правяла вечарыну-прэзентацыю паэтка і літаратуразнаўца Святлана Варонік.



**Эдуард Акулін перадае дырэктару бібліятэкі імя А. С. Пушкіна Святлане Сямашка Збор твораў Васіля Быкава**

МАНАЛОГ

# РАЗБІТЫЯ СКРЫЖАЛІ ЛЁСУ

Алесь ЗВОНАК

## Радавод

«Я — ураджэнец Мінска. Але тагачасны Менск быў не такі, як цяпер. У цэнтры месцілася ў асноўным гандлярска-яўрэйская арыстакратыя й імперскае чыноўніцтва, а ўся ўскраіна была беларуская, напаўвясковая.

Бацька мой — случак, з сяла Грыцавічы Слуцкага павета Менскай губерні. У яго было чатыры браты, на якіх — чатыры дзесяціны зямлі. Мой бацька зваўся Барыс. Ён пайшоў да Радзівілаў у батракі. А потым — прызвалі ў войска. Адваяваў тры вайны, завяяваў дзірку ў шынялі...

Маці мая — ігуменская. Яе сям'я складалася з дзесяці чалавек, жыла ў вёсцы Ўзгорак. Гэта паміж Рудзенскам і Пухавічамі. Называлі тады гэта месца яшчэ і Дзявяты раз'езд. Туды мы часта з бацькамі адпраўляліся збіраць бульбу, каб не памерці з голаду. На Дзявятым раз'ездзе трэба было на хаду саскокваць — пасажырскія там рэдка спыняліся. Прыгадваецца, бацька ўжо выскачыў, я ж толькі хацеў — знізу слупкі жалезныя... павіснуў адной рукой, а на хуткасці мяне ветрам паміж вагонаў занесла. Неяк утрымаўся і, як мінулі слупкі, выскачыў. Перакуліўся ўніз пад насып, устаў і — да бацькі, а той... плача...

У 1914 годзе бацьку забралі на фронт, нягледзячы на тое, што ў маці — трое дзяцей. Есці не было чаго, працы — таксама. Таму я, як сын салдаткі, трапіў у дзіцячы дом. На цяперашняй Ленінградскай знаходзіўся драўляны будынак дзіцячага прытулку імя царэўны Тацяны Раманавай. Ён і стаў маім другім домам. Там крыху навучылі і грамаце. А з 1918 года нам перасталі даваць харчы, не ашчэдрыліся нават на звычайную баланду з прусакамі. Давялося некалькі гадоў прабыць у батрацтве...

## Праблескі ў агні

З 1929 года рэдагаваў часопіс «Маладняк», крыху «набедакурыў»: узяў ды павялічыў яго памер, і да верасня выйшаў ліміт паперы... Нас утрымлівала маладзёжнае выдавецтва «Чырвоная змена», яго былі і тэхнічныя сродкі. А ўсе рэдактуры, карэктуры рабіў адзін я. Але нядоўга, потым прыйшоў Платон Галавач.

«Маладняк» — гэта вялікі фронт пралетарскай літаратуры. 500 пісьменнікаў... гэта быў народны ўздым, калі масы прасякнуліся адчуваннем таго, што будуецца наша беларуская рэспубліка, дзяржава. Усе цягнуліся да беларускай культуры. А ўсведамленне, што мы народ, — ці не ўпершыню прабудзілася з такою моцай у беларусаў, асабліва — моладзі. І яна ішла ў літаратуру.

Вялася барацьба найперш ідэйная, а не класавая. А як зразумець выраз «ліквідацыя кулацтва як класа»? Гэта ж не клас. Клас — сялянства, людзі, якія звязаны з зямлёй, клас земляробаў. Бо не бывае ж, скажам, токарнага пралетарыяту, кавальскага... Гэта проста гістарычная недарэчнасць, сімвал грамадскага абсурду. Паднялася цёмная маса прахадзімцаў, гультаёў, п'яніц. Усё гэта зладзейства пайшло ў кіраўніцтва...



Алесь (Пётр Барысавіч) Звонак (1(14).2.1907–2.2.1996) — асоба ў беларускай літаратуры значная, непаўторная і незабыўная. Для тых, прынамсі, хто пра тую літаратуру ведае.

Яго лёс: бурапенная маладосць з галавакружнымі паэтычнымі ды грамадскімі зрушэннямі, сталінская апраметная, калымскі чысцец — і жыццёва-творчы фінал: ад Хрушчова да першага прэзідэнта незалежнай Беларусі...

Гэтая гутарка вялася па прапанове галоўнага рэдактара колішняга часопіса маладых літаратараў «Першацвет» Алеся Масарэнкі — ва ўтульнай і амаль парнаскай кватэры спадара Звонака, вокны якой выходзілі на тагачасны праспект Францыска Скарыны і нязменную філармонію, вялася ў час, калі прагрымеў мовазабойчы рэферэндум, калі ў Мінску гасцяў чарговы прэм'ер Расіі (якога нязломны і дальнабачны паэт-лагернік называў Чарнамырдзікам) ды калі вырашаўся лёс шлагбаўмаў на беларуска-расійскай мяжы...

Праз 17 гадоў шмат што ў паэтавым маналогу бачыцца і сімвалічным, і знакавым, і — нават — аптымістычным. І ў многім тояцца адказы — на наш заўтрашні дзень, адказы, якія ўсё сваё жыццё Алесь Звонак шукаў і ў сваёй паэзіі:

Не ўцячэш ад самога сябе,
Лбом сцяны не праб'еш,
І жыццё, як іржавы ланцуг на нагах,
Бязудзельна бразгоча.
Хіба ж мудрасці Бог
Ніспашле сваю волю табе,
Каб адолець ты змог
Чарнарыззе бясконцае ночы?!

Далей утвараюцца «БелАПП», «Узвышша», «Полымя», «Літаратурная камуна» і «Праблескі». Адным з арганізатараў апошняга стаў я. Гэта была пралетарска-сялянская літаратурная суполка. Узначальваў яе Алесь Гурло, цудоўны чалавек, цудоўны паэт-марыніст. У «Праблескі» уваходзілі Нічыпар Чарнушэвіч, Васіль Каваль, Тодар Кляшторны, Валерый Маракоў, Сяргей Серада (Дарожны), Віктар Казлоўскі, Ізраіль Плаўнік (брат Змітрака Бядулі), Сяргей Фамін, Янка Бобрык. З Бобрыкам, які потым быў загадчыкам аддзела культуры Ленінградскага гарана, мы сябравалі з першых дзён, разам былі ў аспірантуры, толькі ён — па кінематаграфіі, а я — па тэатразнаўстве. Утрох — я, Бобрык і Туміловіч — мы выдалі першую тоненькую кніжачку вершаў «Пунсовае ранне»...

З 1931 да пачатку 1935 года я знаходзіўся за межамі Беларусі. (Памятаю, прыехаў у Менск і пачуў аб забойстве Кірава, падумаў: «Добра, што паспеў выехаць, а то захапілі б у «яжовыя» рукавіцы і мяне».)

Так што ў тых менскіх «контргрупоўках», «арганізацыях», якія мне прыпісваліся пасля арышту, я не мог браць удзел: два гады быў у Маскве, затым — у Ленінградзе.

## Па шляху навукі

Пасля Менска (1931 год) я паехаў «перавучвацца» ў Маскоўскі ўніверсітэт, затым трапіў у аспірантуру тэатральнага камбіната. Вельмі захапляўся тэатрам, шмат пісаў пра яго. Намі кіравала «вядомая» Ганначка Фурманава, жонка Фурманава, кабета ў гадах, вельмі любіла маладых студэнтаў... А потым Станіслаўскі арганізаваў пры Маскоўскім мастацкім тэатры акадэмію, куды трапіла частка тэатралаў. Некалькі ж чалавек, сярод якіх і я, расфарміравалі. Загадчык сектара, наркамасвеТы (якому тады павінна было «падпарадкоўвацца» мастацтва) Агол пасылаў мяне ў Горкі... Я ж атрымліваў беларускую стыпендыю і, натуральна, хацеў ехаць толькі на Беларусь...

А на калідоры нечакана сустрэўся прафесар Паўлюк Шукайла (той самы беларускі паэт, з якім мы разам вучыліся ў БДУ. І што дзіўна: я паступіў на год раней... Ён паехаў на курсы Камакадэміі, год прабыў там і паступіў у Інстытут чырвонай прафесуры, закончыў яго, а я — яшчэ толькі аспірантуру. Як аказалася, ён у Ленінградзе віцэ-прэзідэнт Акадэміі мастацтвазнаўства, там — 5 інстытутаў.

— Пры Навукова-даследчым інстытуце літаратуразнаўства ёсць аспірантура, — усміхаецца ён, — я цябе залічу, паехалі!

Такім чынам я трапіў у Ленінградскую акадэмію, потым праехаў у Менск, праз год напісаў тут дысертацыю пра Уладзіслава Галубка (карыстаючыся непасрэдна ягоным архівам — тым багатым куфэркам, які потым знік). Доктарская праца... А 14 лістапада 1936 года мяне арыштавалі. Ноч пертрасалі кнігі... Праз год — асудзілі на 10 гадоў зняволення, якое адбываў у лагеры Магаданскай вобласці...

## З лагернага часапісу

У лагеры, калі я ўжо стаў дзясятнікам па вытворчасці, начальнікам разведучастка (старшым, але, зразумела, такім жа вязнем), мне давалі найчасцей «блатныя» брыгады, і я іх усё ж «уціхамірваў». Адзін «дзяляга», памятаецца, нават з сякерай падскокваў... Тады капалі шурфы (калодзежы да перасячэння пласта) на выбухі. На дне перад самым надыходам пласта клалі «пажогі»... І тут мне ў брыгаду даюць Суржыцкага, на якім 26 забойстваў лічылася...

Гавару яму:

— Ну чаго ты прыйшоў сюды? Ты ж працаваць не будзеш...

— За кого ты меня принимаешь?!

Я ў адказ:

— За рабацягу. А што табе даць? У шурф — не палезеш...

— Не-а!..

А зверху трэба альбо стаяць пры варатку, альбо ісці на сопку і прынесці сланніку. (Калі даходзіць да залатога пласта, трэба ўжо не ўзрываць, бо перамяшаецца ўсё, а класці на дне касцёр, сам паднімаецца наверх, а ён там разгараецца, і карысны пласцік адтойвае.)

— Ідзі на сопку і прынясі сланніку.

— Ладно! — узяў вяроўку, сякеру...

Я — на другую лінію (а яна праз 100 метраў). Ранняя вясна, але яшчэ мароз, снег... Прыходжу назад, а там — дзве галінкі сланніку (а ў тога Суржыцкага — толькі адзін лоб з чыгун).

— Ты што, — кажу, — здзекавацца з мяне вырашыў?

— А чего тебе?! На, давись!

— Чаго, — адказваю, — мне давіцца гэтым суком? Задавіць мяне, як і цябе, ГУЛАГ. Але ж прыйшоў на работу, то выконвай што-небудзь.

— Ах ты, командовать?! — за сякеру і на мяне. А я стаю на краі шурфа (адступаць няма куды) і стараюся больш-менш спакойна гаварыць:

— Вось што, Суржыцкі, за тое, што ты мяне засячэш, цябе расстраляюць—лягчэй табе не будзе. А мне такое жыццё недарагое — сячы, сукін сын! Але ці будзеш працаваць, ці — ідзі ў лагер...

—У, твою мать! — адшвырнуў сякеру і —злосны мат-перамат; але супакоіўся, зноў узяў сякеру і пацягнуўся на сопку. Я — на другую лінію, там затрымаўся, а здалёк відаць (сопка белая ж): паўзе ўніз цэлы воз...

Прыцягнуў, і як да гэтага:

— На, подавись!

— О, — усміхаюся, — тут ёсць чым... Вось што, Суржыцкі, на табе запіску, ідзі ў лагер, тры дні можаш гуляць і нікуды не выходзіць, ты трохдзённую норму выканаў. Ідзі з Богам. Мне цябе бачыць, табе мяне бачыць — непрыемна. Ідзі...

Назаўтра прачынаюся ў бараку — штаноў няма!

— Завіце, — кажу, — старасту... Так на работу я ж не магу ісці.

І яшчэ ў кішэні 30 рублёў грошай было... Ну а хто гэта зрабіў — зразумела, што блатныя. Свае ж наробіцца, спяць як мёртвыя — не да гэтага. Схадзілі ў капцёрку, прынеслі мне нейкія дзіравыя штаны. Надзеў і пайшоў на вытворчасць.

А Суржыцкі з таго часу да мяне не прыходзіў, толькі чутка пайшла, што ён нідзе дагэтуль не працаваў, а ў Звонака — працаваў. Прыходжу вечарам — ляжаць мае штаны, адсціраныя, адпрасаваныя нават, і трыццаць рублёў наверсе. І нікога няма...

Больш пасля таго да мяне ніхто не чапляўся — закон у бандытаў строгі: калі «галава» даў каманду — знайшлі, як загадаў Суржыцкі, — усё і вярнулі. З таго часу я і быў «пад наглядам»: кладзі што хочаш, дзе хочаш — ніхто не возьме. Барон...

Пасля гэтага начальства мяне вырашыла «разыграць». Перадаюць каманду: «На вахту, прынімаць брыгаду!» Паглядзеў, а гэта... «джаз Уцёсава»: у аднаго перавязана шчака, у другога — рука, у трэцяга — нага, з кастылём ходзіць... «Самарубы». Сабралі ўсіх у брыгаду, каб даказаць, што не ўсе ў мяне працуюць.

«Ну, — думаю, — не на таго напалі, не на таго... Я вас куплю, а не вы мяне!»

Што ж, загад начальніка лагера — каменданцкае рыла — Шыраева. Стаіць, пасміхаецца...

А мы: пайшлі — пайшлі. Замовіў я ў цэху кайлы, лапаты, прахадную — шлюзок такі, карытка, каб золата прамываць.

— Вось што, — кажу, — хлопцы. Канешне, начальства здзекуецца і з мяне, і з вас. Я вытворнік, не лекар, дапамагчы вам нічым не магу, але давайце дамовімся так: пайку ратаваць трэба. На штрафныя вас пасадзіць не магу (а штрафныя — 300 грамаў хлеба і міска баланды, праз тыдзень чалавек паміраў) — сумленне не дазваляе. Будзем нешта рабіць... — Хоць што: адзін без нагі, другі без рукі, трэці — жывот разрэзаў, керасіну ўпуціў...

Але я браўся захаваць пайку. І каб не бальнічных 400 грамаў давалі, а 800 — вытворчых!

Прыйшлі мы да ручайка. Там вадзічка, дамбачка...

«Ну, — разважаў, — знойдзецца ж стукач... Трэба рабіць так, каб не ведалі...». А ў мяне ў кішэні махорка, змешаная з золатам, дзве жмені махоркі — і жменя золата. Я скручваю цыгарку, закурваю і гавару:

Працяг на стар. 12 (4) ▸

▸ МАНАЛОГ

# РАЗБІТЫЯ СКРЫЖАЛІ ЛЁСУ

◂ **Працяг. Пачатак на стар. 11 (3).**

— Паспрабуем во гэты борцік, можа, тут што ёсць... — Нагрэблі яны пароды, я куру і адмываю, а попел усё ў прахаднушку збіваю. — Вось, хлопцы, — кажу, — ёсць залацішка. Колькі намыем — столькі наша. Грабіце хто нагой, хто рукой, але толькі варушыцеся, каб бачна было, што робіце. Начальства будзе праходзіць, дык хоць не сядзіце, не падводзьце мяне.

А я дагэтуль дзясятнікам па разведцы быў і заначку сабе пакідаў — пад каменем, у гэтак званых капсулах: па фунце, па 200 грамаў... Так што золата дзе ўзяць — у мяне было.

— Ідзіце, — загадваю сваім, — наперад... — а сам гэтым часам да валуна — дастаў, адсыпаў грам 15 (многа ж насып — здагадаюцца!).

Вось так. Вяртаюся ў лагер, прывёў брыгаду, у касу здаў «выручку», атрымаў распіску... А тут і начальнік:

— Ну как, работнули?!

— Што гаварыць, няшчасныя людзі... Корпаюцца патроху, працуюць...

— Не может быть... — бярэ распіску і толькі незадаволена «дакае»...

Выдалі нам вячэру: па лыжцы кашы нейкай...

Назаўтра — да мяне гэтую ж брыгаду... Ізноў пайшлі, і я — трошкі больш падсыпаў. А тут шкандыбае начальнік участка Іваноў, не любіў заключоных, «гнюсіўся» (некаторыя былі і людскія: і паздароўкаюцца, і распытаюць — усё ж зэкі шмат хто з вышэйшай адукацыяй, «інтэлігенты ў мінулым»).

Мае ўцягнуліся ўжо, стараюцца... А я ўсё падсыпаю і падсыпаю...

Начальнік хмыкае, а я заступаюся:

— Што вы хочаце ад іх? Па граму намылі — і дзякуй скажыце! Яны ж працуюць!

Ну а на трэці дзень — усё: «Адставіць». Мне далі старую брыгаду, гэтую ж — расфарміравалі...

У 1936 годзе савецкія газеты пісалі аб тым, што японцы затрымалі савецкі гандлёвы цеплаход «Індзігірка» і прымушалі каманду даць сведчанні аб тым, што яны везлі зэкаў. Заканчвалася сцверджаннем, што «это всё буржуазная клевета», каманда змагаецца гераічна...

Доўга вяліся перамовы, нарэшце старгаваліся і каманду вярнулі.

Атрымалася ж там так, што капітан выпіў і пайшоў у каюту спаць. За яго прыняў вахту старпом Касіцын, з якім мне давялося потым разам сядзець. Праходзілі пралівам Лаперуза — гэта каля самых японскіх берагоў (на высылку я ехаў таксама на «Індзігірцы», дык нават чуваць, як шуміць іхні горад, прыстань.

Але калі затрымаюць японскія вартавыя катэры — цеплаход трэба было тапіць... Косця-капітан (так мы звалі паміж сабой былога старпома) аднойчы прызнаўся мне: «Тапіць шэсць-сем тысяч чалавек... А пайшлі яны...».

Тады «Індзігірка» везла вольнанаёмных і «зэкаў» (апошніх у твіндэках — разгароджаных жалезных трумах). І надарыўся 11-бальны шторм, нехта памыліўся, і цеплаход наляцеў на скалу, пачаў тануць. Японцы кінуліся ратаваць, але перавярнуўся адзін іхні катэр, другі... І ўсё ж 402 чалавекі яны выратавалі: частку вольнанаёмных, што былі на палубе, частку каманды. А тысячы, што былі ў трумах (маракі кінуліся да люкаў: «Там людзі, трэба выпусціць людзей!», а начальнік канвоя: «Прекратить!») загінулі. Расказвалі, што калі вадалазы ўжо зваркай выразалі барты, то некаторых, хто паспеў учапіцца за выступы люка, адарваць было проста немагчыма — закамянелі...

Капітана пасля гэтага расстралялі, старпома пасадзілі, а частка каманды і вольнанаёмныя не вярнуліся: хто з'ехаў з Японіі ў Аўстралію, хто ў Амерыку, Канаду... Трэба прызнацца, што калі ў час вайны над намі кружлялі японскія самалёты, дык мы марылі тады, каб японцы акупіравалі нас і забралі да сябе — можа, тады б хоць выжылі... Бо ў лагеры везлі кожны дзень параходамі, цягнікамі, а назад — у год ці два раз адпраўляўся цягнік, які звалі «Пяцьсот вясёлы» (за дзяржаўны кошт вёз да Чыты)…

Давялося мне ў лагеры пабачыцца з родным малодшым братам...

Быў сярод нас Васька Станічны, рускі. Ён уладкаваўся «пад бытавіка», так, да прыкладу, як Грахоўскі, як Астапенка. У нас артыкул беларускі — 72А76, у перакладзе на рускі кодэкс — 581011: «групавая контррэвалюцыйная арганізацыя». Здаецца, якая розніца ў гэтых лічбах — а аказваецца, што 11 нашмат страшней за 10. 10 дае пяць гадоў, скончыў і вызваліўся, а 11 — яшчэ і пяць гадоў паражэння ў правах (значыць, ужо не 10, а 15 гадоў з кляймом)...

Прыходзіць неяк гэты Васька Станічны да мяне і пытае:

— У цябе брат ёсць на літару К?

— Ёсць, — адказваю, — Кастусь.

Дык вось, — тлумачыць, — мне трапіла ў рукі газета «Колымская правда», а ў ёй — артыкул, падпісаны: «Начальник строительства Звонак К.». Другое ж прозвішча — галоўнага інжынера...

Што тут проста аднолькавае прозвішча — быць не магло, бо другога чалавека (прозвішча яго цяпер сцерлася з памяці) я тады ведаў добра — калі жыў яшчэ ў Ленінградзе, яны ўдваіх з братам да мяне прыходзілі (Кастусь скончыў Кіеўскі цеплабудаўнічы інстытут і працаваў на Пуцілаўскім інжынерам-цеплатэхнікам), разам бралі чарку...

— Як, — кажу, — ён мог сюды трапіць? (Гэта быў саракавы год.) Ты, Вася, ноччу дзяжурыш на тэлефонным вузле, тут указана Стрэлка (быў такі пасёлак). Даведайся, што там за будаўніцтва, пакліч гэтага начальніка і спытай, ці ёсць у яго брат пісьменнік Алесь Звонак. І ўсё... Калі той адкажа «не», павесь трубку, калі «так», перадай: «Ваш брат — на Бурхале». (Гэта быў наш прыіск.)



— Добра, — згадзіўся Васька Станічны, а праз дзень вярнуўся і шэпча на вуха:

— Я гаварыў з тваім братам!.. Ён перадаў, што, калі будзе праязджаць міма, пастараецца сустрэцца.

Праходзіць нейкі час, падбягае да мяне Сенька Шэйман, зямляк мой — радасны такі! — і ўручае мне крагі — глыбокія, мехавыя, а ў іх — напхана грошай.

— Знаеш што, — усміхаецца, — я твайго брата бачыў...

— Як?!

— Ну... Ідзе машына, грузавая, «Студэбекер». З яе мне нехта выкрыкнуў: «Гэй, жыдок, ты што тут швэндаешся?» — «Ну а што мне рабіць? Гэта ты начальнік, у кабіне, а я ўсё — нагамі», — адказваю. — «Ну добра, добра... Можа, ты выпадкова чуў прозвішча Звонак?» — «Ды як не чуў... Алесь Звонак, з Менска!.. Сябар мой закадычны». — «Як, сябар?» — «А проста, мы ў адным лагеры, разам». Ён выскачыў з кабіны і давай мяне абдымаць. Часу няма, машына гудзе, шафёр хваляецца... «Вось што, — задумаўся, — я буду ехаць назад (а ён ехаў на Усць-Калыму, там Эканампраект знаходзіўся), бачыш, крайняя шахта — тэрыкон стаіць, конус?.. Вось тут недзе і чакайце вечарам. Там і пагаворым».

Надыходзіць вечар, я і кажу Сеньку:

— Хадзем. (Мы бесканвойныя былі, я — ужо дзясятнік: брыгада шукала, а я правяраў — ёсць золата ці не, потым дакладваў участковаму, пустая лава ці не.) А восень была — дзень з гадзіны дзве пашарэе, ды зноў змрок. Выправіліся ў дарогу. (А гэта кіламетраў з пяток.) Сам жа прыіск займае аграмадную тэрыторыю. Наш быў плошчай большы, чым уся Менская вобласць...

Ідзе машына па трасе — слепіць. Мы стаім. Праехала міма. За ёй — другая, трэцяя, дзясятая...

— Знаеш, да паверкі гадзіна засталася... — хвалюецца Сенька, — дайсці толькі... (А на паверку не явішся — аб'явяць пабег. Стралкоў пусцяць, сабак, будуць лупіць, катаваць, тэрмін дадавяць. Хоць і ведаюць, што ніхто не будзе адсюль уцякаць — няма куды! Але ім трэба аформіць «поимку в побеге врага народа», а за гэта атрымаць нейкую там «птушачку»...)

— Ну яшчэ пяць хвілін, яшчэ... — угавораю. Няма!.. Мы — бягом у лагер. Заскочылі ў барак, толькі распрануліся і да печкі абагрэцца, бачу, заходзіць нехта не свой — у кажушку (мы ж усе ў бушлатах), шапка добрая, і нешта пытаецца... У мяне сэрца ёкнула — гэта наконт мяне.

— Скажыце, у вас Звонак ёсць? — пытае ён у бліжэйшага.

— Ёсць, вось ён.

— Я, — гаворыць, — не пайду... Перадайце, што яго ў машыне чакае на прахадной брат, я — вадзіцель, — і знік.

Я да вартавога:

— Выпусці за вахту.

— Не магу, — адказвае, — паверка праз дзесяць хвілін.

А я ж не магу сказаць, што там брат мяне чакае: «связь с врагом народа» прышыюць, гэта ж чалавека загубіць!

Ужо Хрыстом Богам малю:

—Ну на хвілінку выпусці, трэба!

— А навошта трэба?

— Потым раскажу, пусці, я нікуды ад вахты не пайду, вось толькі да машыны гэтай.

— А што там рабіць будзеш?..

У гэты час заходзіць на вахту чалавек у кубанцы, бушлаце цёплым — вольнанаёмны, у белых бурках — з начальства, і кажа:

— Таварыш вахцёр, у мяне тут машына нешта заглохла. Я начальнік будаўніцтва на Стрэлцы, вось мае дакументы. Мне б каго з талковых механікаў, паглядзець, што з машынай...

— Пашукаем...

— Дазвольце, я сам.

— Добра, праходзьце...

А я стаю метраў за дзесяць і яму, брату свайму, тайком:

— За барак, за барак... — Гэта каб з вахты не было відаць, як мы абдымацца пачнём...

Забеглі ў барак, там нешта накшталт кабінкі, хлопцы свае — сыйшлі.

Я кажу яму:

— Слухай, ідзі адсюль, Госпадам Богам прашу, ідзі!— Ну... тут у слязу, канешне, — дзе давялося сустрэцца!.. — Назнач, — прашу, — сустрэчу ў любым іншым месцы, а то цяпер паверка, не выпусцяць з вахты, дакументы праверыць — прозвішчы супадаюць, вызавуць опера і забяруць!

Ён з кішэні — грошы, перакінуліся двума-трыма словамі, выгнаў яго я за вахту, і тут: «Бам, бам, бам!» — на паверку б'юць, і яны ад'язджаюць пад гэты стук...

Вось і ўсё спатканне...

Больш мы з Кастусём не бачыліся. Ён загінуў на фронце. Быў начальнікам нейкай іншай будоўлі, па-мойму, электрастанцыі, а потым звязацца ніяк не маглі. Бяда яшчэ і ў тым, што я да яго людзей засылаў, ён ім даваў грошы, прадукты — а мне іх не перадавалі...

А інжынеры, сярод якіх быў і мой брат, як пачалася вайна, склалі ўсе, што былі, свае грошы, каб купіць танк і на ім граміць фашыстаў. Іх адазвалі і, як я высветліў пасля вайны, не далі ніякага танка, хоць грошы і забралі — нешта каля ста тысячаў. А адправілі ў Іркуцк і сфарміравалі там Сталінскую дывізію сібіракоў — стралковую, ніякай брані...

Мне з хлопцамі давялося злавіць трох мядзведзяў...

Нас, прызначаных у вайну на знішчэнне, закінулі ў тайгу. Не выдалі мне ні фармуляра, ні даведкі — толькі маленькі цэтлік, на якім было напісана: «Звонак Пётр Борисович. Статья 581011». Гэта як умоўны знак: на расстрэл. Калі немец падыходзіў да Масквы, усё змянілася: знялі ўзмоцненыя канвоі...

Быў там, у тайзе, адзін закінуты ўчастак. Начальнік базы Нікіфараў паказаў мне пастку на мядзведзяў, растлумачыў, як ёю карыстацца. Ну і вырашыў я праверыць... Узяў трох з брыгады, дайшлі да патрэбнага месца, пачалі здалёк пастку агледжваць...

Мядзведзь калымскі чорны, маленькі, з лысінкай, але — людаед, на чалавека ідзе. А калымскія могільнікі — сотні тысяч трупаў — у мерзлаце, і забураны неглыбока, на які метр. А бывае на Калыме летам да трыццаці градусаў гарачыні... Ад могільнікаў смурод ідзе далёка... Мядзведзь жа любіць прытухлае мяса. Вось і цягнуцца туды мядзведзі-трупаеды.

Пастка ж простай канструкцыі: з жардзін робіцца паветка, наверсе наважаны плашкі — з лістоўніцы, а яна, налітая смалою, цвёрдая і цяжкая, як сталь, — сякера адскоквае, знізу — жардзіна да яе прымацавана, дошка з засечкай, на ёй — прыманка, ход спецыяльны прароблены... Сухой травою прысыпаюць. Мядзведзь чуе пах, ідзе па дошцы, тая з засечкі саскоквае — і цяжэрнай плашкаю яму — па карку.

Ну вось глядзім мы — здаецца, чарнее штосьці!

— Падыдзем бліжэй!

— Хадзем... — а ў нас толькі нажы, вяроўка і сякера.

— Па-мойму, варушыцца, — кажа нехта.

Сталі, прыгледзеліся... Пачынаем спрачацца — варушыцца ці не варушыцца мядзведзь. А я ж — «начальнік», павінен праяўляць храбрасць.

— Добра, — кажу, — хадзем, праверым! — а сам думаю: «Ну, халера, а раптам выскачыць — што я з ім рабіць буду? Што гэта сякера? Яшчэ замахнуцца не паспею, як ён мяне задзярэ — ён спрытнейшы, ды і адкуль жа ў мяне сіла, галоднага?»

Ажно прыйшлі — а пад пахамі ў яго ледзь-ледзь цёпла...

Звязалі мы яму лапы, дзве жардзіны прапхнулі і ўчатырох панеслі — ён лёгкі, з кілаграмаў сорак-пяцьдзясят быў, але ж і сілы ў нас не было, і дарога — толькі падтайка пайшла — слізкая, купін шмат...

Дацягнулі, скуру злупілі. Васька Болатаў адразу папрасіў сабе галаву... Тут жа яе ў кацёл, звырыў і еў некалькі дзён. Мяса ж мядзведзя чырвонае, а як зварыш — ажно чорнае... Смачнае. Скуру мы — начальніку. За гэта нам прэмія: спірту пару літраў, кансерваў. З мяса насеклі і нарабілі катлет... Жыць можна! Так дні з тры ласаваліся. Толькі костачкі ад мядзведзя засталіся...»

**1995 г.**

**Запісаў Алесь ПАШКЕВІЧ**

ВЕРШЫ

# А ЗІМА ПРЫХОДЗІЦЬ НЕЧАКАНА…

## З БЛАКНОТНЫХ СТАРОНАК

Васіль ЗУЁНАК

***

*Колькі золкіх дзён вясну чакаеш,*
*Колькі ночаў выстылых не спіш, —*
*Як з прашчы, няйначай, прашчур камень*
*Кінуў, — з ім і ты: ляціш, ляціш…*

*А зіма прыходзіць нечакана*
*І касуе сэнс календара:*
*Вечар знаўся летам, а ўжо ранак*
*Выстудзіў на носе снегіра.*

*З чорнай ночы — белая раскрыла*
*Крылы — узляцець насустрач дню,*
*І ўжо сонца набірае ў жылы*
*Ледзянога, звонкага агню…*

2002

### Паляванне

*Ён бег, як ляцеў,*
*І на снезе гарачым глытаў*
*Напоўніцу след.*
*І крыві падступная смаката*
*Збівала прыцэл,*
*І свінцова маўчаў дуплет.*

*На мушку схапіць*
*Гэты бег не трапляла рука —*
*Такі быў разгон!..*

*Ды чаканне курка —*
*Не спіць,*
*І патрон*
*Гарантуе скон.*

*Не пытае — каму:*
*Знае — сцвердзіцца ўрэшце прыцэл.*
*Вось той міг —*
*Трыумфуе свінец:*
*Воўк ахвяру насціг,*
*Супыніўся —*
*І грымнуў стрэл!..*

*І асеў ганец,*
*І аціх…*

*Ну а быў шчаслівейшы за ўсіх*
*Шэры зайка-ўцякач:*
*За гарой засмяяўся праз плач:*
*«От як крыўдзіць, ваўчына, малых!..»*

2004

### Пунктуацыя

*Як у бацькі сын-таксіст*
*З адукацыяй,*
*Знае спраўна сінтаксіс*
*З пунктуацыяй.*

*З пункта А да пункта Б*
*Колы коцяцца,*
*З кушам, як ансамбль «Любэ», —*
*Не маркоцяцца!..*

*Спраўна рэй вядзе саліст*
*З абаранкаю:*
*З ездакамі папуліст, —*
*Згодна з рангамі.*

*Хоць дыплом абараняў*
*З філалогіі,*
*«Мэрс», як пугаю каня,*
*Газам шлёгае…*

*Паліглот: без тармазоў*
*Слова ўсякае, —*
*Мову тую, што «з нізоў»,*
*Зваў «трасянкаю»…*

*Знак прыпынку для яго —*
*Рангу кожнага —*
*Быў за крэўніка ў таго,*
*У дарожнага.*



*Едзь, як водзіцца ў людзей,*
*За наяўныя, —*
*Адпаведныя яздзе,*
*Знакі спраўныя:*

*Дзе спыніцца — кропкай стаць*
*Шляху коўзкага;*
*Дзе абачліва стрымаць*
*Хуткасць коскаю;*

*Дзе працяжнікам пагнаць*
*Пад «цаглінаю»*
*(Знак: «дайшніку» аддаць*
*Дань павінную)…*

*Толькі клічнік у яго*
*Скасабочаны:*
*Слоў такіх: «Уга!..», «Ого!» —*
*Знаць не хоча ён.*

*З некрутымі — «пык» ды «мык» —*
*Назаляецца, —*
*Мовіць «дзякую» язык*
*Адмаўляецца…*

*Гнецца клічнік у плячах*
*З вертыкальнага*
*Ў папрашайку-ірвача*
*Запытальнага.*

*Правярае кашалькі*
*Ганарыстыя,*
*І двухкроп'ем аганькі*
*Ў зрэнках бліскаюць…*

*На «трасянцы» ўсіх скупых*
*Так «цыганіць» ён,*
*Што прыпынку знакі ўміг*
*Разбягаюцца.*

*Клічнік гэткі! — звыш падай*
*Разлікоўвага, —*
*Знай, што гэта ў вас язда*
*Навуковая.*

*І «трасянкай» затрасе*
*І дарогаю, —*
*Тут яны ў хаўрусе ўсе*
*З філалогіяй…*

2004

### Парад

*На пляцы, дзе ўчора —*
*У касках,*
*Нібы шахцёры*
*Данбаскія, —*
*Не вугаль крышылі,*
*А праўдашукальнікаў*
*Па бруку тварамі цёрлі,*
*Рукі ламалі і шыі,*
*І дубінкамі поверх дубасілі, —*

*На пляцы тым сёння*
*Свята з парадам*
*Спраўляецца ўладнымі босамі,*
*І па бруку тым*
*Друкуюць загады*
*Тракі танкаў*
*Жалезна-босыя.*

*І які гісторыі выкрутас*
*Сцвердзіць яшчэ б,*
*Вежы вынюхваюць дуламі, —*
*Памагаюць пагоншчыкам мас*
*На дрэве жыцця*
*Зрабіць прышчэп*
*З філасофскаю скулаю,*
*Каб не здагадаўся ніхто,*
*Куды*
*Цячэ*
*Час:*
*З мінулага ў будучае*
*Ці з будучага ў мінулае…*

2004

***

*Вершы складаць — ніколі работай*
*Гэты занятак не называў.*
*На вечарынцы і лапці, і боты*
*Скачуць, як працы прыпар не даў.*

*Папрацаваць: паараць, ды пасеяць,*
*Ды пакасіць, ды пастагаваць…*
*А жыць па фантазіях адысеі —*
*Як і гаціць у аблоках гаць…*

*Ці прадаваць на базары плёткі:*
*Купяць-не-купяць — абы пагудзець.*
*Вершатварэння корань салодкі —*
*То і грызі, як рэпу мядзведзь.*

*І перад светам не выстаўляйся:*
*«Ах, як я здорава папрацаваў!..»*
*Маеш фантазіі — пазабаўляйся:*
*Бог дзеля радасці слова даваў!..*

2004

***

*Чаму быць, таго не абмінуць, —*
*Вырак той ніхто не перасудзіць.*
*Так, — ды ў невядомасць зазірнуць*
*Хочацца: а як яно там будзе?*

*І які адкрыецца прастор*
*У замежжы з іменем бязмежжа,*
*З чым душа сустрэнецца між зор —*
*За сцяной, што ўзводзіць*
*непазбежнасць?..*

2004

***

***Тры вышыні,***
***тры сілы знаю ў лесе…***
***З даўняга верша***

*Сам Уладзімір Караткевіч*
*Хвалу ў крэдыт узносіў мне,*
*А я смяяўся: «Гэта веліч,*
*Хутчэй, цябе не абміне».*

*Яго мой верш пра лес расчуліў.*
*А я — як у ваду глядзеў:*
*Пра Караткевіча пачулі*
*І ў нашай хаце, і ў людзей.*

*І дзіўнага няма нічога —*
*Я слова ў слова разгадаў:*
*Мне верш яго на мову Бога*
*Натхнёна лес перакладаў.*

*Галінка кожная ў нябёсах,*
*Карэньчык у глыбі зямлі*
*Мне прамаўляў ягоным лёсам*
*І днямі, што з вякоў прыйшлі.*

*І я — на тым лясным уліку,*
*Бо разумею і люблю*
*Я гоман лесу без'языкі,*
*Як мову родную сваю.*

2004

### Сляды

*Я помню зіму, калі з фінскай вайны*
*Марозныя пісьмы ішлі, як ільдзінкі,*
*І дрэвы ў садах не зазналі вясны:*
*Як з роты штрафной, ацалелі адзінкі.*

*Хоць безліч навалаў за стромай гадоў —*
*Час накручвае сёмы дзясятак, —*
*Памяняліся тры пакаленні садоў,*
*Тры разы абнаўляліся хаты,*

*Але памяць жыве — і ў людзей, і ў зямлі.*
*І калі за трыццаць па Цэльсію*
*Маразы сціскаюць іртуць, і калі*
*Зоркі з неба, як снайперы, цэляцца, —*

*Па абочынах Млечнага Шляху сляды*
*Бачу я ад Суомі з Карэліяй, —*
*То ідуць вяскоўцы праверыць: сады*
*Пасля сцюжы той ці адагрэліся…*

2005

### Самавізар

*Ён, здаецца, зусім жывы,*
*Нават палец правай рукі —*
*не крывы,*
*А раўнюсенькі, нібы ўказка, —*
*Шлях паказвае (робіць ласку)*
*У зямную сучасную казку.*

*Нават часам паправіць вус, —*
*Ну жывы, далібог, і не хлус! —*
*І гаворыць так складна і гладка,*
*Як пячэ бліны ці аладкі:*
*Што ні просіш — дае без аглядкі.*

*Знае ўсё, як павінна быць,*
*Нават знае, як гэта зрабіць.*
*Толькі — іншых рабіць павучае…*
*А калі абяцанні канчае —*
*Тут жа сам сябе выключае.*

*А назаўтра ў гэтай жа раме*
*Абяцае па новай праграме.*
*Бо ўчарашняе, знае, забылася,*
*У заблытаных снах згубілася…*
*(Так заўсёды людства дурылася…)*

*І адкуль у яго ўсё бярэцца,*
*І з якіх мяхоў раздаецца?!*
*Свой у дошку! Сябрук закадычны,*
*Ад-усякай-дзюркі-затычны.*
*Самагляд і ліхвяр механічны…*

*Для сляпых — павадыр-апарат:*
*«Вы наперад, а я назад…».*

*Самахват за ўладу аберуч,*
*Самажэнец з ёй і самажэрац.*
*Самы з самых у інтэр'еры —*
*Самараю абманныя дзверы…*
*Слухай раз, і яшчэ, і яшчэ раз,*
*Ды зважай: самавізар — хімера.*
*Бойся хлуса, што сам сабе верыць!..*

2005

***

*Забыліся вёсны, як вырай гукаць,*
*Забыліся сосны, як зрубы стаўляць,*
*Забыліся скрыпкі, як злюб велічаць,*
*Забыліся зыбкі, як дзетак люляць,*
*Забыліся печы, як хлеб выпякаць,*
*Забыліся плечы, як крылы ўздымаць…*

*Забыліся…*
*Колькі ж ланцуг той нізаць?*
*І некаму,*
*Некаму —*
*Успамінаць…*

2005

ФАНТАСТЫЧНАЕ АПАВЯДАННЕ

# ПРЫШЭЛЬЦЫ Ў АГРАГАРАДКУ

Сяргей ГРЫШКЕВІЧ




Малюнак С. Белаяра

Сутонела.

Над палеткамі СВК «Гагарынскі шлях» вісеў дрыготкі туман з дробнага саламянага пылу, які ўтвараўся ад работы збожжаўборачных камбайнаў. Там-сям важна хадзілі буслы. На ўскрайку поля стаяла старшынёўская «Ніва». Дзьмуў прахалодны ветрык. Сонца павольна апускалася за гарызонт.

Старшыня СВК Васіль Сыч глядзеў на поле і радаваўся, што сёлета, пэўна, удасца выканаць раённы план па нарыхтоўцы збожжа. Гэта абяцала не толькі партрэт на абласной дошцы гонару, але і ўнушальную прэмію. Старшыня часта дзяжурыў у полі: баяўся, каб падначаленыя падчас работы не ўжывалі спіртнога (з-за чаго магло здарыцца шмат непрыемнасцей) і каб пасля змены не злівалі з «МАЗаў» і трактараў хітра сэканомленую салярку.

Сыч добра памятаў, як два гады таму адзін камбайнер у працоўнай агоніі перамалоў таварыша, які мірна пасопваў у пшаніцы пасля дзвюх пляшак па 0,7, а летась другі работнік утапіў тэхніку ў возеры, заснуўшы за рулём у абдымках Бахуса. З гэтай прычыны старшыня нікому не давяраў і не хацеў несці адказнасць за глупства падначаленых.

Хацелася дадому. Але старшыня ведаў: яшчэ тыдзень — і можна будзе перавесці дух. А цяпер трэба трываць і цягнуць нялёгкую старшынёўскую працу. Балазе да пенсіі засталося ўсяго два гады.

Яшчэ тры гады таму Сыч нават не ўяўляў, што пасля пасады старшыні райвыканкама апынецца ў ролі кіраўніка самай адсталай у рэгіёне сельскай гаспадаркі, якая штогод давала стабільна высокі ўраджай пустазелля. На адным з пасяджэнняў аблвыканкама губернатар «наехаў» на Сыча за пастаянныя недадоі і недапрывесы, а той не вытрымаў і сказаў пры ўсіх, што калі Канстанцін Бубен кіраваў у свой час калгасам, то таксама не вылучаўся асаблівымі дасягненнямі. Губернатар такога здзеку не стрываў і тут жа адправіў «разумнага» Сыча ў адстаўку. Добра, што хоць удалося ўладкавацца кіраўніком гаспадаркі. З-за свайго доўгага языка Васіль Іванавіч усё жыццё пакутаваў…

Старшыня глядзеў на камбайны, што ланцужком расцягнуліся на полі, а таксама ўзіраўся за небакрай. У душы Сыч быў паэтам. У вольны час любіў пасядзець над паперай ды парыфмаваць пра веліч прыроды і любоў да радзімы. Вось і цяпер у галаве ўжо складваўся касцяк будучага твора: «Камбайны пруць, як танкі ў сорак першым, // Па сенажацях, поплавах, лугах… // Хачу свой край я бачыць лепшым, // Ляжаць і думаць у стагах». Сыч не прэтэндаваў на лаўры Янкі Купалы, але таемна спадзяваўся выпусціць зборнік вершаў на 300 старонак ды ўступіць у Саюз пісьменнікаў.

У задуменным настроі старшыня спачатку нават не зразумеў, што адбылося. Неба прарэзаў слуп святла, і праз імгненне наваколле страсянуў моцны ўдар. Акурат на непрыбраным пакуль участку поля… Неяк інтуітыўна Сыч адчуў, што не бачыць яму сёлета ні партрэта на дошцы гонару, ні ўнушальнай прэміі. Зноў вымову дадуць…

Ва ўзнятым пыле немагчыма было нічога разгледзець. Раз-пораз у цэнтры ўдару нешта ўспыхвала, як у фільме пра «Тэрмінатара».

«Не хапала яшчэ, каб усё згарэла», — мільганула ў галаве Сыча, і ён пабег на месца здарэння. Са спыненых камбайнаў таксама павыскоквалі людзі.

Усе акружылі пыльнае воблака і чакалі, пакуль яно хоць крыху ападзе. Праз нейкі час пачалі вымалёўвацца абрысы нейкага аб’екта, які бокам ляжаў у вялікай яміне. Адтуль веяла гарачынёй і згарэлай саломай. Сумнявацца не даводзілася — палова ўраджаю ляснула.

Усе стаялі і пільна ўглядаліся ў аб’ект. На ўражаных тварах людзей адлюстроўваліся страх і цікаўнасць адначасова. Ніхто не мог паверыць, што перад імі — касмічны карабель, які пацярпеў аварыю. «Няхай бы ўпаў лепш у лесе ці балоце якім, — круціліся ў старшынёвай галаве невясёлыя думкі, — з’едуцца цяпер сюды з усяго свету, апошні ўраджай павытоптваюць…» Каб гэтага не здарылася, неабходна было хутка ліквідаваць сляды катастрофы…

— Што рабіць з гэтым будзем, Васіль Іванавіч? — звярнуўся да старшыні адзін з камбайнераў.

Сыч моўчкі абышоў аб’ект. Дыск вышынёй два метры і метраў пяць у дыяметры. Ні люкаў, ні ілюмінатараў. Астатнія падыходзіць блізка пакуль не адважваліся.

— Тэрмінова прыбяром і працягнем уборку, — сказаў старшыня і пачаў набіраць па мабільніку кранаўшчыка. — І каб ніякіх размоў, ніякага ажыятажу…

Пад раніцу неапазнаны аб’ект стаяў у ангары са старой сельгастэхнікай. Што рабіць далей з караблём, ніхто не ведаў. Нічога дзіўнага з ім не адбывалася. Ды ў разгар уборачнай кампаніі ні да фантастыкі. Так і прастаяў аб’ект без увагі амаль да самай восені. Пакуль аднойчы не нагадаў пра сябе…

Напрыканцы жніўня падчас моцнага ліўня ў ангар ударыла маланка. Прашыла дах і трапіла якраз у тое месца, дзе стаяў загадкавы аб’ект. Вялікі разрад энергіі ажывіў яго. Праз дзень у караблі з’явілася адтуліна, праз якую выйшлі дзве чалавекападобныя істоты ў блакітных камбінезонах. Гэтыя істоты адразу накіраваліся ў адміністрацыю СВК да Сыча.

З’яўленню дзіўных істот у прыёмнай не здзівіліся. Ці мала хто работу ў гаспадарцы з прыезджых шукае? Спачатку, праўда, падумалі, што маладыя спецыялісты са сталіцы прыехалі. У СВК якраз не хапала агранома і заатэхніка.

— Старшыні няма — паехаў у райцэнтр. Будзе праз гадзіну, — паведаміла сакратарка на аўтапілоце. — Ёсць намеснік…

З дзвярэй насупраць выкаціўся, нібы казачны Калабок, чырвонашчокі пузаценькі мужычок з казацкім чубам і мулявінскімі вусамі. Кінуў на стол сакратарцы стос накладных, зірнуў на гасцей і наважыўся было ісці назад.

— Тут людзі прыехалі да Васіля Іванавіча… — спыніла намесніка сакратарка. — Пэўна, на вакантныя месцы…

Намеснік адразу ажывіўся.

— Нарэшце! Два гады чакалі… Леанід Мацвеевіч Бурак, намеснік старшыні, — прадставіўся мужычок. — Давайце да мяне. А ты, Тамара, пакуль усе паперы падрыхтуй для афармлення…

— Здалёк прыехалі? — не сунімаўся Бурак, уладкоўваючы гасцей у кабінеце. — Пэўна, здалёк… Вунь у якім модным адзенні… Мы, тутэйшыя, людзі простыя, сялянскія… Носім, так сказаць, зробленае ў Сінявокай… — намеснік крутануўся ў «камінтэрнаўскім» касцюме. — Пасада абавязвае насіць гальштук… А так больш у гумовіках ды трыкатажных штанах… Кхе-кхе… У гноі корпацца з гальштукам нязручна… Ах, што гэта я ўсё балбачу і балбачу… Вы ж, пэўна, галодныя з дарогі… Зараз арганізуем абед… — і намеснік выйшаў у прыёмную.

Праз хвіліну, так і не даўшы гасцям сказаць хоць слова, іх ужо вялі ў сталоўку СВК.

— Вось цяпер з новымі спецыялістамі справы пойдуць у гару… Можа, хоць перад маёй пенсіяй наша гаспадарка выйдзе ў перадавікі вытворчасці… — летуценна заўважыў Бурак, праводзячы позіркам новых работнікаў.

Неўзабаве да адміністрацыі СВК пад’ехаў Сыч. Калі ён убачыў істот у блакітных камбінезонах, нешта ёкнула ў ягоным сэрцы.

— Гэта хто? — ацярожна пацікавіўся Сыч у намесніка.

— Новыя спецыялісты прыбылі…

— Адкуль? Распытаў ужо іх? — працягваў Сыч.

— Яшчэ паспеем. Людзі здалёк прыехалі. Трэба накарміць спачатку. Па-чалавечы…

— Здалёк, кажаш… — задумаўся старшыня. І тут жа скіраваў у ангар.

У ангары Сыч убачыў адкрыты дыск і канчаткова ўсё зразумеў. У памяці адразу паўсталі кадры з фантастычных фільмаў пра каланізацыю Зямлі прышэльцамі-захопнікамі. Не адважыўшыся зазірнуць унутр дыска, Сыч пабег у сталоўку. Па дарозе старшыня пракручваў сцэнарый далейшых падзей, не ведаючы, што рабіць: ці то званіць у міліцыю, ці то ісці на кантакт з непрадказальным фіналам?

Тым часам у сталоўцы двое ў камбінезонах смачна сёрбалі боршч ды паглыналі адзін за адным дранікі, не забываючы шчодра акунаць іх у густую смятанку. «Згаладалі з дарогі…» — пранеслася ў галаве Сыча, калі ён зачыніў за сабой дзверы сталоўкі.

Убачыўшы старшыню, адзін з прышэльцаў тут жа ўстаў:

— Дзякуй за гасцінны прыём. Давайце знаёміцца. Мы прыбылі з планеты, размешчанай у сузор’і Вялікага Лыча. Наш карабель пацярпеў аварыю на вашым полі. Мы змаглі выбрацца з яго толькі пасля моцнага электрычнага разраду. Нам патрэбны час для рамонту карабля. Калі дазволіце застацца, будзем вам вельмі ўдзячны.

У Сыча ад пачутага адлегла ад сэрца. Тым не менш старшыня па-гаспадарску заўважыў:

— Я, канечне, вельмі рад нашаму міжгалактычнаму знаёмству… Толькі вось хто мне кампенсуе пашкоджанае ў выніку вашай аварыі збожжа?

— Мы гатовы ўсё выправіць і дапамагчы вам. У нас для гэтага ёсць спецыяльнае абсталяванне і эфектыўныя тэхналогіі.

— Эфектыўныя тэхналогіі — гэта добра… Асабліва за чужы кошт… — узрадаваўся Сыч і неадкладна прапанаваў гасцям прайсці ў ягоны кабінет для больш дэталёвай дзелавой размовы.

Пасля гутаркі старшыня правёў для прышэльцаў экскурсію па аграгарадку, жывёлагадоўчым комплексе і цыплічнай гаспадарцы.

— Вось так і жывём… — падагульніў Сыч напрыканцы азнаямленчай экскурсіі.

— Вы адсталі ад нас на 300 гадоў, але мы гатовы падзяліцца з вамі карысным вопытам, — адзначылі госці. — У нашым сельскагаспадарчым арсенале маюцца памнажальнік матэрыі і паскаральнік росту, дзякуючы якім можна дасягнуць каласальных вынікаў. Нашы тэхналогіі дазваляюць атрымліваць па тры-чатыры ўраджаі за ваш зямны год.

Пасля дэманстрацыі работы прыбораў, калі скіраваныя ад іх промні літаральна на вачах паскорылі рост кукурузы і парсюкоў, Сыч зразумеў, што ад такіх каштоўных кадраў так лёгка не адмаўляюцца. Перад вачыма паўстала абласная дошка гонару і іншыя атрыбуты кар’ернага шчасця кіраўніка.

У той жа дзень гасцей пасялілі ў новы дом, пабудаваны ў рамках прэзідэнцкай праграмы адраджэння і развіцця сяла. А ноччу па загадзе старшыні дыск, на якім прыляцелі прышэльцы, адвалаклі на бульдозеры да ляснога балота, дзе паспяхова і патапілі.

Назаўтра радасны Сыч паведаміў гасцям, што іх карабель нейкія злыдні распілавалі на металалом, пасля чаго прадставіў працоўнаму калектыву новага агранома і заатэхніка, якія нібыта прыбылі ў гаспадарку ажно з Масквы ў межах пагаднення аб супрацоўніцтве Саюзнай дзяржавы ў галіне перадавых сельскагаспадарчых тэхналогій.

— Знаёмцеся: Уладзімір Уладзіміравіч Моркаўкін і Дзмітрый Анатольевіч Лыч. Упэўнены, з імі нас чакаюць вялікія справы, — адзначыў Сыч.

Старшыня не памыліўся. За два гады СВК «Гагарынскі шлях» выйшаў у перадавікі вобласці, а яшчэ праз год гаспадарка стала адной з лепшых у краіне. Дасягненні СВК шырока асвятляліся ў газетах і па тэлебачанні. На «Дажынках» Моркаўкін з Лычом атрымалі з рук прэм’ер-міністра па «Жыгулях». Васіль Іванавіч пацірaў ад задавальнення рукі: маўляў, няхай цяпер губернатар бачыць, што Сыч — птушка высокага палёту. Уцёр нос, нічога не скажаш.

Аграгарадок рос і развіваўся. Слава пра найноўшыя тэхналогіі гаспадарання пачала разыходзіцца і ў краінах Заходняй Еўропы, куды экспартавалася прадукцыя СВК. Зразумела, што такі ход справы задавальняў далёка не ўсіх. Канкурэнты з ліку кіраўнікоў іншых гаспадарак не знаходзілі сабе месца. Мала таго, што Сыч ні з кім не дзяліўся перада-

вым вопытам, дык яшчэ ягоныя дасягненні пастаянна ставілі ў прыклад перад усімі на розных нарадах і з году ў год павялічвалі прагнозныя паказчыкі па надоях, прывесах і ўраджайнасці. Маўляў, калі Сыч можа, то і іншыя падцягнуцца. А іншыя падцягвацца асабліва не спяшаліся, бо не ведалі, як. Сакрэт поспеху Сыча звязвалі з нейкай містыкай і чартаўшчынай.

Кажуць, як ні хавай таямніцу, праўда рана ці позна ўсё роўна стане вядомай усім. Чуткі пра даўні выпадак у полі патрабавалі пацвярджэння. Але Сыч старанна аберагаў прышэльцаў ад чужых вачэй. Ды і хто мог падумаць, што яны — госці з чужой планеты. Дзякуючы малекулярнай трансфармацыі, прышэльцы мала чым адрозніваліся ад зямлян. Аднак і зайздрасць часам добра рухае прагрэсам.

Знайшліся добрыя людзі, якія ў падрабязнасцях узгадалі даўні выпадак на полі і нават тое, дзе схаваны загадкавы дыск. Падчас амаль дэтэктыўных пошукаў група зайздрослівых кіраўнікоў-канкурэнтаў усё ж выйшла на прышэльцаў, якія вельмі абрадаваліся знойдзенаму караблю. Праз тыдзень, адрамантаваўшы зоркалёт, Моркаўкін і Лыч развіталіся з Сычом і ўзялі курс на далёкую радзіму, не забыўшыся затарыцца на дарогу вырашчанымі караняплодамі, укормленымі парсючкамі і цыстэрнай высакаякаснага самагону. Прыхапілі з сабой і «дажынкаўскія» «Жыгулі» з матаблокам, паабяцаўшы, што неўзабаве вернуцца.

Толькі дарэмна радаваліся канкурэнты ад'езду прышэльцаў. Усе іхнія прыборы, абачліва прыхопленыя падчас провадаў, Сыч па-гаспадарску прыхаваў у таемным месцы, пра якое ўжо дакладна, акрамя яго, больш ніхто не ведаў.

Кожны раз, калі старшыня на змярканні аглядаў палеткі, дзе жыта давала па 100 цэнтнераў з гектара і больш, ён узіраўся за небакрай, шукаў у вячэрнім небе сузор'е Вялікага Лыча і задуменна паўтараў радкі: «Таварышы з Вялікага Лыча // Я не забыў пра вашу дапамогу. // І вы, успамінаючы Сыча, // Не забывайце да яго дарогу». А каб прышэльцы ў чарговы раз не сапсавалі ўраджай ды, крый божа, не пераблыталі СВК, у аграгарадку інтэнсіўна ўзводзіўся касмадром.

***

Прышэльцы вярнуліся праз два гады. Іх зоркалёт урачыста прызямліўся на новым касмадроме. У гонар гасцей іграў духавы аркестр і спявалі народныя калектывы ў нацыянальных касцюмах. Сыч быў удзячным гаспадаром. Сустрэў Моркаўкіна з Лычом на чырвонай дарожцы з духмяным караваем. Пасля дзяржаўных гімнаў абодвух народаў і ўзняцця сцягаў госці ў суправаджэнні роты ганаровай варты накіраваліся ў мясцовы Палац міжгалактычнага сяброўства, дзе прайшоў трохгадзінны святочны канцэрт з удзелам зорак айчыннай эстрады. Леў Лешчанка, якога спецрэйсам даставілі ў СВК, 12 разоў выканаў «Прыцяжэнне Зямлі».

Але Моркаўкіну з Лычом было не да радасных спеваў і заліхвацкіх скокаў у абдымках чароўных сельскіх прыгажунь. Іх турбаваў лёс уласнай планеты, якая ў выніку тэхнагеннай катастрофы, выкліканай бескантрольным ужываннем зямнога самагону, а таксама шматлікіх прыродных катаклізмаў апынулася пад пагрозай поўнага знішчэння. Народ з сузор'я Вялікага Лыча імкліва дэградаваў: не жадаў працаваць, а хацеў пастаянна ўжываць этылавую вадкасць і ганяць на «Жыгулях». На планеце катастрафічна не хапала харчовых рэсурсаў. Моркаўкіна з Лычом абвясцілі ворагамі нацыянальнай бяспекі і адправілі на Зямлю да Сыча па дапамогу.

Госці расказалі старшыні СВК пра наступствы татальнай алкагалізацыі сваёй планеты і яе «жыгулізацыі»-трактарызацыі, з-за чаго рэзка павялічылася смяротнасць на дарогах і моцна пагоршылася экалагічная абстаноўка. Сыч паабяцаў мабілізаваць усе сілы для дапамогі братэрскаму народу. Тым больш што прадукцыяй, якую выпрабляў СВК, былі завалены ўсе склады вобласці. Узамен госці паабяцалі пастаўляць гаспадарцы карысныя выкапні.

Назаўтра была арганізавана тэлепартацыя прадуктаў харчавання. На далёкую планету, размешчаную за 10 светлавых гадоў ад Зямлі, экстранна адпраўляліся слоікі з садавінай і агароднінай, мяхі з бульбай і цыбуляй, морквай і буракамі, кансерваваная тушонка, каўбасы, мука, а таксама куры і парсюкі жывой вагой. За тыдзень самаахвярнай работы былі разгружаны ўсе склады і апустошаны ўсе фермы раёна. Сыч ведаў, што памнажальнік матэрыі і паскаральнік росту ўсё хутка адновяць. Патрабавалася неадкладна будаваць сховішча для тэлепартаванага золата, серабра, плаціны і каштоўных камянёў. Такі бартэр старшыні вельмі падабаўся.

Праз два гады СВК «Гагарынскі шлях» немагчыма было пазнаць. Паўсюль узвышаліся шкляныя хмарачосы, праз СВК праходзіў шасціпалосны аўтабан, ля трохпавярховых катэджаў з басейнамі, якія належалі работнікам гаспадаркі, стаялі шыкоўныя джыпы. Нават сцяжыны на палях і ў лясах былі заасфальтаваны. А на кожным кроку ўзвышаліся масіўныя шчыты з надпісам «Аграгарадок, дзе хочацца жыць і працаваць» на фоне шчаслівых твараў лепшых людзей эпохі.

У цэнтры аграгарадка ўзвышался помнік лідару нацыі і пяціпавярховы будынак адміністрацыі СВК. За ім на 15 гектарах размяшчалася рэзідэнцыя Сыча, пасярэдзіне якой быў устаноўлены трохмятровы прыжыццёвы бюст гераічнага старшыні. У промнях сонца ён пераліваўся залатым бляскам і моцна сляпіў вочы тых, хто ўскладаў да яго жывыя кветкі.

Важнымі аб'ектамі аграгарадка былі таксама лядовая арэна і футбольны стадыён на 5 тысяч месцаў, штучны вяслярны канал даўжынёй 10 кіламетраў, лыжаролерная траса, якая гублялася ў суседняй вобласці, філіял Гарвардскага ўніверсітэта, акадэмія перадавога сельскагаспадарчага вопыту і сучасная бальніца для сем'яў перадавікоў вытворчасці.

Працоўны дзень у гаспадарцы складаў 3 гадзіны. У астатні час жыхары аграгарадка наведвалі спартыўныя аб'екты, казіно, амфітэатр і кінатэатр, дзе паказвалі фільмы ў фармаце 10D, знятыя на ўласнай кінастудыі. Жыць і працаваць тут хацелі не толькі жыхары Сінявокай, але нават і замежных краін.

Заходнія дэмакраты і ворагі айчыннай стабільнасці не маглі спакойна глядзець на рай у цэнтры Еўропы. Кіраўнікі замежных краін абвінавацілі Сыча ў парушэнні правоў жыхароў аграгарадка, аўтарытарных метадах кіравання, зняволенні палітычных апанентаў і эканамічнай дэстабілізацыі рэгіёна. Для вырашэння гэтых праблем уводзілася гандлёвае эмбарга, а да межаў краіны падцягваліся натаўскія войскі, каб нанесці сакрушальны ўдар па апошнім антыдэмакратычным рэжыме Еўропы.

Атрымаўшы ад галоўнакамандуючага ў сувязі з магчымай інтэрвенцыяй шырокія паўнамоцтвы і званне генерал-маёра, Сыч пачаў фарміраваць сілы супраціву з ліку патрыятычна настроеных жыхароў аграгарадка. Не засталіся ўбаку ад верагоднага ваеннага канфлікту і сябры з далёкай планеты. Не допускаючы думкі аб паўтарэнні гераічнай абароны цытадэлі над Бугам, на спецыяльнай нарадзе з удзелам Моркаўкіна і Лыча было вырашана нанесці па войсках праціўніка прэвентыўны ўдар.

Кіраваў аперацыяй генерал-маёр Сыч. Пад яго камандаваннем Моркаўкін з Лычом падняліся ў зоркалёце над злучэннямі ворага і з дапамогай спецыяльнай тэлепартацыйнай пушкі-памнажальніка, з'яднанай са сховішчамі СВК, пачалі масіраваны абстрэл праціўніка кабачкамі-пераросткамі, нестандартнымі агуркамі, кармавымі буракамі, гнілымі памідорамі і трохпудовымі гарбузамі. За пяць гадзін інтэнсіўнага артылерыйскага абстрэлу вораг быў пахаваны пад тоўшчай садавіны і агародніны. Да такога натаўскія вайскоўцы былі яўна не падрыхтаваны.

У ваеннай стратэгіі Сыч быў прыхільнікам нанясення ворагу магутных «сталінскіх udараў». Пасля ўдалага першага бою генерал-маёр выставіў Заходняй Еўропе ўльтыматум, паказаны ў навінах «Еўраньюс»: калі агрэсар не адмовіцца ад захопніцкіх планаў у дачыненні да міралюбівай краіны, ён будзе атакаваны па ўсёй сваёй тэрыторыі. Пад пагрозай пахавання пад тоўшчай агародніны апынуліся Лондан, Парыж, Рым, Брусель і Берлін. Баючыся страшных наступстваў ад дзеяння непрадказальнага праціўніка, еўрапейскія лідары адмовіліся ад ранейшых планаў, згарнулі групіроўкі войскаў і больш ніколі не дапускалі ў адрас Сінявокай крыўдлівых выказванняў пра антыдэмакратычны рэжым.

За ўдала праведзеную аперацыю па прымушэнні заходніх дэмакратаў да міру і згоды генерал-маёр Сыч атрымаў з рук галоўнакамандуючага званне Героя Сінявокай, а яго баявыя таварышы з братэрскага сузор'я Вялікага Лыча былі адзначаны ордэнамі Дружбы народаў. Подзвіг старшыні Сыча, жыхароў аграгарадка і Моркаўкіна з Лычом у гераічнай абароне рубяжоў радзімы ад захопнікаў увайшоў у падручнікі айчыннай гісторыі і стаў для маладога пакалення прыкладам самаадданага служэння роднаму краю і сімвалам шчырага міжгалактычнага сяброўства.

***

Пасля грандыёзных падзей у змагары з заходнім імперыялізмам Сыча абудзіліся палітычныя амбіцыі. Шырокая натура старшыні прагла выйсця за межы аграгарадка. Даведаўшыся пра гэта, Камітэт нацыянальнага клопату імгненна арганізаваў у СВК маштабную рэвізію гаспадарчай дзейнасці. За два няўлічаныя ў дакументах кабачкі старшыня-карупцыянер атрымаў 6 гадоў калоніі, а члены сычоўскай злачыннай групы Моркаўкін з Лычом былі абвінавачаны ў шпіянажы, тэрарыстычнай дзейнасці і падрыхтоўцы дзяржаўнага перавароту. Прышэльцы, дэпартаваныя з Зямлі, так і не зразумелі, што адбывалася на планеце, якая з космасу здавалася такой прыгожай і прыцягальнай…

ВЕРШЫ

# МАЯ МОВА

Мікола ЗГУБАРЭВІЧ



## На белым свеце

*Народзіны.*
*Крокі.*
*Палёт.*
*І далеч,*
*Дзе мары і сонца.*
*Хвіліна.*
*Гадзіна.*
*Дзень, год...*
*А далей? А далей*
*Бясконцасць.*
*Штохвіля,*
*Штодзень*
*І штогод.*
*Пачатак.*
*Канец.*
*Пачатак.*
*За свой*
*Нечаканы адлёт*
*Я ўжо заплаціў*
*Задатак*

## Дзіця божае

*Крочу да небакраю,*
*Ды не відаць яго.*
*Позірку не хапае —*
*Засумняваўся Бог.*

*Побач усім жывецца*
*Нібыта чынам чын.*
*Я штосьці ў паняверцы*
*Часам і без прычын.*

*І без надзей кружуся*
*Ціха ў блакітных снах,*
*Як над буслянкай бусел,*
*Дзе не радзіўся птах.*

*Бог пазірае ўсцешна*
*На дзівака свайго —*
*Хай пракладае сцежкі...*
*І мне ўсміхнуўся Бог.*

## Жыве ў Бяларучах Купала

*Напрыканцы лета*
*2012 года зачынілі назусім*
*школу, у якой калісьці вучыўся*
*Янка Купала*

*Жыве ў Бяларучах Купала,*
*Душа Купалы будзіць нас.*
*Нязгаснай зоркаю заззяла,*
*Каб веры промень не пагас.*

*Тут Беларусь, як веру, вызнаў*
*І далучыўся да пяра,*
*Тут хвоі на пясчаных выспаў*
*Люлялі мроі песняра.*

*У бліках залатога сонца*
*Прачулых мараў спеў пагляд,*
*Каб воля глянула ў аконца,*
*Як марыў шмат гадоў назад.*

*Каб мову матчыну ад Бога,*
*Як памяць продкаў берaглі,*
*Ды безнадзейную аблогу*
*На роднай здолелі зямлі.*

*Жыве ў Бяларучах Купала*
*І жыцьме шмат яшчэ вякоў.*
*Імя Купалы ведаць мала —*
*Не забывайма кліч яго.*

## Мая мова

*Я слоў беларускіх навучыўся ад маці.*
*Янка Купала*

*Мне мова ў сэрца запала з дыханнем*
*Палёў канюшынных, валошкавых ніў,*
*І з водарам волкім палескага рання.*
*Я матчыну мову з хадуляў вучыў.*

*Вучыўся ад мудрых дзядоў і бабуляў,*
*Ад Бога настаўнікаў вызначыў лёс.*
*А вы нашу мову вясковую чулі*
*У зелені траў і пад дахам нябёс?*

*І не на кампутары, не электронна,*
*А з песняў-баладаў палешукоў?*
*Гамоняць дагэтуль яны нешаблонна.*
*Чаму я не слухаў паболей іх слоў!?*

*Ніколі ў мяне не ўзнікала сумнення,*
*Што родная мова бывае адна,*
*Што толькі яна нараджае натхненне*
*І песняй заснуць не дае давідна.*

*Паслухайце ў вёсках, дзе мова спявае,*
*За сотні ад тлуму сталічнага вёрст —*
*Там мова ад продкаў, там мова жывая,*
*Там людзі не ведаюць іншай наўпрост.*

АПАВЯДАННЕ

# ПЕРАБЛЫТАНЫ

Алесь КАСКО

Яго прывезлі невядома з якой краіны, што, урэшце, было няважна: полаг таямнічасці ахутваў больш чым палову ягонага жыцця.

Ён з дзяцінства меў цягу да ўсяго вайсковага: улетку насіў бацькаў зялёны капялюш, ды ў ім і камізэльцы дэсантніка балазе быў і вышэйшы, і шырэйшы ў плячах за ўсіх аднагодкаў, гуляў у вайну, дома майстраваў драўляна-жалезныя аўтаматы і пісталеты, якімі ахвотна дзяліўся або абменьваўся з сябрукамі, чытаў адпаведныя кніжкі — пра бураў, што змагаліся за незалежнасць, пра індзейцаў, сярэднявечных рыцараў і мушкецёраў, пра беларускіх ды італьянскіх партызанаў Другой сусветнай вайны. У школе любіў урокі гісторыі і нямецкай мовы, фізкультуры і першапачатковай вайсковай падрыхтоўкі.

Давалася вучоба ва ўсім, аднак тут жа паракінуць мосцік ад школьнай да ўніверсітэцкай яму не ўдалося. Занядужаў бацька, і ён дапамагаў выконваць ягоную службу лесніка і гаспадарскія абавязкі дома. А вучыцца на афіцэра паехаў праз год, акурат бацька паздаравеў. Дахаты, рослы і падцягнуты, адно без ранейшых д'артаньянскіх вусікаў і доўгіх кучаравых валасоў, прыязджаў у пагонах курсанцкіх, лейтэнанцкіх і нарэшце капітанскіх, калі скончыў акадэмію. Усё гэта было на вачах у аднавяскоўцаў — вачах шырока адплюшчаных на яго, паважлівых. І раптам ён перастаў прыязджаць. «Дзе, а я ведаю, дзе?» — адказвала цікаўным жанчынам маці. — Недзе за мяжою... сям'я ў яго ёсць... Ці то была... Няма даўно вестак ні ад яго, ні ад жонкі. От казала ж яму: Міхаська, будзь дома, бяры леснікоўства бацькава, дык не ж. «Родзіне паслужу і вярнуся!» А якая ж там родзіна? Не ў сваёй арміі і не ў сваёй старане...».

Аксеня на гэтым спахаплялася: «От жа развязалі мне язык, каб на вас ліха! Сакрэтная служба ў яго, наказваў слоў пер'ем не слаць, а я... Дый што я ведаю?» Між тым і гэтыя словы нямала сведчылі, нават калі б да іх не далучаліся чуткі. Але чуткі былі, яны прасочваліся сюды з наездамі былых Міхасёвых сяброў ды, найперш, маладзейшага на пяць гадоў брата, каму ён давяраў, відаць, больш, чым бацькам-вяскоўцам. Хлопец, атрымлівалася, у расійскай арміі, у спецслужбах. То ён быў у Афрыцы, то ў Паўднёвай Амерыцы, то вайсковым дарадцам, то перакладчыкам. Штораз там, дзе было неспакойна.

І вось яго прывезлі ў наглуха зачыненай цынкавай дамавіне. Прывезлі трое ў вайсковай форме: маёр Цырыльчук і два маўклівыя салдаты з аўтаматамі ў чахлах. Шараговыя заступілі на жалобную варту, як толькі дамавіна з вянком і чорнаю стужкаю на ім была ўстаноўлена пасярод вялікага пакоя. Пазней яны неслі каравул па чарзе, на што даў дазвол маёр: хлопцам трэба было і падсілкавацца пад брызентам



Алесь КАСКО

шэра-зялёнага грузавічка, і адлучацца з натуральнай патрэбы. Аднак абодва разам і першымі з чужых людзей выслухалі глухія стогны гаспадара, крыкі і галашэнні маці па сыне: «Ой, Міхасё-ё-к мой, о мой родненькі! А ці ж не я гадавала цябе, не беставала, начэй не спала, не даядала... А ты во што нарабіў, мой добранькі, мой залаценькі!.. Ці ж я не ўгаворвала быць са мною, з нашай раднёю? Не пачуў ты мяне, не паслухаўся... Дык не ўмела ўгаварыць, вінаватая, ой, віна на мне ляжыць, не зварухнуць яе!..» Гэта працягвалася доўга і бесперапынна, пакуль адна з вясковак, што пачыналі збірацца, не абняла яе, не адарвала ад халоднай дамоўкі: «Хопіць, Аксенька, хопіць, яшчэ здарыцца з табою што. І Рыгора свайго пашкадуй, блага яму». (Каля гаспадара ў суседнім пакоі ўжо завіхалася фельчарка, якую паклікалі жанчыны са сваіх хатніх тэлефонаў.) Аксеня нарэшце села ў крэсла, што падставілі ёй, змоўкла і толькі раз-пораз уздыхала, усхліпвала, выцірала бязгучныя слёзы.

Быў позні вечар, калі прыехаў на ўласнай машыне з жонкаю і дачкою нябожчыкаў брат. Ён не распрануўся, зняў толькі берэт з прыліплым жоўтым лісцікам ад яблыні, апусціўся на калені, прыткнуўся лобам да металу і хвілін дзесяць паплакаў моўчкі, у душы. Потым падняўся і падсеў да маці. Тая схіліла галаву яму на плячо. Сын заўважыў, наколькі сівейшыя сталі яе калісьці чорнасмаляныя валасы, і пагладзіў іх. «Ой, — цяжка ўсхліпнула маці, — я ж яшчэ не ў той хустцы, пачакай, сынок». У жалобнай хусціне яна вярнулася ўжо без слёз. Спачатку паведала, што бацьку палепшала, а потым зашаптала сыну на вуха: «Схадзі, Васіль, папрасі ты афіцэра, каб хоць на хвілінку адчынілі вечка. Ну, хоць на хвілінку. Зірнула б — і ўсё».

Васіль хацеў запярэчыць, але скеміў, што ісці насуперак матчынай волі сходу і тут, пры ўсіх жалобніках, няможна. Маці вельмі любіла яго, больш, бадай, чым ягонага брата. Мо таму, што пайшоў бацькавым шляхам, прычым яшчэ далей: вывучыўся на ляснічага. І што недалёка ад'ехаў, ёй падабалася (Васіль мерыўся ўзначаліць тутэйшае лясніцтва, ды пакуль што не было вакансіі), і што гаворыць, як гаварыў з дзяцінства, — «па-нашаму», не так, як старэйшы, які вясковую гаворку забыў начыста, дый пасмейваўся з некаторых слоўцаў, калі наведваўся. «Добра, мама, папрашу», — пагадзіўся Васіль і ўстаў. Крысо ягонага доўгага суконнага паліто зачапілася за крэсла, і ён павярнуўся, каб адчапіць. Зрабіў гэта і зноў затрымаўся: у вочы кінулася цемнаватая покуць, дзе гарэла на століку свечка і стаялі дзве братавы фотакарткі. На адной, павялічанай, з чорнаю стужкаю на рагу, — усмешлівы юнак у новенькім лейтэнанцкім мундзіры. Не ваяка, а рыхлых анёл. На другой, меншай і значна пазнейшай, Васіль з цяжкасцю ўгадаў брата. Быў ён у панаме і тэніcцы, загарэлы і дужы, і таксама з усмешкай, не, з паўусмешкай, нейкай ненатуральнай, змушанай — з просьбы-загаду фатографа, ці што. Твар яго падаўся Васілю суровым, а позірк застылым і халодным. «Афрыканская спёка, а яму халадна», — нечакана падумаў Васіль і, збянтэжаны гэтай высновай, адарваў вочы.

Ён распрануўся за дзвярыма суседняга пакоя, павітаўся з бацькам. Той сядзеў на ложку, абаперты на высокую падушку, і няўцямна пазіраў перад сабою. «Ён у паўсне, — патлумачыла ціха фельчарка, — паразмаўляеце пазней, не трэба яго трывожыць». Яна паказала Васілю лекі, дала кароткія настаўленні, як абыходзіцца з імі, паабяцала завітаць праз гадзіны дзве-тры: у яе начное дзяжурства. Васіль падзякаваў і пайшоў шукаць маёра.

Той стаяў у кухні і ў прыадчыненае акно курыў. Мужчыны пазнаёміліся і прыселі. Маёр прапанаваў узяць у халадзільніку што-кольвек з ягонай «сухой пайкі» і адкаркаваную пляшку «заморскага», так ён сказаў, рому. Васіль адмовіўся, не да таго. Пачаў быў пра жаданне маці, аднак Цырыльчук жорстка перабіў яго:

— Ты што, воін, у арміі не служыў? Служыў, у Афгане пабываў, ад брата чуў я... Што, не ведаеш, у якім стане салдацікаў адпраўлялі адтуль?.. Дык і маўчы, калі не хочаш яшчэ і маці пахаваць. — І памяркоўней дадаў: — Яна ў прынцыпе не вельмі настойвае. Здаецца, мне ўдалося яе ўгаварыць. Дык і пагатоў не патурай ёй. Дамовіліся?

— Усё я разумею, маёр... Скажыце, а дзе, як і што здарылася з маім братам?

— А гэта яшчэ большая ваенная тайна. Дзівак ты чалавек. Міна, абстрэл... Нечаканасць, выпадковасць, нячаста такое здараецца. Ну, і не перастрахаваліся як след, не засцераглiся. Зрэшты, не пры мне тое было... Месяц назад мы адпачывалі з Міхаілам на моры, я тады сфатаграфаваў яго, гэта яго апошні партрэт, на жаль. Бачыў?

— Як жа, бачыў, — у Васілёвым голасе затрымцела крыўда. — Сябравалі, ды чаму так: у адпачынку — разам, у баі, ці як там, — паасобку?

— У той дзень у мяне было іншае заданне, вось і ўсё. Рызыкаваў, заўваж, не менш, чым Міхаіл. Няма такога вопыту, як у яго, палкоўніка, ды гэта часам і добра: на ўсе вочы глядзіш, не лезеш на бадавень, што азначае: не звыкаешся з небяспекай.

— На бадавень — на ражон па-руску? Вы таксама беларус. Якім жа ветрам і вас, і брата закінула богведама куды?

— Там больш плацяць, — наўпрост, з ноткай пагарды і насмешкі, прамовіў Цырыльчук. — Рамантыка, патрыятызм былі напачатку, і найперш — у твайго брата. Афіцэр-прафесіянал паступова забываецца на ўсё, выконвае сваю работу, дый годзе.

— Ужо ж на ўсё! — падхапіў ягоны тон Васіль. — Тыя самыя прафесіяналы не забывалі, аднак, перавозіць з Афгана разам з целамі забітых і зброю, і алмазы, і...

— Лухта! Плёткі, па-мойму, — маёр чамусьці пачырванеў. — Ды кіньма пра гэта. Не час.

Васіль сумеўся: і праўда, загаварыліся.

На ўсяночную каля нябожчыка засталіся маці і ён з жонкаю. Маладых вайскоўцаў пад наглядам маёра забралі на начлег суседзі. Афіцэр хутка вярнуўся і то сядзеў разам з жалобнікамі, то зноў ішоў на кухню. У ягонай прысутнасці Васіль павінаваціўся перад маці, што зрабіць нічога не можа: у афіцэра ёсць загад, ад якога ён не адступіцца, дый навошта трывожыць Міхасёў тлен?.. Двойчы паявілася фельчарка: пасярод ночы, як абяцала, і пад раніцу, ужо разам з шафёрам машыны хуткай дапамогі, каб забраць гаспадара ў бальніцу. Ён ступаў сам і на развітанне перахрысціўся на дамавіну.

Жалобнікі прызвычаена трымаліся, змагаліся са сном і толькі зрэдзьчасу па аднаму адлучаліся. Больш, чым стому, Васіль адчуваў голад (маці і жонка пад яго настойлівасцю крыху паелі). Каб падмацаваць сябе, ён выходзіў зрабіць адну-другую цыгарэтную зацяжку з маёрам. Без аніякай гаворкі з ім, бо абодва меркавалі, што ўсё ўжо было сказана. Ды на нейкім разе, калі ўжо заясніўся ранак, Васіль застаў яго ўзбуджаным, з партатыўнаю рацыяй, заціснутай у далоні. Рука ледзь прыкметна дрыжала. «Што ён надумаў? Ром у галаве стукнуў?..» Аднак той не быў п'яны. Сказаў выразна, хоць і паўшэптам:

— Генерал мусіць гаварыць. Што?.. Ды ні з-за якой мяжы, з Піцера... Ціха! — і ён ускінуў рацыю, што падала сігнал: — Маёр Цырыльчук. Так. Так, добра чую вас... Як «што ўзялі»? Самі ведаеце... Перабылталі? Не можа быць!.. Чакайце, Сямён Дзям'янавіч, тут пабочныя людзі...

І ён выбег з кухні, чутно было, як адчыніў і зачыніў дзверы на двор. У дом увайшоў не меней чым праз паўгадзіны. Незаўважна для астатніх сагнутым пальцам паклікаў з залы Васіля. Ягоны твар зрабіўся белым і сутаргаватым. Збольшага ўзяў сябе ў рукі, калі зрабіў глыток рому, ад якога Васіль зноў адмовіўся.

— Такая справа, брат, — пачаў маёр. — Генерал раптам вырашыў, што для ўшанавання такога героя, як палкоўнік Захарык, твой брат, каравулу з трох чалавек мала. Хоча выслаць двух сваіх памочнікаў-афіцэраў. А мо прыляціць сам са світаю, ён не прадказальны ў нас, бач, устурбаваўся: і перад аднапалчанінам вінаваты, і перад землякамі ягонымі...

— Дык што ад мяне трэба? Няхай. Калі паспеюць.

— Во, у гэта ўсё і ўпіраецца. Трэба чым на пазней аднесці пахаванне. На адвячорак, а то і на заўтрашні дзень. Што ў тым

Хлопец, атрымлівалася, у расійскай арміі, у спецслужбах. То ён быў у Афрыцы, то ў Паўднёвай Амерыцы, то вайсковым дарадцам, то перакладчыкам



кепскага, калі брат дзве ночы пабудзе ў роднай хаце?

— З глузду з'ехаў, маёр! І генерал твой! — ад хвалявання і злосці Васіль перайшоў на «ты». — Звычаю не памятаеш? Народ паважай, ён ужо збіраецца, паглядзі. Маці пашкадуй. Учора аберагаў, а сёння да разрыву сэрца хочаш давесці?.. Ніякіх зменаў не будзе, маёр: пахаванне сёння пасля палудня, і ўсё па тым.

Цырыльчук нечакана пагадзіўся, пасміхнуўся прымірэнча:

— Не кіпі, не ад мяне просьба была. Зробім, як ты і ўсе вы хочаце. Так і далажу генералу.

— Штось ты хітрыеш, спец. Штосьці тут не так. — Васіль не мог супакоіцца. — Скажы праўду: пра што насамрэч гаворка праз рацыю ішла? Што вы там пераблыталі?

— Дзень ад'езду сюды пераблыталі, не больш. Паспяшаліся, з таго і сыр-бор. Ды не кіпі ты. Дай руку!..

Міхася завезлі на могліцы на вайсковай машыне, з якой знялі брызент. Людзі ішлі за ёю вялікім гуртам. Калі апускалі дамавіну, дала волю новым слязам маці. Яе галашэнне асабліва рэзала Васілёву душу адным паўторам: «От і напаследак не пабачыла цябе, сынок, не пабачыла-а-а!..»

З Піцера ніхто не аб'явіўся: там, напэўна, прыслухаліся да рапарту Цырыльчука. Аднак ён не спяшаўся пакінуць вёску: сядзеў і сядзеў за памінальным сталом, хоць не піў і амаль не еў. Думаў пра сваё, неўпапад адказваў жанчынам, якія, нарэшце ажыўленыя, пыталіся пра Міхася Захарыка і наогул пра службу. Пакурыць ён цяпер ішоў на вуліцу, і Васіль бачыў праз акно, як паблісквала мігачка ягонай рацыі. На прапанову застацца начаваць і на гэты раз добра адпачыць ён сказаў рашучае «не»: маўляў, пасплю ў дарозе, балазе спакойны за салдацікаў сваіх, якія бяссоннай ночы не зведалі і абодва, на змену, спраўна кіруюць машынаю. Васіль дзівіўся: чаму ж не ехаць завідна — або во зараз, або заўтра ўранку?

«Штосьці тут не так»: ён успомніў думку, выказаную ім у ранейшай размове з Цырыльчуком. І непамыснае слова «пераблыталі» за ёю ўсплыло… Таму ён і




не здолеў забыцца сном, калі вайсковы грузавічок знік у сутонні вуліцы, ледзь-ледзь асветленай поўняю, што ўзыходзіла. Васіль наведаў фельчарку і яе словамі заспакоіў маці; дапамог жонцы сабраць са сталоў і памыць посуд перад тым, як легчы на канапу, ды ўсё дарма: правальўся ў сон — і вынырнуў з яго.

Узяў кішэнны ліхтарык і ціха выйшаў на ганак. Поўня стаяла высока, але па-ранейшаму цёмна-барвовая. Не, пэўна ж, не ад яе святла на ўзгорку, дзе новыя, нядаўна пачатыя могліцы. Здзіўленне і няўцямная трывога пацягнулі туды. Рушыў напрасткі, праз пустыя восеньскія агароды, акрэсленыя жардзінамі на слупках і дарогаю, якою везлі Міхася. Яго пахавалі амаль на вяршыні ўзгорка, там і зіхцела святло. Здрыгануўся Васіль яшчэ зводдаль ад яго: у канцы агародаў, там, дзе раўней, бы прыземісты вятрак, стаяў… верталёт. Па той бок ад яго адзін за адным прагучалі два маладыя галасы: бадай, вартавых. Васіль як мага далей і цішэй абмінуў іх, перасек дарогу і апынуўся за злёгку самкнутымі варотамі. Госці з Піцера? Ноччу на могліцах?.. Ён не ведаў, што і падумаць.

Схавацца на новых кладах было цяжка, і Васіль прыгнуўся, пайшоў паўкругам паміж нізкімі кусцікамі і рэдкімі надмагільнымі помнікамі. Бліжэй і бліжэй, каб можна было прыгледзецца, але не выдаць сябе. За крокаў дваццаць спыніўся, прысеў: досыць, відовішча як на далоні. Мясціна асвятлялася фарамі аўтамашыны, габарыты якой нагадвалі… Так і ёсць, той самы грузавічок! Аднак у святле фараў, захінуты ў плашч, стаяў незнаёмы чалавек, высокі і з-за таго, што пераміналася з нагі на нагу, неспакойны.

— Хутка вы там? Усё на месцы? — неўзабаве пачуў ягоны ўладны голас Васіль.

Нехта адрывіста адказаў яму, і тут Васіль убачыў непадалёку ад Міхасёвай магілы дзве постаці, схіленыя над доўгаю металічнай скрынкаю. Адна з постацей наблізілася да чалавека ў плашчы.

— Закончылі, усё ў парадку. Можна ехаць.

Голас і пастава належалі маёру Цырыльчуку. Ён і іншы вайсковец, з кім важдаліся над скрынкаю, паднялі яе і панеслі да грузавіка. «Штосьці тут не так... Дык гэта ж дамавіна! Што? Міхасёва?!» Васіль не памятаў сябе, не ўсведамляў, чым у гэты момант рызыкуе. Ён выбег на святло, калі чалавек у плашчы накіраваўся ўбок могілкавых варотаў, а Цырыльчук і яго напарнік адчынялі дзверцы аўтамашыны.

— Маёр, чакайце! Што сталася, як гэта ўсё разумець?! Скажаце вы, у рэшце рэшт, ці не?..

Чалавек у плашчы ўздрыгнуў і азірнуўся. Цырыльчук сплюнуў, ляпнуў дзверцамі, казырнуў:

— Даруйце, генерал. Няўвязка, мы ж прадбачылі яе. Гэта — брат... Шчаслівай вам дарогі! — І потым да напарніка: — Едзь, перагружайце, я не забаўлюся.

Ён адвёў Васіля.

— Вышпіяніў, афганец? Мяне абхітрыў, разведчыка... Ну, добра, выбачай, хацелі як лепш зрабіць, ды ты не даў. Здагадваешся цяпер, чаму я прасіў адкласці пахаванне? Не брата мы прывезлі ўчора, а іншага, пераблыталі. Схібілі з маркіроўкай… І так бывае. Колькі нябожчыкаў у свеце ляжыць не на сваім месцы! Цывільных, вайсковых...

— Не чытай натацыяў, маёр. Цяпер я, маці, бацька можам быць пэўныя, што там, — Васіль кіўнуў на магілу, — ляжыць Міхась, а не хто-небудзь іншы?

— Так. Бач, сам генерал патурбаваўся, а ты сумняваешся... Толькі вось што… Не падымай шуму. Не ўздумай, чаго добрага, яшчэ раз магілу раскопваць. Словы афіцэра, памылка выпраўлена!

— Не па-людску дапусцілі, не па-людску выправілі. — Васіль павёў плячом, ухіліўся ад Цырыльчуковай далоні, і яна ледзь дакранулася.

— Пакінь яршыцца. Не шпіёніў бы, і было б усё шыта-крыта... Смелы, аднак! — Цырыльчук апусціў руку на кабуру, і Васіль інстынктыўна зрабіў крок назад. — Не бойся. — Рука слізнула ў кішэню і выняла стосік асігнацый, рассунула іх веерам. — Гэта кампенсацыя табе, бацькам...

— Купляеш?

— Купляю маўчанне, яно на карысць усім. Папярэджваю: каб ні слова, ні гуку. Як ужо атрымалася, так няхай і будзе. Ты ж не дурны, афганец! Бярэш?..

На агародах застракатаў, зашумеў і тымчасова падняўся верталёт. Цырыльчук кінуў грошы пад ногі Васілю і са словам «бывай» пашыбаваў з могілак. Праз хвілін дзесяць паімчалася па дарозе машына.

Васіль падняў асігнацыі — вырашыў: будуць на прыстойны помнік брату, — і падышоў да магілы. Рукамі падсыпаў і падраўняў капец, папраўіў вянкі. Крыху адышоўся, пстрыкнуў ліхтарыкам, каб упэўніцца, што ўсё тут мае ранейшы выгляд, бо ўранку, як водзіцца, праведаюць нябожчыка маці ды блізкія сваякі... Раптам у яркім святле там, дзе ноччу стаяла дамавіна і карпелі вайскоўцы, чымсьці белым заблішчала ўтаптаная трава, нібыта ляжала на ёй пацяруха мукі або крухмалу. Васіль старанна саскроб парашок на далонь, паднёс да носа, лізнуў языком. Знаўца хіміі з універсітэта і ўдзельнік "паляванняў" на афганскія караваны, ён беспамылкова вызначыў: наркотык…

Дык вось над чым плакалі і што пасля хавалі жалобнікі! І не толькі гэта, хутчэй за ўсё, было ў дамавіне, а і тое, чаго не рассыплеш і што надае патрэбную вагу ёй...

«Госпадзі! Няўжо і брат мой быў звязаны з нячыстымі на руку?! З таго і загінуў?!»

Маркотны і разгублены, Васіль безуважна сеў на магільны капец.

---

ЮБІЛЕЙ

# ЗЕРНЕ СЛОЎ

## Уздымныя крокі

Іван Цярэнцьевіч Бурсаў нарадзіўся 19 снежня 1927 года ў Клімавічах Магілёўскай вобласці. Працоўны шлях пачынаў на Чэлябінскім металургічным заводзе, на Мінскім трактарным…

Свае першыя вершы чытаў сябрам літаб'яднання пры газеце «Знамя юности». Па сканчэнні Літінстытута ў Маскве некаторы час працаваў рэдактарам часопіса «Нёман». Пазней стаў супрацоўнікам маскоўскага часопіса «Молодая гвардия».

Апрача кніг прозы Іванам Бурсавым выдадзена 14 зборнікаў вершаў, 20 «творчых пасланняў» для дзяцей. Многія набыткі Бурсава перакладзены на балгарскую, нямецкую, польскую, украінскую і іншыя мовы. А самому Бурсаву-перакладчыку былі ўдзячныя Р. Барадулін і Г. Бураўкін, У. Караткевіч і В. Зуёнак, Е. Лось і К. Цвірка, М. Федзюковіч і Д. Бічэль-Загнетава, П. Броўка і А. Астрэйка… Дружылі з маскоўскім суайчыннікам і мінскія кампазітары.

У 2011 годзе Іван Бурсаў выдаў прэзентатыўную анталогію беларускай паэзіі «Шаги». У кнігу падабраны творы «пачынальнікаў», «нашаніўцаў», «маладнякоўцаў» і «ўзвышэнцаў» — усяго сорак сем творцаў з вялікай грамады літаратурнага шэсця. Асобны раздзел анталогіі напоўнены перакладамі спадчыны Алеся Смаленеца (А. Ружанцова), Ларысы Геніюш, Аляксея Пысіна. Зборнік заканчваецца ўдумным артыкулам «Мой Янка Купала» і вершам-прысвячэннем з нагоды ўсталявання ў Маскве помніка класіку беларускай літаратуры.

З 85-годдзем Вас, Іван Цярэнцьевіч!

**Сяргей Панізьнік**

**Іван БУРСАЎ**

### Зерне слоў

*Шурпаты шум палёў,*
*птушыны гмах нябёс —*
*усё, што пакахаў,*
*і ў сэрцы прыбярог, –*
*узняў на думны лёс,*
*над плёсамі разнёс,*
*каб зерне*
*спелых слоў*
*сабраць у звонкі рог.*

*Каханне не замрэ…*
*І пойдзе новы рост*
*ад збажыны, з якой*
*я ўсплыў*
*па-над зямлёй…*
*Вам любасці сцябло!*
*Будзь плоднаю, любоў,*
*над вашаю вясной,*
*над… памяццю маёй!*

### Лабжанка

*Крылатым соснам*
*лета як служанка —*
*яны звіняць,*
*каб зніклa і слата…*



*А рэчка*
*называецца Лабжанка,*
*і ў рэчцы той*
*зялёная вада.*
*Яна хвалюецца*
*на асачынах,*
*дае хвастам яршовым круцяля.*
*Тут не вада —*
*жывы нектар айчыны,*
*дзе сам я прытуляўся да камля.*
*Крылатым соснам*
*Лета як служанка —*
*прымкнулася дзяцінства*
*дабрата…*
*Я ў горкі час*
*уміг з табой, Лабжанка!*
*У прысмаку*
*зялёная*
*вада.*

### Зазімак

*Слязу*
*скаціла кропля за акном.*
*А на двары ані зімы,*
*ні лета.*
*І лес,*
*разнюханы бялюткім сном,*
*страсае снег з махровых эпалетаў.*

*Ля ног яго*
*сумёты*
*з-пад палы*
*выглядваюць, бо ім ужо не спіцца,*
*камлі і кроны ў водары смалы,*
*капежыцца вясёлая іглiца.*

*Прачнуўшыся між летам і зімой,*
*з пагодай лес нядужы разабрацца.*
*Стаіўся, як і я перад табой,*
*не ведаючы —*
*плакаць,*
*ці ўсміхацца.*

**Пераклаў з расійскай**
**Сяргей Панізьнік**

▸ ВЕРШЫ

# «АДПІ МЯНЕ, ЯК З КЕЛІХА — ВІНА»

**Лілія ЗАЛАТАНОША**

***

*Прасіла і маліла дапазна:*
*«Адпі мяне, як з келіха — віна,*
*І пасялі мяне ў сабе навек,*
*Каб я сінела небам з-пад павек.*

*Каб дні і ночы думаў пра адно.*
*Шукаў мяне, нібыта ў чарцы дно.*
*Хадзіў кругамі з думкай: як там я?*
*Каб пад нагамі таньчыла зямля…*

*Каб погляд твой расстрэльваў да віднa».*
*Не маюць правілаў каханне і вайна.*
*…Крыніца чыстая, таму што нічыя.*
*Не вер мне, любы, быццам я твая.*

## Чысты ліст

*Лістоў тваіх чакала, нібы сноў,*
*Дзе поруч мы, а навакол бяздонне.*
*Ліюцца слёзы прыгаршчамі слоў…*
*(і досыць слоў і ўчора, і сягоння).*

*Хоць аркуш надашлі заміж ліста,*
*а там нічога — ветразяў магіла.*
*А вецер іх пяшчотна так гартаў,*
*бо з іх апоўнач вырастаюць крылы.*

*А мора… Запытайся ува сне:*
*«Ці хочаш мора? — Ветразяў хапіла б…».*

*Без мора і жыццё, нібы на дне…*
*Яно, як неба, дзе так вольна крылам.*

## Вецер

*Вецер голы і босы,*
*Што пабачыць, той просіць…*

***

*Бывае час, калі усё маўчыць,*
*Як дзень пражыты — вусцішна нямее.*
*Начны ліхтар да раніцы праспіць,*
*А маладзік свяціць яшчэ не ўмее…*

***

*Трапечацца фіранка. Ранак позні.*
*Паруе кава. Поруч — цень ліста.*
*Я за сталом сяджу й пішу пра восень*
*І пра віно, дакладней, кроў Хрыста.*

*Прарвацца б скрозь кардон пажарны лесу*
*На звар'яцелым, дзікім скакуне…*
*Як ненармальна: жонка й паэтэса!*
*Паранармальна:*
*Ты кахаеш?*
*— Не..*

## Чортава вяселле

*Таполі цемень заплягалі*
*У дрэды позняга мадэрну.*
*Ноч, бы ўкапаная, стаяла*
*Безабаронна і манерна.*

*Дзесь блізка сноўдаў сонны час,*
*Заблытаў ногі у бадыллі.*
*На возеры крычаў пугач,*
*У ніжніх строях, быццам прывід.*

*Не песціў месяц срэбрам воч —*
*Ніякі быў пасля пахмелля.*
*Глыбей ад прорвы сёння ноч,*
*Няйначай — «чортава вяселле»…*

*На скрыжаванні ліхтары*
*сваю раскінулі прыманку…*
*Не верылася мне тады,*
*што дажывём з табой да ранку.*

***

*Уздыхаюць гадзіннікі: мой, поруч твой.*



Украінская паэтка Лілія Залатаноша нарадзілася ў 1963 годзе. Аўтар паэтычных кніг «Жаночыя сны»(1996), «Па закону вогненнай спіралі»(1999), «Сола свечкі» (2001), «Цяпер або ніколі»(2004), «Хачу да цябе»(2009). Закончыла юрыдычны факультэт Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэту імя Тараса Шэўчэнкі, а таксама Інстытут журналістыкі. Працуе навуковым супрацоўнікам Інстытуту журналістыкі КДУ імя Т. Шаўчэнкі. Аўтар шэрагу папулярных песняў. Жыве ў Кіеве.

«Ліля Залатаноша піша вельмі смела, — выказаўся пра паэтку Герой Украіны і вядомы паэт Дмітро Паўлычка, — але ўсё, што хоча сказаць, не ў слове, а дзесь у падтэксце. Слова толькі нацякае на штосьці невымоўнае, неабдымнае. І гэта робіць яе вершы сапраўднай паэзіяй»

## Свечка

*1*
*Далоняў плаўны пераход*
*У вогнік свечкі, дым, што ўецца…*
*О, той не здраджвае агонь,*
*Які не абпякае сэрца.*

*Адлігай возьмецца зіма,*
*і свечка выгнецца дугою.*
*Бо свечка — гэта я сама*
*У цёмнай бездані з табою.*

*2*
*Гарыць, усё яшчэ гарыць!*
*І сагравае бескарысна.*
*Так ненавязліва скарыць,*
*Штось шапялявячы агніста…*
*Як нотны выклік — крык актаў!*
*Агонь — знішчальнік дня старога.*
*Агонь — Хрыстос, які падняў*
*Да неба пыльны крыж дарогі.*

*3*
*Агнём наступіш — закрычу,*
*Як хмыз — гарэць яшчэ я ўмею.*
*Бо, згаладалая, маўчу,*
*Дакладней, свечкаю бялею.*

*4*
*У храме ночы сонна й квола*
*Канала свечка на вачах,*
*Нібы дапець хацела сола,*
*Згубіўшы перад сконам страх.*

*Нібы знайсці спяшала Веру,*
*Дзесьці ад вечнасці за крок.*
*Бо свечка — гэта дотык светлы*
*Да  хараства. Агню выток.*

*5*
*…Не затрымаць і не забараніць*
*Святла ўзыходы — сонечную бездань.*
*Цалую вогнік свечкі, што дрыжыць,*
*як тысячы агнёў начнога места.*

## Чорная вішня

*Я падала, нібыта тая вішня,*
*Што ты сарваў у спёку на хаду.*
*Баялася, каб хоць чаго не выйшла,*
*Ды падала. І зноўку упаду.*

*Не мроіла нікім я гэтак зроду.*
*Ад костак хай народзяцца сады…*
*Я не люблю шукаць у жарсці броду*
*І не лічу хвіліны і гады.*

***

*Ноч, як ваза, поўная пяшчоты.*
*Ад травы да воч цалуй,*
*мой родны.*
*Бо грахоўным пахне ліпа мёдам,*
*Гэта ноч —*
*дарунак ад прыроды!*

*Нашы цені — доўгія дарогі...*
*Проста дзіва! У сусвет лячу я.*
*І хоць як мяне хай судзяць строга,*
*я ў цябе сягоння заначую.*

***

*Пра тое, што кахаю, я зманіла,*
*І бессаромна станік ападаў,*
*нібыта дзікі воран чорнакрылы*
*у просінь навальнічную атаў...*

*Ты штось шаптаў, бы пацеркі нанізваў,*
*На промні пазалочаныя траў...*
*І дзіўна, што... табе я не зманіла:*
*Пад ранак закахалася сама.*

***

*Пахне глёк*
*сырадоем...*
*Так пахла сена табою.*
*Пакуль не трэснула неба,*
*Як нашы любошчы.*
*Ты і я. І валошкі —*
*там і тут.*
*Нібы хтосьці адарваў*
*жмут блакіту*
*і раскідаў яго па ўсім полі.*
*Ой! Чаго яшчэ трэба? Кра-са!*
*...Моліцца неба бліскавіцаю,*
*і молімся мы.*
*І не хочацца думаць, што*
*пасля дажджу —*
*неба заснула.*
*Ды раптам, зноўку —*
*бліскавіца!*
*Бліс-ка-ві-ца!*
*Ой, бліскавіца!*

## Пясочны гадзіннік

*Мы ўдваіх — адзін пясочны гадзіннік.*
*Пясок не спіць, перасыпаецца,*
*Калі мы разам.*
*А не бачымся — спыняецца час —*
*У адным з нас.*

## Мікола, паволі…

*— Па ўласнае волі?*
*— Па волі… Па волі…*
*Ты — вецер, Мікола!*
*Ты — ветразь, Мікола!*
*Мікола, паволі, паволі, паволі…*
*Ты — прорва, Мікола!,*
*Ты — просінь, Мікола!*
*А косы дадолу, дадолу, дадолу…*
*Душа мая голая,*
*Вузкае кола…*
*Мікола, паволі, паволі, паволі…*
*Ты — хіжы, Мікола!*
*Ты — дужы, Мікола!*
*Мікола, паволі, паволі, паволі…*
*У чорта ў палоне —*
*Ты — ліха, Мікола!*
*Ты — шчасце, Мікола!*
*Пайшоў ты, Мікола!*
*Які ты, Мікола!..*
*Мікола, паволі, паволі, паволі…*
*Сцялюся, бы ў полі*
*Пад ветрам таполя…*
*Мікола, паволі,*
*Паволі.*
*Даволі…*

**Пераклад з украінскай Эдуарда Акуліна**



АПАВЯДАННЕ

# ПАСТКІ ПАРАДУ ПЫХЛІВАСЦІ

**О. Генры (1862–1910)**



Містэр Таўэрс Чэндлер у сваім мэбляваным пакоі прасаваў вячэровы касцюм. Адзін прас грэўся на газавай пліце, другі ж рашуча рухаўся туды-сюды, шчыруючы над такой жаданай складкай, якая вось-вось працягнецца роўнай лініяй ад лакаваных туфляў містэра Чэндлера да краю яго камізэлькі. Больш пра туалет нашага героя даводзіць да ўсеагульнага ведама няма чаго. Рэшту хай дадумваюць тыя, каго высакародная беднасць змушае да ганебных хітрыкаў. Наступным разам мы ўбачым містэра Чэндлера, калі ён будзе спускацца па лесвіцы мэбляваных пакояў, бездакорна і прыстойна апрануты, спакойны, самаўпэўнены і прывабны — акурат такі, якім мусіць выглядаць тыповы нью-ёркскі заўсёднік клубаў, трошкі знуджаны, але поўны рашучасці аддацца ўсім вечаровым забавам.

Чэндлер зарабляў 18 даляраў у тыдзень, працуючы ў канторы аднаго архітэктара. Яму было дваццаць два гады, ён лічыў архітэктуру сапраўдным мастацтвам і шчыра верыў (хаця не насмельваўся прызнацца ў гэтым у Нью-Ёрку), што хмарачос «Прас» мае меншую эстэтычную каштоўнасць, чым вялікі Міланскі сабор.

Кожны тыдзень Чэндлер адкладаў з заробкаў адзін даляр. Сабраўшы такім чынам за дзесяць тыдняў дадатковы капітал, ён са зніжкай набываў у старога сквапнага Бацькі Часу адзін джэнтльменскі вечар. Узброіўшыся рэгаліямі мільянераў і прэзідэнтаў, ён выпраўляўся ў квартал, дзе кіпела самае яркае і бліскучае жыццё, і там абедаў, раскошна і густоўна. З дзесяццю далярамі ў кішэні чалавек можа, хай усяго і на некалькі гадзінаў, дазволіць сабе згуляць у багатага гультая. Гэтых грошай хопіць на добра прадуманую вячэру, бутэльку віна з прыстойнай этыкеткай, сувымерныя чаявыя, цыгару, рамізніка і звычайныя гэтак далей.

Адзін такі чароўны вечар, адабраны з сямідзесяці астатніх панылых вечароў, быў для Чэндлера крыніцай абнаўляльнай асалоды. Першы выезд здараецца ў дзявочым жыцці толькі раз, і калі сівеюць валасы, ён адзіны застаецца ў памяці свежым і салодкім. Чэндлер жа кожныя дзесяць тыдняў перажывае радасць такую вострую і трапяткую, якая бывае толькі ў першы раз. Сядзець сярод бонвіванаў пад пальмамі, у віры таемнай музыкі, аглядаць заўсёднікаў гэтага раю і трапляць у поле іх агляду — хіба зраўняецца з гэтым першы танец дэбютанткі і яе цюлевая сукенка з кароткімі рукавамі?

Чэндлер рухаўся па брадвейскім парадзе вечаровай пыхлівасці. Гэтым вечарам ён быў не толькі наведнікам выставы, але і яе экспанатам. Наступныя шэсцьдзесят дзевяць вечароў ён будзе апранацца ў шавіётавыя і камвольныя касцюмы і вячэраць у сумнеўных табльдотах, шумных буфетах — ці проста спажываць у сваім мэбляваным пакоі сандвічы з півам. Але ён нават хацеў гэтага, бо быў сапраўдным сынам вялікага мітуслівага гораду, і адзін вечар у неонавым святле кампенсаваў яму мноства іншых змрочных вечароў.

Чэндлер зацягваў свой шпацыр, пакуль яго вялікі шлях, асветлены лімоннымі агнямі, не пачалі перасякаць саракавыя вуліцы. Вечар толькі пачынаўся, а калі далучаешся да бамонду толькі раз на семдзесят дзён, хочацца неяк працягнуць задавальненне. Погляды — яркія, панурыя, цікаўныя, захопленыя, дзёрзкія, ваблівыя — былі звернуты на яго, бо аблічча і строй Чэндлера выдавалі ў ім прыхільніка гадзінаў уцехаў і асалодаў.

На адным куце ён спыніўся і задумаўся, ці не час яму павярнуць назад, да бліскучых і фешэнебельных рэстаранаў, дзе ён зазвычай вячэраў у дні свае неверагоднае раскошы. Акурат у гэты момант дзяўчына, што весела вылецела з-за рога, паслізнулася на зледзянелым снезе і завалілася на ходнік.

Чэндлер з усёй далікатнасцю і пачцівасцю тут жа дапамог ёй падняцца. Дзяўчына, кульгаючы, падышла да сцяны, абаперлася на яе і сарамліва падзякавала.

— Здаецца, я расцягнула шчыкалатку, — сказала яна. — Яна падвярнулася, калі я ўпала.

— Моцна баліць? — спытаў Чэндлер.

— Толькі калі я пераношу на яе ўсю вагу. Думаю, праз хвіліну-дзве я змагу пайсці далей.

— Ці магу я чым-небудзь дапамагчы? — прапанаваў малады чалавек. — Злавіць кэб ці яшчэ што...

— Дзякуй вам, — мякка, але рашуча адмовіла дзяўчына. — Я ўпэўненая, што турбавацца не варта. Як гэта недарэчна з майго боку! І абцасы як назло сама зручнасць — няма нават каго абвінаваціць!

Чэндлер зірнуў на дзяўчыну і зразумеў, што цікавіцца ёй усё больш. У яе прыгажосці было штосьці вытанчанае, а вочы здаваліся адначасова вясёлымі і добрымі. На ёй была сціплая чорная сукенка, падобная да ўніформы, такой, напрыклад, як надзяваюць прадавачкі. Завітыя пасмы цёмна-каштанавых валасоў выбіваліся з-пад таннага чорнага капялюшыка, адзіным упрыгожаннем якога была аксамітная стужка з бантам. Яна магла б пазаваць для партрэта самай лепшай і самай годнай прадстаўніцы свайго класу — класу працоўных дзяўчат.

Нечакана ў галаве маладога архітэктара з'явілася ідэя. Ён запросіць гэтую дзяўчыну павячэраць. Вось чаго не хапала яго перыядычным раскошным, але самотным святам! Кароткія імгненні яго вытанчанага шыкавання зробяцца відавочна ярчэйшымі, калі ён залучыць у сваю кампанію лэдзі. А ён не сумняваўся, што гэтая дзяўчына была лэдзі — пра гэта сведчылі і яе мова, і манеры. Нягледзячы на ўсю прастату яе ўбрання ён адчуваў, што сядзець побач з ёй за сталом будзе вельмі прыемна.

Гэтыя думкі імкліва пранесліся ў яго галаве — і рашэнне прынятае. Ён, безумоўна, парушаў этыкет, але працоўныя дзяўчаты ў такіх справах часта гатовыя закрываць вочы на фармальнасці. Іх суджэнні пра мужчынаў вельмі праніклівыя, а таму нашмат карыснейшыя за ўсе гэтыя бессэнсоўныя ўмоўнасці. Дзесяці даляраў, калі траціць іх з розумам, хопіць на вячэру для дваіх. Няма сумневу, што абед застанецца для яе яркім уражаннем сярод панылага руціннага жыцця, а яе мілае захапленне толькі павялічыць яго трыюмф і асалоду.

— Мне здаецца, — са шчырай сур'ёзнасцю сказаў ён, — што вашай назе патрэбны даўжэйшы адпачынак, чым вы думаеце. А таму я хачу прапанаваць вам спосаб адпачыць і адначасова зрабіць мне вялікі гонар. Калі вы выбеглі з-за рога і спатыкнуліся, я акурат збіраўся на поўнай самоце павячэраць. Давайце ў якім утульным месцы пасядзім і пагутарым — я ўпэўнены, што пасля гэтага вашая пашкоджаная шчыкалатка з лёгкасцю данясе вас дадому.

Дзяўчына хутка агледзела ясны прыемны твар Чэндлера. Яе вочы заблішчэлі, і яна шчыра ўсміхнулася.

— Але мы ж не знаёмыя — здаецца, так не заведзена? — з сумневам спытала яна.

— Нічога кепскага тут няма, — дабрадушна сказаў малады чалавек. — Дазвольце прадставіцца, мяне завуць містэр Таўэрс Чэндлер. Пасля вячэры, якую я паспрабую зрабіць як мага больш утульнай, я развітаюся з вамі ці праводжу вас дадому — як захочаце.

— Але Божа мой! — усклікнула дзяўчына, зірнуўшы на бездакорны строй Чэндлера. — У гэтай старой сукенцы і капелюшы?!

— Ды не хвалюйцеся! — весела супакоіў яе Чэндлер. — Мушу прызнацца, вы нашмат прыгажэйшыя за ўсіх тых дамаў у добра прадуманых вечаровых сукнях, якіх мы, магчыма, убачым.

— Шчыкалатка пакуль яшчэ баліць, — прамовіла дзяўчына, робячы няўпэўнены крок. — Мабыць, давядзецца прыняць вашае запрашэнне, містэр Чэндлер. Можаце называць мяне міс Мэрыян.

— Тады хадзем, міс Мэрыян, — ажыўлена, але надзвычай пачціва прамовіў малады архітэктар. — Далёка ісці не давядзецца. У суседнім квартале акурат ёсць адзін вельмі някепскі прыстойны рэстаранчык. Вы можаце абаперціся на маю руку... так... і павольна пойдзем. Сумна ўвесь час вячэраць на самоце. Я ўжо нават трошкі рады таму, што вы паслізнуліся на гэтым лёдзе.

Калі іх пасадзілі за добра ўбраны стол і побач завіс у чаканні шматабяцальны афіцыянт, Чэндлер напоўніцу адчуў тую асалоду, якую заўсёды прыносілі яму яго рэгулярныя выхады ў свет.

Рэстаран гэты быў не такі бліскучы і напышлівы, як яго ўлюбёная ўстанова трошкі ніжэй па Брадвеі, але саступаў яму зусім нязначна. За столікамі сядзелі надзвычай рэспектабельныя наведнікі, аркестр быў добры, і яго ненавязлівая музыка рабіла размову яшчэ прыемнейшай, а кухня і абслуга былі вартыя любой пахвалы. Спадарожніца Чэндлера, нягледзячы на танную сукенку і капялюшык, трымалася з годнасцю, якая толькі падкрэслівала прыроднае хараство яе тварыка і фігуры. І не было сумневу — яна глядзела на Чэндлера, які паводзіўся бадзёра, але стрымана, глядзела натхнёнымі і шчырымі блакітнымі вачыма, і на яе чароўным твары ўжо амаль чыталася захапленне.

І тут усё вар'яцтва Манхэтана, уся ўтрапёнасць штучнае раскошы, бацылы самазадаволенасці, чума правінцыйнага пазёрства ўсяліліся ў Таўэрса Чэндлера. Ён на Брадвеі, вакол — багацце і бляск. І гэтыя скіраваныя на яго вочы! Ён быў на сцэне, ён граў у гэтай аднадзённай камедыі ролю легкадумнага франта і ляноўнага знаўца свету. Ён быў гатовы да гэтай ролі, і ўсе анёлы-ахоўнікі не здолелі б перарваць яго бенефіс.

Ён пачаў расказваць міс Мэрыян усялякую бязглуздзіцу пра клубы, прыёмы, пра гольф і скачкі, сабак, катыльёны і замежныя паездкі, не забыўшы спамянуць пра яхту, што стаіць дзесьці ў Ларчманце. Заўважыўшы, што яго балбатня робіць уражанне, ён разышоўся яшчэ больш, пачаў цьмяна намякаць на вялізную спадчыну і бесцырымонна скланяць імёны, якія працоўны клас згадвае не без трымтлівай пашаноты. Гэта быў яго дзень, і ён не ўпусціў магчымасці выціснуць з яго ўсё самае, на яго думку, лепшае. І ўсё ж раз ці два чыстае золата дзявочае душы заззяла скрозь туман самазакаханасці, што затлуміў яму галаву.

— Той лад жыцця, пра які вы расказваеце, — прамовіла яна, — здаецца мне такім павярхоўным і несур'ёзным. Няўжо няма ў свеце працы, якая здолела б вас зацікавіць?

— Праца, мая дарагая міс Мэрыян?! — усклікнуў ён. — Толькі ўявіце сабе, што вам кожны дзень трэба пераапранацца да вячэры, а ўдзень нанесці з паўтузіна візітаў — пры тым, што на кожным рагу паліцэйскія гатовыя скокнуць у вашую машыну і адправіць на ўчастак, як толькі вы спрабуеце паехаць хутчэй за павозку, запрэжаную аслом. Мы, марнатраўцы часу, загружаныя працай больш чым хто.

Абед скончыўся, афіцыянт атрымаў шчодрую ўзнагароду, і двое маладых людзей выйшлі на рог вуліцы, дзе яны ўпершыню сустрэліся. Цяпер міс Мэрыян ішла вельмі добра і амаль не кульгала.

— Дзякую вам за прыемны вечар, — шчыра сказала яна. — Але я мушу бегчы дадому. Вячэра была проста цудоўная, містэр Чэндлер.

Ён паціснуў ёй руку, сардэчна ўсміхнуўся і прамармытаў нешта пра брыдж у сваім клубе. Хвіліну ён глядзеў, як яна хутка крочыла ва ўсходнім напрамку, а потым узяў кэб і марудна адправіўся дадому.

Вярнуўшыся ў халодны пакой, Чэндлер адклаў свой вечаровы касцюм, які цяпер чакаюць шэсцьдзясят дзевяць дзён адпачынку. Потым задумаўся.

— Якая неверагодная дзяўчына! — прамовіў ён сам сабе. — Магу паклясціся, што яна — тое што трэба, хай сабе і працуе. Імаверна, калі б я сказаў ёй праўду замест усёй гэтай лухты, мы маглі б... Ды ну ўсё гэта! Я проста мусіў адпавядаць свайму касцюму!

Так разважаў дзікун, народжаны і выхаваны ў вігвамах манхэтанскага племені.

Пакінуўшы свайго бенефіцыянта, дзяўчына паспешліва прабегла два кварталы на ўсход і апынулася перад прыгожым і паважным асабняком, што выходзіў фасадам на галоўнае авеню Мамоны і дапаможных багоў. Яна заскочыла ў сярэдзіну і паднялася ў пакой, дзе прыгожая маладая лэдзі ў вытанчанай дамашняй сукні ўжо трывожна пагладала ў акно.

— А вось і нашая гарэзніца! — усклікнула старэйшая дзяўчына, пабачыўшы ў дзвярах малодшую. — Калі ты ўрэшце перастанеш нас палохаць? Вось ужо дзве гадзіны як збегла з дому ў гэтых рызманах і капелюшы Мэры! Мама ўжо забіла трывогу. Яна адправіла на пошукі Луі з машынай. Ты кепская, легкадумная дзяўчынка!

Старэйшая націснула на званок, і праз хвіліну з'явілася служанка.

— Мэры, скажы маме, што міс Мэрыян вярнулася.

— Не сварыся, сястра. Я проста бегла да мадам Тэа, каб сказаць, што замест ружовай устаўкі трэба зрабіць ліловую. А гэтая сукенка і капялюш Мэры — акурат тое, што трэба ў такіх выпадках. Не сумняюся, што ўсе лічылі мяне прадавачкай.

— Мы ўжо павячэралі, дарагая, ты спазнілася.

— Я ведаю. Я паслізнулася на ходніку і падвярнула нагу. Ісці было балюча, а таму я дакульгала да рэстарана і пачакала, пакуль адчую сябе лепей. Вось чаму я спазнілася.

Дзяўчаты сядзелі ля акна і глядзелі на ліхтары і патокі экіпажаў, што імчалі па вуліцы. Малодшая сястра прыціснулася да сястры і паклала галаву ёй на калені.

— Аднойчы мы, ты і я, выйдзем замуж, — мройна сказала яна. — Але ў нас столькі грошай, што нам не дазволяць расчараваць публіку. Хочаш, сястрычка, я раскажу табе пра чалавека, якога магла б пакахаць?

— Ну давай, летуценніца, — усміхнулася старэйшая.

— Я магла б пакахаць чалавека з таямнічымі і добрымі сінімі вачыма, чалавека, які прыхільна і з павагай ставіўся б да бедных дзяўчат, які быў бы прыгожым і прыязным, але зусім не какетлівым. Але я змагу палюбіць яго толькі тады, калі ў яго будзе мэта, памкненне і нейкая справа ў жыцці. Няважна, будзе ён багатым ці бедным, — я дапамагу яму дамагчыся свайго. Але, дарагая сястра, вакол нас — толькі тыя лянотнікі, што дзеляць жыццё паміж прыёмамі і клубамі, і я не магу пакахаць аднаго з іх, нават калі ў яго сінія вочы і ён па-добраму ставіцца да бедных дзяўчат, з якімі знаёміцца на вуліцы.

**Пераклад з англійскай Ганны ЯНКУТА**

▸ МАРАЛЬ

# У ВЫРАЙ ЯНА НЕ ПАЛЯЦІЦЬ

Валер САНЬКО

**Што памеры лона жанчыны ў параўнанні з памерамі Зямлі — тое памеры Зямлі ў параўнанні з Тагасвеццем; у Ім безліч вымярэнняў, ацэнкаў матэрыі, руху, святла.**



Лабарантка Марыя Петрачэнка пра гэты свет і той свет ніколі дасюль не задумвалася. Як і большасць нармальных здаровых людзей вакол.

Зроблены аборт, насуперак просьбам і рашэнню мужа, перавярнуў душу маладзіцы. Рашучае асуджэнне свякрухі, свёкра, цвёрдая навага Арцёма на развод, страх зробленага граху дакanалі Марыю Петрачэнка. Удар грузавіка, бальнічная палата. У жанчынкі адбыўся пераварот у ацэнках, вымярэннях.

Яна стала зачаста ўзірацца ў акно. Хвіліну, другую, паўгадзіны; увечары доўга не засынае. На пытанні бацькоў адказвае знеахвоцьна.

Пасляабортны раз'езд з мужам, дасюль родненькім і дарагім, абражаным бязглуздасцю рашэння жонкі, падзейнічаў на завочніцу Гомельскага ўніверсітэта надта адмоўна.

Нішто не міла дваццацігадовай. Сама не разумее, што з ёю.

Калі стала затрымлівацца на гарышчы хаты, ні з таго ні з сяго заўзіралася ў вершаліны дрэваў блізкага лесу, маці паехала ў гарадскую школу, балазе ў маленькую прыгарадную вёску з Добруша рэгулярна хадзіў гарадскі аўтобус. Штосьці надобрае робіцца з дачкою, да доктара ісці не хоча, травяныя настоі не п'е. Можа, у школе вы, начальства, мучыце яе лішнімі нагрузкамі, крыкамі, перапытвала дырэктарку занепакоеная маці.

— Апошні час яна часта ператалкоўваецца з настаўніцай Антанінай Адамаўнай Макарэня. Пагаварыце з ёю. У школе ў Марыі Сапронаўны ўсё нармальна, — дырэктар адводзіць маму Марыі Петрачэнка ў настаўніцкую.

— Баюся, каб не звар'ецела... Сонная стала, нішто яе не кранае, — рэдзіць старэйшая. Паўтарае пра восьвосьны штамп у пашпарт дачкі пра развод.

Антаніна Макарэня блізіцца да крамяной яшчэ жанчыны, выдыхае страхотнае:

— Не таго вы баіцеся, не таго. — Як мякчэй сказаць матцы пра мажлівую страту дачкі, ну як? Агучваецца згадка сама: — Яна зсамагубнічаць уздумала. — Убачыла эфект ад выказанага на жанчыну, не адступіла. — Дзіцё яна яшчэ ў вас, дзеці і алкашы на штохочна адважваюцца ў хібны момант.

Бяда Марыі Петрачэнка яднае абедзвюх.

— У мяне ёсць адзін варыянт, не хочацца ўзгадваць, — выціскае Антаніна Макарэня пасля паспешнага абмеркавання спосабаў ужыўлення ў быццё маладайкі. — Быў тут мой зямляк, доктар ад мединстытута і доктар народнай медыцыны. Нешта ведае з паме- жавага, заглыбіннага. Дапамагае людзям. У Слуцку адной сям'і моцна памог, выручыў гаспадара ад самагубства. Яны практычна здалі яму кватэру. Ключы і ў яго. Два ці тры дні на месяц прымае ў ёй людзей.

— Кіну ўсё, паеду да яго. — Жанчына просіць Макарэневую даць адрас, тэлефон Аляксея Бялько. — Ей-Богу паеду.

— Ехаць не трэба, ён вас не прыме. Зафанабэрнічаў ці што. Грошай не бярэ, дык нос задзірае. Наезджанцы хочуць за адзін-два прыёмы вылечыцца. Не ўдаецца — скардзяцца. Праверкаў ён не хоча, згадзелі. Не-не, ён вас не прыме.

Як ні парадаксальна, але дарогу старэйшай Петрачэнкавай да Аляксея Бялько праторыла не аднавяскоўка Антаніна Макарэня, а новы сябра ведуна Раман Кавалёў.

Вынік быў нечаканы. Заказныя пісьмы адначасова атрымалі Марыя Петрачэнка і яе маці.

«Марыі Петрачэнка

1. Пазаўчора Раман Нічыпаравіч Кавалёў па просьбе жонкі Антаніны Макарэня размаўляў са мною па тэлефоне, прыслаў пісьмо-просьбу. Сэнс яго звароту — дапамагчы невядомай мне Марыі Петрачэнка, вызначыць яе стан, вярнуць да рэаліяў школы і вёскі.

У просьбы дальніх і пра дальніх я стараюся не ўмешвацца. Паможаш не паможаш, падзякі не будзе, крыўды займець можаш.

Тут не той каленкор. Маладая справядлівіца з розуму і дурасці стаіць на мяжы непапраўнага, рыўка ў гнюсную для чалавека несціраннасць. Марыя не ўспрымае просьбы блізкіх, парады матулі і новай школьнай дарадчыцы Антаніны Адамаўны. Яна на мяжы самагубства, так-так, самагубства, ведае гэта маці ці не, хай хутчэй асэнсовіць і засцеражэ маладую неразумніцу.

Спецыяльна адсылаю асобна заказное пісьмо вам, матуля, і табе, Марыя. Каб ты, маладая пакрыўджанка, ведала: не цябе крыўдзіць жыццё, ты аплёўваеш вакольных, а цяпер мажэшся абгнюсіць блізкіх, школу, быццё.

Будзеш ты жывая, не будзеш жывая — існасці твой псіхаваны бзык нуль. Гэтым пісьмом расчыняю табе вочы і мазгі. Нікога губствам не ўразіш, не ўпячэш, адно сябе і крэўных.

Так, да жалю, бывае ў асобных псіхічна кранутых. Пасля азнаямлення дадзеным лістом з часцінкаю Тагасвецця ні адзін хворы самаахвотна не кінуўся ў апраметную цемру. Веру, ты, Марыя, зробіш жыццядайны выбар. Цяперашнія ўдары быцця, сямейныя няўладкі не будзеш успрымаць канцом свету.

2. Дазвольце задаць вам абедзвюм нескладанае пытанне. Для чаго нараджаецца чалавек? Заплюшчыце вочы і дайце адказ, а тады чытайце далей.

Для працы, шчасця, радасці, здабывання дабротаў, гадавання дзяцей, дапамогі блізкім і знаёмым... — усё правільна. Тым не менеі, яно ўсё на другім плане. На першым — чалавек нараджаецца для пакутаў. Для па-ку-таў! Найперш для іх. Пасля ўсведамлення такога кожны жыццёвы прасвет радасці ў чалавека — шчасце, цікавая размова, кніга, поспех, адметная сустрэча, учынак — шчасце, любая праца — значная, волатная.

Чалавек павінен жыць, каб не абцяжарваць слязьмі і просьбамі, дакорамі і папрокамі блізкіх: сваякоў, мужа, дзяцей, знаёмых, супрацоўнікаў. Аксіёма. Лішнія турботы нікому не патрэбны.

3. На першым перакрыжаванні чалавека ацэньваюць/узважваюць найперш не за добрыя справы (гэта само сабою), не за недапушчанае зло. Найперш ацэньваецца, што чалавек... Не ўсім ведаць поўны адказ, стрыжнявое не кажу. Дастаткова вам наступнага. Жыць трэба не адно для працы, пра што я толькі што казаў — каб не знікла мінулае, твой род, гісторыя тваёй нацыі.

Сваякі будуць гідзіцца самазабойцы, з-за недамысліка народ стане бэрсіцца ўсіх яго крэўных. Як каросілвых. Чалавек абавязаны дастойна прайсці свой метр пакутаў, не можаш метр — сантыметр, не долееш — міліметр. Але прайдзі. Не выцерпіш удары жыцця, не адкрыеш запланаванае — рэзка сплывеш уніз, на полкі пекла. Як алкаш, бомж. Найперш ацэньваецца Там не ўзрост і прафесія, нацыя, грошы і пасада — хада ў дабрынь, цярплівасць.

Ты ўсё, Марыйка, выканала — дапамагла навучыцца пісаць і лічыць школьным дзеткам? Дапамагла ўсім дастойным і слабым, добрым і злым, лепшым за цябе і горшым ад цябе?

Ніхто не можа пайсці Дахаты, пакуль не выканае запланаванае правідэнцыйнасцю, генамі і ўласнымі мазгамі, горам уласным і працаю. Усе абавязаныя здзяйсняцца, працаваць, тварыць. Радаваць чалавека справамі і словамі. Не думаць раней часу пра Тагасвецце.

4. Ёсць тысячы няшчаснейшых за нас. Не кідаюцца ў пролубку, пад цягнік, на стрэл ці нож, не вешаюцца. Церпяць нядолю існавання. Церпяць.

5. Падышоў да галоўнага ў дадзеным пісьме.

У чалавека няма нагі, рукі. Церпіць. Прыносіць якможнае цяпло і радасць блізкім.

У другога галоўка паехала. Дзень здаецца ноччу, не верыць дабру, адвяргае цяпло. Хочацца яму адпомсціць жывым, асабліва крэўным і прыяцелям. Аднак не рэжа блізкіх, церпіць долю-нядолю. Не кідаецца з дзявятага паверха ўніз.

Памерлыя і забітыя не сплываюць у нябыт, а маладзёны-самазабойцы распыляюцца. Дык маладое — нявразвітае, цёмнае, дурадурнотнае. А ты, Марыя, сталая і думкая?

6. Закон існавання жывога — не сам нарадзіўся, не сам канчаешся, ты не маеш права пасягнуць на волю Бога, перапыніць уласнае існаванне.

7. Грэх, найвялікі грэх кожнаму, хто перапыніў ручай быцця. Нарадзіўся — гаруй, выконвай можнае, дабрачынічай, карай цемру і зласнюкоў, працуй, галоўнае працуй. Прыйдзе сузгодненасць, дзеці, заможнасць, гармонія.

8. Якібнебыўтыраз'адчайнены, бойся падняць нож/сякеру на другога. Пусціў яму крoў — узяў яго грахі на сябе, забіў — узяў грахі яго крэўных на сваіх крэўных. Тое ж і з самазабойствам.

9. Душы смелых і найгарэтных, якія вераць у Бога, а не вераць у Тагаіснасць, перад якой планета Зямля — меней лістка на дрэве, — душы самагубцаў не трапяць на перакрыжаванне. Яны стануць смеццем перад палонкаю ў лёдзе: туды не могуць, сюды не пускаюць, тут няўлежна, там няможна.

Самагубцы пазайздросцяць чарвяку на распаленай патэльні. Пекла для іх у зямных вымярэннях доўжыцца не секунду ці трыццаць дзевяць дзён, не год ці стагоддзе, пекла для іх тысячы гадоў. Душы забойцаў або падвучальнікаў на забойства не ідуць уверх ці ўніз. Ім няма пераплаўкі. Такія людзі парушылі волю Бога. Паўтараюся, бо патрэбна паўтарацца.

10. Баіцца самагубства любое існае на ўсіх паралелях. Так запісана на скрыжалях жыцця, укрэслена ў дрэве жыцця. Свядома/несвядома гэты закон шануюць усе. Думайце і бойцеся, людцы. Пакуты і радасці цяперашчыны — мільярдная доля ў параўнанні з Тагаіснымі радасцямі і пакутамі.

11. У цябе, Марыйка, так склалася, пакуль няма дзяцей, кінуў муж. Ну і што — канец свету, плакаць, псіхаваць? Разам з птушкамі ляцець у вырай?

Час табе супакоіцца, нікому не навязвацца. Адразу ўсё ўсталюецца. Знойдзецца чалавек для душы і цела.

12. Адумайся. Пішчы не пра сябе і боль душы тваёй. Абмазгуй становішча блізкіх пасля твайго выкідону, ускрыку, самагубства. Сябе не шкада, іх пашкадуй, сталых і маладых.

13. Крэўнікаў самагубцаў доўга пераць няшчасці, бо змалку не засцярогвалі дзіця ад звар'яцельства.

14. Самагубства не абараняе ніводная рэлігія.

15. У храмах такіх не адпяваюць.

16. На кладах самагубцаў не хаваюць.

Палічыў абавязкам напісаць пра што вы здагадваліся і не здагадваліся, пра што па маладосці не задумваліся. Выратуе вас дадзенае пісьмо, выратуе. Галовы ў вас і вашай мамы, мяркуючы па пераказанаму, мудрыя, а сэрцы добрыя.

Будзь, Марыйка, мужнай. Бойся заранняга сыходу ў неаб'ёмнасць, яе ў цябе Там не будзе, нічога не стане, адны стогны, стогны, стогны.

З павагай — А.Б.»

Ліст страсянуў лабарантку. Прылящела да маці, знячэўна ўбачыла такі ж у яе на стале. Сходу ацаніла стан дарагой матулі.

— Яшчэ адзін экстрасэнс знайшоўся! — словы ў маладухі вырваліся хуткія, неабдуманыя.

— Не глядзі, хто сказаў, думай, што сказаў. — Маці ўглядаецца ў дачку, асцярожна ўкладвае пісьмо ў гарсэцік...

Большасць напісанага для іх навізна. Хочуць не згадзіцца, пакрытыкаваць — не могуць. Штосьці вострае пранізвае істоты абедзьвюх. Жылі працавітыя добра, ясна, чыста — і ў цемрыве.

— Дачушка, памятаеш, хто ў нашай вёсцы і суседніх памёр пазалетась? Не, і я не памятаю. — Хрысціцца на іконы, уздыхае, маўчыць. — А цябе будуць памятаць. Усе. І асуджаць. Праклінацьмуць. Як усіх выраДкаў.

Старэйшая паспешна хрысціцца.

— Мне табе цяжка сёння гаварыць. Сцёпку з быхаўскіх Абідавічаў павезлі на крэмацыю ў Мінск, бо ў сваёй вёсцы на кладах вяскоўцы не далі пахаваць, і ў Быхаве не дазволілі. Ва ўзбочнай канаве бацькі не захацелі. Ні адна рэлігія самагубцаў не ўхваляе.

Не заўважаюць, што ўголас паўтараюць вычытанае з ліста.

— Пра такое я не думала, — упершыню за доўгі цяжкі месяц перамоўчванняў Марыя Петрачэнка падтульваецца да маці, вінавата вышэптвае словы падзякі і выбачэнняў. — У вырай не палячу.

— Ведаю, дачушка, ты ў мяне разумная. Ні ў які вырай зарана не паляціш.

Дачка прысаджваецца на ўслон, разам з маці хуценька пачынае лушчыць перасохлыя струкі фасолі. Жанкі з увішнай суладнасцю заканчваюць адну з чарговых восеньскіх справаў, прыязнічаюць у словах, усмешках, жэстах. Пра Тагасвецце не думаюць, як і большасць нармальных здаровых людзей.

МІНІЯЦЮРЫ

# ПАВЕТРАНЫ ДЭСАНТ

Наталля ЯРМОЛЬЧЫК

## Шпіёнка

Ведаеце, я адчуваю сябе злодзейкай, калі зрэдку (даруйце, маню), часам (ды што ж такое?), часта, так, вельмі часта, амаль кожны дзень я заходжу да Вас у госці пад чужым імем з чужой знешнасцю. Я разглядаю Вашыя фотаздымкі, знаёмлюся з Вашымі сябрамі. Колькі іх цяпер у Вас? Сто трыццаць? Не, ужо сто трыццаць пяць. Так шмат мужчын. Па ўсім відаць: Вы карыстаецеся поспехам, нават нягледзячы на свой узрост.

А вось і Ён. Муж таксама сябар. Цікава, захаваў бы ён такі статус, калі б некалькі гадоў таму… Але ж Вы зусім нічога не ведаеце пра тую гісторыю… Маю гісторыю. Адкуль Вам яе ведаць, мяне ж няма, я з'яўляюся да Вас з чужой знешнасцю пад чужым імем.

Прыгожы фотаздымак. Гэта? Так, Грэцыя. На ім магла быць я, але з дзяцінства мне ўбілі ў галаву, што красці чужое нельга, што на чужым шчасці... і гэтак далей і кудысьці глыбей… Куды? Можа, у маю душу. Яна ў мяне ёсць, не сумнявайцеся, можаце перадаць ёй прывітанне ці падзякаваць. За што? Ды хоць бы за шчаслівыя ўсмешкі, сваю і дзяцей, і за сумныя вочы Вашага мужа.

Я не стала злодзейкай, што крадзе, я стала шпіёнкай, якой застаецца толькі адно — пільнаваць чужое і пакрысе вар'яцець…

## Анёл і…

Мой Анёл прыходзіў тройчы. Першы раз ён прынёс мне пярсцёнак Саламона, на якім, як вядома ўсім, было напісана: «І гэта пройдзе…».

Не дапамагло…

Другі раз ён завітаў, каб прачытаць мне верш Ліны Кастэнка:

*І все на світі треба пережити,*
*І кожен фініш — це, по суті,*
*старт,*
*І наперед не треба ворожити,*
*І за минулим плакати не варт.*

Не дапамагло…

Трэці ж раз ён прыйшоў не адзін. Я так спадзявалася, што ён прывядзе Шчасце.

Не, Шчасце, — патлумачыў Анёл, з'явілася б тады, калі пярсцёнак ці верш супакоілі б маё няўрымслівае сэрца. А я ж не паверыла ні першаму, ні другому. Затое Ёй паверыла. Апошняй спадарожніцы Анёла.

## Відэарэгістратар

Ты спачатку марна спрабаваў мяне пераканаць паглядзець запіс на толькі што набытым відэарэгістратары, а потым, калі я, нарэшце, згадзілася зірнуць на новую тваю цацку і праседзела некалькі гадзін запар, маўкліва і ўважліва, углядаючыся ў бясконцую асфальтавую істужку, ты некалькі дзён хадзіў сам не свой, змрочны, як неба перад навальніцай.

Няўжо ты здагадаўся, што ўвесь гэты час я спрабавала зразумець, дзе ж я памылілася, дзе я прапусціла тую дарогу на маім жыццёвым шляху, на якую трэба было збочыць?..

## Паветраны дэсант

За маім акном нябёсы зладзілі дэсант сняжынак. Зграбныя парашутысткі бясстрашна выскокваюць з воблакаў-самалётаў, павольна ляцяць, і, не ствараючы ў прасторы аніякіх дарожна-транспартных здарэнняў: ні сутыкненняў, ні наездаў, ні падрэзанняў, дружна прызямляюцца, ператвараючыся ў вялікія снежныя сумёты.

Так прыгожа, так бяспечна. Я ў захапленні! Правільныя GPS-каардынаты атрымалі перад скачком.

Але вось адна парашутыстка неяк падазрона сябе паводзіць: мітусіцца, кідаецца ўправа, улева, быццам не ведае, што далей рабіць, куды ляцець, і, здаецца, не знаходзячы выйсця з такога складанага становішча, накіроўваецца прама мне ў акно. Плясь — і няма больш сняжынкі, шкло аплаквае небараку танюткім ручайком слязы.

Засмучаная і занепакоеная, узіраюся я ў блакітна-белыя вочы нябёсаў. А ці правільныя каардынаты атрымала я перад скокам на Зямлю?

## Снег і лісце

Лісце прыбіраць лягчэй, чым снег. Ведаеце, чаму?

Лісце ветлівае, а вось снег нявыхаваны.

Чуеце?

Шух-шух-шух, шухстрая, шустрая! Гэта лісце пра мятлу.

Др-др-др, драўляная дурніца. Гэта снег пра лапату.

Такое рознае стаўленне да сваіх забойцаў. Паміраць, застаючыся ўдзячным, на гэтае не кожны здольны.

## Вецер

Навальніца — жонка дажджу, мяцеліца — жонка снегу. Часам дождж і снег сустракаюцца разам, ідуць побач, плачуцца, скардзяцца, небаракі, адзін другому на шалёны характар сваіх жонак.

— Кап-кап, капрызная, калі што не так, дык адразу ў плач. Гатовая ўвесь свет заліць, усе ейныя дурноты даводзіцца выконваць, ані словам не запярэчышы. Сіл няма, верыш, дружа?

— Дык твая хоць плача, а мая, толькі што не па ёй, віхурай лётае, усё навокал зносіць, свет з ног на галаву пераварочвае. Думаеш, мне лягчэй?

Раптам да кампаніі няшчасных мужоў падлятае ветрык, вясёлы, імклівы, шчаслівы, радасна вітаецца, але, здаецца, снег і дождж не заўважаюць яго, ідуць панурыя, занураныя ў свае змрочныя думкі. Зайздросцяць. Няма ў ветру жонкі, толькі брат ураган. Вось, аказваецца, пра каго людзі кажуць: вольны, як вецер. Пра шчаслівага чалавека, не інакш.

## Канстытуцыя

Звычайна прэзідэнты, уступаючы ў свае паўнамоцтвы, клянуцца ў вернасці сваёй краіне, свайму народу, трымаючы руку на Канстытуцыі.



А потым усе дзявіцца і скардзяцца, маўляў, вось зацiснуў бедную Канстытуцыю, прадыхнуць не дае. А чаго тут здзіўляцца? Гэта ж залежыць ад таго, у каго якая рука. Цяжкая ці лёгкая.

Калі я стану прэзідэнтам, то на інаўгурацыі словы клятвы буду прамаўляць, трымаючы галоўны закон краіны на сваёй далоні. І стану самым лепшым прэзідэнтам у свеце!

## Здымак

Пры ўзгадванні пэўных абстрактных тэрмінаў у мяне перад вачыма заўжды з'яўляюцца здымкі, сфатаграфаваныя ўласнай памяццю. Вейкі апускаюцца, захінаючы вочы, шчоўк — і гатова! Што б ні здарылася са мной у жыцці далей і што б ні давялося перажыць пазней, усе астатнія здымкі, зробленыя пасля, заўсёды без чаргі, без аніякіх нараканняў на лідэрства будуць прапускаць самы першы.

Вясковая вуліца. Лаўка. На лаўцы сядзяць дзве бабулькі, Вера і Надзея. Чытаюць газеты, якія ім толькі што аддала паштальёнка. Веры — «Советскую Белоруссию», Надзеі — «Народную Волю», якую выпісвае яе сын. Бабулек амаль не відаць з-за шырокіх газетных аркушаў, на якіх чорныя барозны літар расказваюць пра жыццё краіны. Кожны па свойму ці кожны пра рознае жыццё. Бачны толькі markers рознакаляровыя вясёлыя спадніцы, босыя ногі і скручаныя, парэпаныя пальцы спрацаваных рук, што трымаюць чорна-белыя лёгкія воблакі чужых думак.

Такі вось здымак захоўваецца ў маёй памяці, і надпіс пад ім — «дэмакратыя».

## Сэрца і розум

Ты запрасіў мяне ў тэатр. Сустрэцца дамовіліся непасрэдна перад спектаклем. У той вечар Купалаўскі паказваў п'есу «Не пакідай мяне». Я прыйшла раней. Да мяне падышла незнаёмая дзяўчына і сказала: «У мяне сёння Дзень нараджэння, мы з сяброўкай збіраліся схадзіць у тэатр, але яна не змагла прыйсці. Калі ласка, вазьміце квіток, мне будзе вельмі прыемна, калі ён не прападзе».

«Давайце я яго куплю», — прапанавала я, але дзяўчына катэгарычна адмовілася. Што такое сустракаць Дні нараджэння ў самоце, я вельмі добра ведаю, таму я згадзілася.

І вось тут падышоў ты. Сказаў, што здолеў купіць кветкі толькі на балкон. Мне давялося доўга тлумачыць табе сітуацыю, здаецца, ты зразумеў.

Не памятаю, пра што быў спектакль. Ты сядзеў на балконе, я — у партэры побач з Аленай (мы паспелі ўжо пазнаёміцца і крыху пагутарыць). Мне было не па сабе, я ўвесь час думала, якая ж я сволач, што так абышлася з табою, трэба было нешта прыдумаць, каб сітуацыя не была такой прыніжальнай і няёмкай для цябе. Але што? Пасля заканчэння спектаклю я не магла прымусіць сябе паглядзець, застаўся ты ці сышоў.

Ты стаяў у вестыбюлі каля афішы, якая прасіла: «Не пакідай мяне».

І хоць сэрца па толькі яму вядомай прычыне крычала «сыходзь», розум, не стамляючыся, паўтараў «заставайся», «заставайся», «заставайся».

Прайшоў год. Я расказваю табе навіну, што ўзрушыла мяне і прымусіла ўспомніць, дзе знаходзіцца сэрца. А ты халадна і вельмі ясна адказваеш: «Не трэба было шкло біць!»

— Якое шкло? Дашкевіч, Лобаў, пры чым тут шкло? — ад нечаканага і таму такога моцнага болю, нібы вар'ятка, крычу я.

— Мне ўсё роўна. Не трэба было шкло біць, — як зомбі, спакойна паўтараеш ты.

І сэрца, цяпер ужо па зразумелай мне прычыне, крычала «сыходзь», і розум быў не супраць.

Я бяру шкляны аскепак разбітай надзеі на шчасце і, ледзьве дакранаючыся, праводжу па сэрцы.

Баліць. Крывавіць. Жывое… Прабач, што не заўсёды цябе слухаю…

## Мудрая парада

— Ты замужам? — пытаецца ў мяне бабулька з чаргі. Па ўсім відаць, ёй карціць з кім-небудзь не проста перакінуцца словам, а распачаць сапраўдную па ўсім правілам камунікацыі пабудаваную гаворку.

Я таксама не супраць падмануць хвіліны чакання размовай, але толькі не на такую слізкую тэму.

— Не, — такі кароткі мой адказ.

— Вось і ўнучка мая не замужам, — з такім жалем уздыхае бабулька, што мне становіцца яе шкада.

— А чаму?

— Што чаму? — не разумею я.

— Чаму ты не замужам? Прыгожая ж, відаць, разумная, во кніжачку чытаеш. Дык чаму?

Здаецца, уся чарга павярнулася ў мой бок, каб спраўдзіць інфармацыю, распаўсюджаную бабуляй. Можа, мне яшчэ прайсціся, як на подыуме, для поўнага раскрыцця сваёй красы? Халера, вось і загаворы з чалавекам, мне што — зараз перад усёй чаргой спавядацца.

— Ніхто не бярэ.

Такі адказ, на маю думку, павінен пакласці канец дзіўнаму дыялогу. Эх, уздыхнуць горка і самотна забылася.

— Як? — здзіўляецца бабулька. Здзіўленне яе такое шчырае, што нават мне становіцца ніякавата за мой адказ.

І чарга паглядае не асабліва даверліва.

— Дык ты ж сама інтарэс праяўляй, — знаходзіцца суразмоўца.

— На шыю вешацца? — усміхаюся я.

— Ды хоць бы на шыю. Я вось што ўнучцы сваёй увесь час паўтараю, і табе скажу: лепш аб'едкі, чым астаткі.

— Што? — збітая зпанталыку, пытаюся я.

— Вось ты ў краме астаткі бярэш? Ну там, апошнюю булачку, возьмеш?

— Не, — сумленна прызнаюся. Толькі калі яна мне вельмі-вельмі патрэбна, — нібыта апраўдваючыся, паспешліва дадаю. Але тое, здараецца рэдка, а, па праўдзе, то і ніколі.

— Вось. Так і ў замужжы. Здавалася б, булачка ў краме і прыгожая і смачная, але апошняя, вось чалавек і думае, а чаму яе ніхто не ўзяў да мяне, што з ёй не так, каб была б добрая, то мне не засталася б.

— А… — пачынаю разумець я бабульчыну логіку. Вось чаму існуе думка, што разведзеныя жанчыны хутчэй выходзяць замуж, чым тыя, хто ні разу не быў замужам. Аб'едкі лепш, чым астаткі. Людзі ж розныя густы маюць, і калі не спадабалася аднаму, то гэта зусім не значыць, што не спадабаецца другому. Астаткі ж браць ніхто не хоча.

— Вось. Дапетрыла? — радасна ўсміхаецца бабуля.

Прайшло шмат часу пасля таго майго нечаканага адкрыцця народнай мудрасці. Цяпер у краме я заўжды забіраю апошнюю булачку, бо ведаю: яна чакала менавіта мяне.

## Простыя думкі

Немагчыма ўзяць сябе ў рукі, калі хочацца працягнуць ногі.

Як стаць знакамітым чалавекам? Для пачатку пазнаёмцеся з Гуглам, а потым зрабіце ўсё магчымае і немагчымае таксама, каб з ім пасябраваць. Калі ён, толькі-толькі ўбачыўшы імя, адразу ж падказвае Вашае прозвішча, лічыце, што мэты сваю Вы дасягнулі.

Каханне без узаемнасці — гэта калі ты імчыш па вуліцы з рухам у адзін бок і няма нікога, хто цябе спыніў бы і папярэдзіў, што наперадзе бездань.

**УСПАМІН**

# «ДАГАРЭЛІ ПРЫГАЖОСЦІ СНЫ...»

**Ала СЯМЁНАВА**

…Вера Вярба…

Прыгожая. Таленавітая. Дзёрзкая.

Прыгожая. Мастакі стваралі яе партрэты, скульптары рабілі свае выявы, фотамастакі — свае.

Таленавітая… Нават у знойдзеным псеўданіме. Простым, запамінальным, з гэткай спеўнай семантыкай. Псеўданім перавысіў нават у паўсядзённым, побытавым ужытку тую, паводле пашпарту — Гертруду Пятроўну Маркаву (пазней, па мужу — Сакалову).

Таленавітая. У 22 гады — сябра Саюза пісьменнікаў. У 1964-м годзе — з'ява рэдкая. Ганаровая. Вера Вярба годна трымалася сваёй прыналежнасці да гэтага Саюза, сябрамі якога былі Янка Купала, Якуб Колас, Васіль Быкаў, Янка Брыль, Максім Танк etc. Калі ў XXI стагоддзі раптоўна ўзнік яшчэ Саюз, які пакуль не можа пахваліцца мастакамі такога ўзроўню, яна не дала згоды нават на перадрук ужо вядомых яе твораў у выданнях, дзе вялі рэй людзі з новаяўленага СП.

А дарэчы, у савецкую пару ніколі не займала пасадаў, не ўступала ў партыю (хаця прапановы былі), не ўяўляла сабе ніякай кар'еры, акрамя літаратурнай.

Здаецца, не рвалася да так званай публіцыстычнай паэзіі.

*Між камінoў і пяцігодак*
*Травінкай слабаю стаю.*

Лозунгавага, плакатнага мы ў Веры Вярбы не знойдзем. Але нармальнае, чалавечае, спрадвечнае, сваё, роднае — хвалявала, было неаспрэчным, стрыжнявым, заўсёдным.

*Цябе, вясняная, я помню ў цвеце,*
*Люблю з маленства, родная,*
*люблю.*
*І за таго, каго няма на свеце,*
*Хто ўсё аддаў за родную зямлю.*
*……………………………………*
*Мы за цябе яшчэ не паміралі,*
*Мы для цябе, Радзіма, будзем жыць!*

Жыць — без юрлівай мітусні. Не запабягаючы перад тымі, хто ўладу меў. Рашуча незалежна. Часам, можа, і з выклікам — абумоўленым абставінамі і не абумоўленым.

*А я пераступіла межы*
*Дазволенага мне ў жыцці.*

…Вядомая. Папулярная. А ніводнай прэміі, ніякіх узнагарод, званняў.

Дзёрзкая:

*За што вы толькі не судзілі,*
*А я па-свойму ўсё раблю.*

Ганарыстая:

*Наперакор не толькі лёсу*
*Нясу высока галаву.*
*Мой смех на зорах і на плёсах…*

Якія ж узнагароды стануць упоравень? Ну, але гэта… словы, словы, словы… Так ці інакш, яе чыталі. І чытаюць. Нягледзячы на неймаверны ўціск роднай беларускай мовы і наступ электронных СМІ. Чытаюць не толькі «ручнікі», якія, мне здаецца, адыгралі і добрую, і ндобрую ролю ў творчасці паэтэсы Веры Вярбы. Як што пра Веру Вярбу — так «Ручнікі»… Нават доктар філасофіі — светлая яму памяць…



Было — многае…

Быў і выпадак нашага асабістага знаёмства ў першай палове 60-х гадоў XX стагоддзя. Надарыўся дзень нараджэння маёй сяброўкі Святланы Чачко (па мужу — Кітанінай). Яна на тую пару ўсё сваё жыццё працавала ў Беларускім мастацкім музеі.

Акрамя ўніверсітэта, яна скончыла мастацтвазнаўчы факультэт Тэатральна-мастацкага інстытута — акадэміяй ён тады яшчэ не называўся.

Мы рушылі ў рэстаран «Лета», што месціўся за паркам Горкага. Чацвёра: Святлана, Вольга Аксакава (між іншым, з тых самых Аксакавых, якім належала некалі Абрамцава, і вяла свой род па прамой лініі ад аўтара «Дзіцячых гадоў Багра-ўнука»). Вера Вярба — ужо ў зеніце сваёй славы, у арэоле свайго занятку — паэтэса. І я.

Быў месяц май. Травела зямля. Усё цвіло. Усё — маладое, прыгожае. І нам усім — крыху за дваццаць. Зусім крыху. Выйшлі мы з Мастацкага музея. І мімволі ўзнікалі асацыяцыі. (Хто ведаў гэтых асоб, пацвердзіць — невыпадковыя). Святлана — нібыта ажыўшы прататып Рэнуараўскага партрэта «Жанна Самары». Вольга — што вам «Дзяўчына з персікамі» Сярова.

Нам было светла, радасна, хораша.

*Дваццаць год!*
*Усё проста і ясна.*
*Дваццаць год —*
*Вось калі не асудзяць…*
*Дваццаць год —*
*Незабыўная казка…*

Так мы ўспрымалі тады рэчаіснасць. Такім быў той маёвы, травеньскі дзень. Вясновы. Святочны — не толькі таму, што сярод нас імянінніца. Мы вясёлыя і соладка ап'янелыя ад таго — чароўнага, незваротнага напою, настою маладосці.

Са Святланай я сябравала ўсё жыццё… Вольгу бачыла зрэдзьчасу, Веру — калі чытала, калі — не. Сутыкаліся — на юбілеях, вечарынах, сходах Саюза пісьменнікаў, пленумах, з'ездах… хаўтурах…

…Калі выйшла кніга выбранага Веры Вярбы «Белыя пісьмы», я працавала ў часопісе «Нёман» і адразу замовіла рэцэнзію Веранікі Стральцовай. Артыкул з'явіўся — удумлівы, вытанчана-пранікнёны.

…А Вера жыла… Сваім творчым, сваім асабістым жыццём… Там адбывалася рознае. І паводле неадменных законаў паэзіі, яе неспазнанай магіі, нешта зусім звычайнае набывала патаемную значнасць, дадатковы сэнс, як было прынята пазначаць у 60-я: падтэкст.

*Як напісаць табе, мой дружа? —*
*Загінулі ў дарозе ружы…*

Нібыта і ні пра што. І пра многае. Пра страчанае. Ненабытае. Непрамоўленае. Пражытае і непражытае…

*І туманамі*
*плача восень…*

Адышоў той наш даўні, агульны дзень… Адышлі тыя дні…

*І юных дзён*
*з сабой не паведу я.*
*Як адгарэлі прыгажосці сны…*

Што было — пасля таго дня? Тых дзён?

*Між адчаем і работай*
*Мінае хутка маладосць.*
*І толькі мудрасць адзіноты*
*Спакой адзін у свеце ёсць.*

Складвалася і не складвалася жыццё… Складвалася тое, што называюць біяграфіяй. Анкетнай і пазаанкетнай… Радасці… Страты… Спатканні… Расстанні… Сувязі… Мроі…Спадзяванні і адчай… Сустрэчы з дзеячамі Deigratia (міласцю Божай) і пасрэднасцямі…Выпадкі знакавыя і нязначныя…

…Галасы духоўнага яе жыцця, што перастваралiся ў словы… Канкрэтныя асобы…Прымроеныя… Сілуэты, калі лёт фантазіі матэрыялізуецца, знаходзячы нешта рэальнае і ідавочнае.

*Пяшчотай вобраз твой*
*размыты,*
*Як вуліцы начной абрыс.*
*……………………………*
*З дарог пялёсткавых ад Крыма*
*Спяшаюся ў былой журбе…*
*Не ўсе шляхі вядуць да Рыма,*
*Мае ж — імкнуцца да цябе.*

Нібыта аб прыватным, асабістым, але — скарыстоўваючы правы мастака — залежаць і не залежаць адначасова ад жыццёвага, пазавершавага вопыту, ад канкрэтных крыўд і няўладзіц. «Абарвала ад болю струну», «непрыкаяная і няўтульная»…

*Далоні зорнае сячэнне*
*І абяцанняў дзікі сад…*
*Малю за новае імгненне,*
*За развітальны твой пагляд.*

«Развітальны»… Падобна, хэпі энда не вызначалася. Але было тое, што і ў радасці, і ў роспачы жывіць духоўны, душэўны вопыт, вызнае неабходнасць адстароніцца ад, здавалася б, нясцерпнага, неадступнага болю — і вымераць прыватнае іншым быццёвым маштабам.

*За краем шчасця і трывогі —*
*Амыты хваламі парог,*
*Мне маладзік схіліўся строгі*
*У яве пройдзеных дарог.*

Дарогі, дарогі… Шляхі жыцця… Што галоўнае? Што адметнае? Што — адышло назаўсёды? Што засталося?

…Кожная з нас ішла сваёй дарогай… Былі скрыжаванні… Перакрыжаванні…

І неяк, ужо ў XXI-м стагоддзі, увечары, Вера патэлефанавала мне. З канкрэтнай нагоды. Размова перакінулася і на іншае… З таго вечара мы досыць часта перагукаліся па тэлефоне. Пра што гаварылі? Пра літаратуру і літаратараў, пра пярэкруты жыцця і сённяшняга побыту… Амаль ніколі — пра асабістае. Ні пра жыццё, ні пра творчасць… Былі ў нас яшчэ агульныя прыхільнасці да братоў нашых меншых: катоў, сабак… Да птушак. Кветак…

Густы літаратурныя ў нас у нечым супадалі, недзе цалкам адрозніваліся. Аднак мы не даказвалі, не пераконвалі, не спрачаліся. Кожная заставалася са сваімі меркаваннямі, пастулатамі, мроямі…

Былі моманты поўнага супадзення — настрояў і поглядаў. Падчас тых падзей на Плошчы і пасля іх тэлефанавалі часта. «Ну, што?» Яна набыла сабе прыёмнік і спрабавала слухаць радыё «Свабода», але, падобна, як і я па сваім, мала што магла прасачыць. Пільна працавалі іншыя: шумавы эфір… Ну, а калі ў траўні (зноў — у траўні) я, разам з іншымі, сустрэла вызваленага з залы суда Уладзіміра Някляева, прыйшоўшы дадому,адразу «выдала» навіну Веры. «Віват!» (А многія і многія тады сачылі за яго лёсам і лёсамі тых, хто рызыкнуў спраўдзіць сваё канстытуцыйнае права!)

…Радаваліся… Вялі размовы пра навіны… Пра нашае пакаленне… Пра тых, каго ўжо не было побач з намі… «Пустыня», — нібы падводзячы рысу, скрушна-спакойна прамаўляла Вера…

Страты… Даўнія і зусім нядаўнія. Калі пакінуў свет мой муж, Вера была з тых, хто не даваў мне застацца зусім сам-насам… Званіла… Не суцяшала, а імкнулася, каб я не згубіла сувязь з рэчаіснасцю…

…Ад'язджаючы — апошнім разам! — на лецішча, яна тэлефанавала: «Заўтра Юра адвязе…» — Юра — сын…

…Магу сабе ўявіць, як кідаўся ён у тыя ліпеньскія дні — лета, выхадныя дні, усе на лецішчах, у ад'ездах, у адпачынках… Безумоўна, мабыць, ніякіх запісаў, тэстаментаў…Яна ні на што не скардзілася… Але ж — як тэстамент і галоўная просьба:

*Калісьці*
*ў ціхую гадзіну*
*Малюся я*
*за свой спакой:*
*— Пакінь мне, Божа,*
*толькі сына*
*Пад міласэрднаю рукой.*

…Я кладу ружы да партрэта Веры… Бяскрайняе — ані дрэўца (забараняюць садзіць) — апошняе прыстанішча многіх… Калодзішчы… Але сын Юра ўжо да 40 дзён нібыта вызначыў межы, — ад гэтай беспатольна-безнадзейнай прасторы… Усё зроблена дыстынктоўна, з густам, такая прасторава-духоўная аўтаномія: як быццам і стандарт (агароджа, лавачка, столік), але кожны вянок, кожная кветачка вызначаны абрысам сваім.Фарбаю і месцам — з любасцю, пяшчотай…

«Як дагарэлі прыгажосці сны…» І засталіся… У яе паэзіі… У памяці людзей. У памяці сына… У яе партрэтах…

*Помні мяне*
*прыгожай,*
*Помні, сынок,*
*маладой…*

Усё. Раптоўна. Не хварэючы… Не развітваючыся… А тэстаменты — у пэўным сэнсе — яны былі:

*Хай трудны шлях былых ваганняў*
*Наканаваны без пары,*
*Каб жыць нанова мець жаданне —*
*Я лёс хацела б паўтарыць.*

Ёсць нават і такое:

*Я зберагла душой удзячнасць*
*Да перажытага жыцця.*

Дзе, мабыць, паэтычная рэальнасць, паэтычныя відзежы супадалі з уласнай сутнасцю, вобразам творчых паводзін.

*Іду, спяшаюся па промню,*
*Як па наточаным нажы.*

…Пра што думалася ёй у апошнія імгненні? Згадвалася незгаданае? Вылічвалася невылічальнае? Можа, які вясновы дзень накшталт таго, калі мы выпраўляліся святкаваць дзень нараджэння сяброўкі?

Юнацтва… Маладосць… Тут, непадалёк ад Веры, знайшла апошні прытулак і тая самая Святлана, што сабрала нас у вясновы дзень… А Вольга Аксакава пакінула свет першая: ёй было крыху за сорак… Як і яе мужу, якога яна пахавала незадоўга да канца свайго зямнога шляху… (Яму, між іншым, адмовілі ў праве падвышаць адукацыю ў ваеннай акадэміі пасля радыёлакацыйнага вучылішча ў Мінску — жонка нарадзілася ў Шанхаі… Гвалт! Белаэмігранты!)

…Дзень ціхі, спакойны… І я праходжу па Каладзішчанскіх могілках… Янка Брыль, Анатоль Чаркасаў, Вераніка Чаркасава… Мае аднакурснікі Генадзь Шупенька і Янка Саламевіч…

Мікалай Казлоў (для тых, хто не ведае, выдатны мастак, кніжны графік)…

Мой дарагі Март… Мой муж… Святлана… Вера Вярба…

І зноў у памяці радкі. Не Веры. Вядомае… «In memoriam…» Не рызыкую перакладаць Анну Ахматаву:

*А вы, мои друзья последнего*
*призыва!*
*Чтоб вас оплакивать,*
*мне жизнь сохранена.*
*Над вашей памятью не стыть*
*плакучей ивой,*
*А крикнуть на весь мир*
*все ваши имена!*

АГЛЯД

# НЕ СТРАХ, А РАЗВАЖЛІВАСЦЬ

ЛеГАЛ

**Не так даўно на сайце радыё «Свабода» яе службоўцам Янам Максімюком коратка запалілася актуальная дыскусія на тэму адсутнасці сучаснай беларускай крытыкі.**

Сам запал дыскусіі ўсчаўся з відочных запатрабаванняў і наспелых праблем самой радыёслужбы, насіў даволі правакацыйны характар і меў на мэце ажывіць аўдыторыю ды прыцягнуць да жывой дэмакратычнай (і не толькі літаратурнай) праблемы больш шырокае кола апатычна настроеных апошнім часам, але ўсё яшчэ заангажаваных нацыянальнай культурай беларускіх людзей розных палітычных поглядаў. Сказаць, што дыскусія атрымалася, не выпадае. Хутчэй, востра-сюжэтная паляміка з пераходам на асобы, бо не ўсе зразумелі пасылу спадара Максімюка, таму ўсур'ёз пачалі аспрэчваць ды лаяць як яго, так і прапазіцыі іншых апанентаў. Праблема сутнасці сучаснай літаратурнай крытыкі замянілася праяўленнем сутнасці характараў саміх аўтараў, грамадзянскія амбіцыі якіх паўсталі па-над тэмай распачатай дыскусіі. Прычына для такіх пасылаў і паводзін у іх, шчыра скажам, была. Вось як пачаў свой артыкул «Страх крытыкі» Я. Максімюк:«Беларускай літаратурнай крытыкі няма. Ды што я кажу — літаратурнай крытыкі? Няма нават нечага такога, як літаратурная рэцэнзія. Няма дзядзькоў і цётак, якія, прачытаўшы новае беларускае выданне, селі і напісалі б, што пра гэтае выданне думаюць ЯНЫ. Праўда, здараюцца яшчэ дзядзькі і цёткі, якія, прачытаўшы новую беларускую кніжку, сядаюць і пішуць, што пра яе трэба думаць НАМ. Але пагадзіцеся, што гэта дзьве вялікія розьніцы, ня толькі ў Адэсе...»

А напрыканцы ўсе свае рытарычныя развагі падсумаваў так: «Таму і прыходзяць мне ў галаву розныя трывожныя пытаньні, накшталт таго, што я ўжо згадаў: за кошт чаго будзе выжываць беларуская літаратура, калі Беларусь, чаго добрага, стане дэмакратычнай, і ў беларускіх чытачоў ды эўрапейскіх спонсараў зьнікне маральны імпэратыў падтрымліваць літаратараў, якіх прыгнятае дыктатар? А хто, дарэчы, прыгнятае літаратурных крытыкаў? І за што?».

Тут і наехалі на замежнага беларускага нахала такія яго больш вядомыя і сцвердзіўшыя сябе ў літаратуры апаненты, як С. Дубавец, А. Сідарэвіч і У. Някляеў... Што з таго выйшла, я напісаў вышэй. І ўсё ж, спадзяюся, што ў дадатку з мноствам рэзка-мітуслівых каментароў на сайтах РС і НН гэтая кароткая, як сухі стрэл, дыскусія пэўным чынам акрэсліла на цэле суфлета, як пішуць маладзейшыя, «ачагі» прагрэсіруючай хваробы...

Шкада, а мо і добра, што артыкул (вытрымкі з больш значнай працы) ***Ірыны Шаўляковай***, што з'явіліся ў чарговым — 60-м — нумары «Дзеяслова» пад назовам ««Рэпутацыя» пасля (аўта)дыскваліфікацыі (беларуская літаратурная крытыка 2000-х гадоў)» не апынуўся ў шэрагу вышэй агавораных тэкстаў, а, счакаўшы, паўстаў наводдаль, як бы наўмысна для параўнальнага аналізу. Чытачы «Дзеяслова» маюць адмысловую магчымасць, каб зрабіць свае высновы. Тэкст вядомага крытыка вызначаецца сярод вышэй упомненых насычанай фактурай сучаснага літпрацэса і адстароненасцю ад палітычнай кан'юнктуры (у адрозненне ад галаслоўнасці і падтэкставай палітызаванасці апанентаў). Вось як пачынае свой артыкул спадарыня Шаўлякова: «Звыклы ў абсягах трэці XX ст. тандэм беларускай крытыкі (...) і беларускага літаратуразнаўства з пачатку 2000-х гадоў перажывае, магчыма, адзін з самых лёсавых «момантаў» у гісторыі свайго існавання. Адчувальнае ўжо ў 1990-х аслабленне сувязяў унутры згаданага тандэма цягам першага дзесяцігоддзя XXI ст. прывяло да асаблівай самаізаляцыі яго складнікаў, якія пачалі нібыта герметызавацца і адначасова дыстанцыравацца адно ад аднаго, выяўляючы непранікальнасць для ўзаемаўплываў не толькі метадалагічных, але і каштоўнамэтавых. Найбольш відавочным (заўважным, так бы мовіць, «на паверхні» айчыннага філалагічнага дыскурсу) наступствам гэтага напачатку другога дзесяцігоддзя XXI ст. стаўся дысананс «рэпутацый» крытыкі і літаратуразнаўства».




І заканчвае на спадзеўна-аптымістычнай ноце: «Менавіта беларускае літаратуразнаўства, з яго арыентаванасцю на сінтэз лепшых айчынных традыцый і найноўшых ідэй, метадаў, падыходаў на актуалізацыю беларускай нацыянальнай літаратуры як унікальнага феномена агульначалавечай культуры, мусіць дапамагчы крытыцы ў самім паняцці «нулявых» убачыць выразную перспектыву. Бо нуль — гэта не толькі фінал, брама ў «мінус-гісторыю», але і пачатак, абяцанне новых трыумфаў».

А што ж, спадарства, сама прычына прычын — літаратура? Мастацкая, зразумела. У свежым нумары часопіса яна таксама прысутная. І з боку гледзішча крытыкі, як заўсёды, апынаецца падсуднай.

***Уладзімір Някляеў*** звычна майстравіты, арыгінальны, загадкава-дзіўны — і спрэчны... Купала, Колас, Быкаў стаяць у нас на высокім нацыянальным покуці, не кожны дацягнецца. Аднак спробы павінны быць. Нехта ж павінен, калі Бог даў, наблізіць нізкае да высокага... Някляеву, на мой погляд, там, дзе ён забывае пра сябе, гэта ўдаецца.

Як эсэіст-літаратуразнаўца выступае паэт ***Васіль Зуёнак.*** Яго эцюды маюць нестандартны характар, ажыўленыя сённяшнім днём, у меру эмацыянальныя — мяркую, будуць прыдатныя і цікавыя сучаснаму чытачу.

Можна падзяляць ці не падзяляць (я, да прыкладу, не падзяляю) праамерыканскія высновы ў эсэ «Чацвёрты Рым» ***Сяргея Абламейкі,*** але сама актуальнасць абранай тэмы і форма яе падачы ў гармоніі з даходлівай традыцыйнай стылістыкай прыцягвае і роздумна чытаецца, аналізуецца і параўноўваецца. Вядома, згодна з інтэлектам і досведам кожнага чытача.

Юбіляр, маскоўскі беларус «помнящий родство», пісьменнік ***Валерый Казакоў*** прапаноўвае чытачу свае лірычна-філасофскія запісы, трапна абазваныя ім «Абібокамі». Як вядома, яго проза замешана на рэальным жыцці і мае глыбокую духоўную аснову. Лірычныя абразкі, філасофскія развагі, афарызмы — усё гэта агулам выяўляе як характэрны вобраз самога аўтара, так і нашага неаднназначнага часу. Вось колькі прыкладаў:

«Паслухайце вецер, як па-рознаму ён вядзе све маналогі, колькі ў іх гукаў, музыкі, звярынага рыку, птушынага свісту, колькі сілы, болю, радасці і страху, які студзіць кроў. Паслухайце вецер, ён многае распавядзе пра вас.»

«Усю ноч беглі да святла, а сонца ўзышло за спіной».

А вось з поўнамаштабнай прозай у гэтым нумары складаней. Хоць, скажам, ***Уладзімір Дамашэвіч*** — пісьменнік ужо, выбачаюся, стары, а пісьмо яго простае і дзіўнаватае... Я так і не ўразумеў, за што ў яго аповедзе таемны кадэбэшнік забіў качалкаю артыста... Хоць памятаю, што падобны да сюжэта гэтага аповеда выпадак некалі ў Мінску здараўся...

Аповед ***Іллі Сіна*** «BDSM» сам па сабе (па змесце — плынь свядомасці, спантаная проза з адсыламі да іншага) — гэта фрывольная бязглуздзіца, у якой аўтар ускладаў больш надзеі на чытацкі інтэлект, чым на свой уласны. Што ён меў на ўвазе пад нібыта глыбока схаваным падтэкстам, вядома толькі яму і, мабыць, таму чытачу, які дагнаў ICQ аўтара. Зрэшты, у прынцыпе, тэкст чытэльны. Але, разам з тым, раздражняльны і ў нейкай меры правакацыйны. Апусценне чалавека — вось які аўтарскі пасыл асабіста я вынес пасля прачытання і няпростых спробаў разгадкі гэтай філалагічнай шарады.

Аповеды ***Віктара Супрунчука,*** асабліва «Магнітны чалавек», я ўжо чытаў пад яго прозвішчам і двойчы таму пяць гадоў таму. Хоць першы з іх «Анэля і Парыж» даволі прыстойны.

Заканчваецца публікацыя рамана ў апавяданнях «Рурыкавічы і Рагвалодавічы» ***Генрыха Далідовіча.*** Апошняя часта прысвечана жыццю і княжанню Мсціслава. Трэба аддаць належнае пісьменніку, бо праца над такім творам патрабавала вялікіх творчых намаганняў і часу. Можа тэксты, як (у пэўнай ступені) для мастацкага твора, трохі перагружаны гістарычнай інфармацыяй, з іншага боку — такая інфармацыя карысная і неабходная для маладога і, скажам, не надта абазнанага чытача. Твор займальны і доследны. Яго канчатковую вартасць, спадзяюся, вызначаць нашы нацыянальныя гісторыкі і аналітыкі ад літаратурнай крытыкі. На астатку не праміну падаць такую цытацыю: «Мсціслаў разумеў: сваёй, славянскай, гісторыі не спазнаць, як сваё і чужое спазналі ў адукаваных Грэцыях і Егіпце (вунь калі жыў там Пталамей, а вось склаў накідак не толькі сваіх і блізкіх зямель, але ўсяго свету!)... Як не любіў родны Кіеў і сумаваў па ім, асабліва па маці і братах ды сёстрах, ды не мог не прызнаць: амаль спрэс драўляны Кіеў — глухмень, свая Цьмутаракань перад Царградам».

Часопіс друкуе дзве кароткія п'есы старэйшыны сучаснай нацыянальнай літаратуры ***Ніла Гілевіча*** («Нас падзялілі» і «Адрынуты») на ўсё яшчэ балючую для нас тэму сталінскіх рэпрэсій сярод беларускіх літаратараў і інтэлігенцыі. Зрэз асабістых лёсаў людзей, адрынутых сацыялістычным бальшавіцкім грамадствам і яго карнай машынай. Характары выпісаны так натуральна, з такой нязмушанай і нязрушанай часам мацярынскай мовай, што, здаецца, аўтар стварыў гэтыя п'есы той страшнай парой і толькі цяпер дастаў іх з глыбокай шуфляды, хоць даты (2001 і 2011) сведчаць пра іншае.

Што да паэзіі, то цікава было пасля задоўжанай паўзы сустрэцца з вершамі ***Алеся Пашкевіча,*** які было пераключыўся на прозу. А паэт у ім аказаўся яшчэ як жывучы! Нездарма ж такія страфы выдыхаюцца:

*Позна жыць і рана паміраць.*
*Раны лютыя баляць мінулым.*
*Бог крывіцкі, вышлі ў поле раць*
*Даказаць, што травы — не заснулі!*
*Травень, травень, мой адзіны брат,*
*Захлынуцца ў брудзе ліхадзеі.*
*Вылечы й схавай, нябесны сад*
*Бел-жыццёва-белае надзеі!*

І ўвогуле, чытаючы такія вершы (лірычныя і напружанага грамадзянскага гучання), нельга не паўтарыць услед за аўтарам: «І што казаць? Усё міне — //апроч нябёсаў ды цябе, //Радзіма» .

Новая нізка вершаў ***Аксаны Данільчык*** — гэта па сутнасці сучасная пастаральная лірыка з заўважнай міфалагічна-эзатэрычнай падсветкай. Найбольш урэзалася ў памяць гэта:

*такой жаданай еднасці хвілінай*
*прасякнуты нарэшце рух сусветны*
*і фарбамі квітнеючага лета,*
*і гукамі прыцішанага поля,*
*што думкі запаветныя мімволі*
*вяртаюцца ў забыты рай вясковы*
*парэчкавы агрэставы вішнёвы*

*дзе я ў бабулінай стракатай*
*хустцы*
*парэчкі рву і да мяне малой*
*зямля звяртаецца па-беларуску*

*сакральнай мовай памяці маёй*

Вершы ***Анатоля Брусевіча*** вельмі асабістыя, шчырыя, пранізлівыя, але падчас іх высокую сутнасць псуе штучная і манерная (а сям-там і вульгарная) знарочыстая аляпаватасць. Агулам, атрымаўшы душэўнае задавальненне ад прачытання вершаў, я пашкадаваў празмернай аўтарскай майстравітасці, якая ўсё ж пэўным чынам зацяняла «болдзінскі» свет паэта. Удачы яму!

Своеасаблівую дзёрзска-правакацыйную нізку вершаў Ірыны Бельскай можна ахарактарызаваць цытатай вось гэтага яе тэксту:

*Я не паэт, не мастак, не лінгвіст,*
*І не філасаф, і не гітарыст...*
*Гэта не лічыцца, гэта — не твор,*
*Гэта прыватны мой саматэрор,*
*Гэта мой танец на костках*
*уласных —*
*Рэха насмешкі — чыстай і яснай...*
*Вочы зашыты,*
*Завязаны рот мой —*
*І не запэўніць у адваротным.*

Сярод паэтычнага шматгалосся змешчаны і «позні вершы» аўтара гэтага опуса ***Леаніда Галубовіча...***

Хочацца коратка спыніцца і на бліскучым тэксце, спалучаным з дапытлівасцю і мудрасцю, у разважнай гутарцы ***Міхася Скоблы*** з вядомым рускім паэтам з беларускімі каранямі ***Ігарам Шклярэўскім.*** Гэта і своеасаблівая лакмусавая паперка на тэст для пераважнай бальшыні чальцоў чаргінцоўскага СПБ, што пішуць на мове старэйшага брата, але прагнуць звацца беларускімі паэтамі і пісьменнікамі.

Асобнай рубрыкай змешчаны ў часопісе і творы пераможцаў конкурсу маладых літаратараў «Экслібрыс», сярод якіх мне падаліся найбольш вартымі, аздобленыя беларускім духам, пераклады ***Алесі Башарымавай*** са шведскай (Г. Ліндэ) і ***Ганны Янкута*** з ангельскай (А. Конан Дойл). Пэўныя творчыя перспектывы, асабліва ў форме, праглядваюцца ў арыгінальнай прозе ***В. Стромавай.***

Апроч агаворанага, часопіс друкуе літаратуразнаўчы артыкул ***Анатоля Трафімчыка*** «Хто чужаніцы?» (пра тое як пададзена ў творчасці Я. Коласа тэма падзелу Беларусі 1921 года).

***Алесь Гібок-Гібкоўскі*** выступае з цікавым займальным артыкулам на тэму беларускага следу ў «Таямніцы скарбаў Напалеона».

***Дзяніс Марціновіч*** прапануе ўвазе чытачоў свае суб'ектыўныя развагі адносна новага прачытання твораў І. Шамякіна.

Наастатку — «Дзеяпіс», дзе можна знайсці падказку пра новыя выданні беларускіх кніжак.

Думаю, кожны адшукае ў свежым нумары часопіса чытанне на свой густ. Абсалютна ў гэтым упэўнены. Таму, шаноўныя, не абмініце юбілейны 60-ы нумар часопіса «Дзеяслоў».

ПРЭМІІ

# ГАНКУРАЎСКІ ЛАЎРЭАТ-2012

**Галоўныя французскія літаратурныя прэміі за 2012 год былі прысуджаны за «Казань пра падзенне Рыму» і «Дзеву Марыю Нільскую».**


На фота — Жэром Ферары

Першым паведаміла інфармагенцтва «Reuters», што лаўрэатам Ганкураўскай прэміі 2012 года стаў пісьменнік Жэром Ферары. Прэстыжная французская літаратурная ўзнагарода была ўручаная яму 7 лістапада (!) за раман «Казань пра падзенне Рыму» (Le Sermon sur la chute de Rome).

Жэром Ферары нарадзіўся ў 1968 годзе. Ён выкладае філасофію ў французскім ліцэі ў Абу-Дабі. Яго супернікамі ў барацьбе за прэмію былі Патрык Дэвіль з «Peste et choléra» («Чума і халера»), Жаэль Дыкер з «La Vérité sur l'affaire Harry Québert» («Праўда пра справу Ары Кебер») і Лінда Ле з «Lame de fond» («Шквал»).

Ганкураўская прэмія ўручаецца з 1903 года. Яе памер звычайна сімвалічны (сёлета — 10 еўра), аднак прысуджэнне выводзіць раман-пераможцу ў бэстсэлеры.

Па традыцыі ў адзін дзень з Ганкураўскай у Францыі ўручаюць прэмію Рэнадо, якая шмат у чым і дапаўняе, і парадыруе першую. Сёлета яе лаўрэатам назвалі ўраджэнку Руанды Схаластык Мукасонга за раман «Дзева Марыя Нільская». Леташнім пераможцам прэміі быў Эмануэль Карэр з раманам пра Эдуарда Лімонава «Лімонаў»…

ЛІТІНФАРМ

# ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ НЕСТАРА-ЛЕТАПІСЦА

**9 лістапада адзначаўся дзень памяці Нестара-летапісца, які лічыцца стваральнікам «Аповесці мінулых гадоў», — аднаго з асноўных гістарычных дакументаў старажытнарускага перыяду.**

Нестар Пячэрскі (каля 1056–1114 гадоў) нарадзіўся ў Кіеве, стаў паслушнікам у Кіева-Пячэрскай мясціне ў сямнаццаць гадоў. Яго прыняў сам вялебны Феадосій, заснавальнік манастыра. Юнак у паслушніцтве вызначаўся стараннасцю і чысцінёй жыцця, таму пасля пастрыжэння ў манаства яго ганаравалі санам іерадыякана. Асноўным паслушэнствам у манастыры для яго стала кніжная справа: больш за ўсё Нестар вядомы як складальнік «Аповесці мінулых гадоў». Акрамя яе пяру Нестара таксама належаць жыцці першых рускіх святых Барыса і Глеба, вялебнага Феадосія і іншыя не менш значныя кнігі. Ад ранейшых узораў царкоўнай літаратуры іх адрознівае «жывасць» персанажаў, мірскія дэталі тагачаснага кіеўскага побыту, а ў цэлым — заангажаванасць герояў у паўсядзённасць.

«Аповесць мінулых гадоў», пазней улучаная ў склад амаль усіх летапісных збораў, была пачата каля 1113 года і ў арыгінале да нас не дайшла, а толькі ў выглядзе пазнейшых копій. Жыццё ў ёй разглядаецца аўтарам як проціпастаўленне дабра і зла — не толькі як барацьба пасланцаў Бога і сатаны, але і як антаганізм добрых і злых людзей.

9 лістапада — дзень памяці Нестара-летапісца, які Украіна адзначае і як дзень украінскага пісьменства і мовы.

# ЛЮБІМЫЯ КНІГІ ЗОРАК ГАЛІВУДА

**У інтэрнэце з лёгкай рукі амерыканскіх журналістаў з'явіўся спіс любімых кніг кіназорак. І ўспрымаецца ён — як і чакалася — неадназначна.**


Брус Ўілліс: «А ты прачытаў Герадота?»

Ну хто б мог падумаць, што амерыканец ірландскага паходжання Джордж Клуні — прыхільнік Льва Талстога, а любімы творца прыгажунчыка Арланда Блума — Дастаеўскі? Дэніэл Рэдкліфф (твар Гары Потара) з'яўляецца фанатам Міхаіла Булгакава…

Апошняе, зрэшты, не таямніца, — прынамсі, з тых часоў, як Дэніэл Рэдкліфф пераўвасобіў героя «Запісак юнага лекара» ў аднайменным серыяле і распавёў журналістам, што «з'яўляецца прыхільнікам творчасці Міхаіла Булгакава, а здымкі ў падобным праекце ўспрымае за вялікі гонар». Сваёй любімай кнігай Дэніэл Рэдкліфф назваў раман Міхаіла Булгакава «Майстар і Маргарыта».

Акцёр і рэжысёр Джордж Клуні — прыхільнік Льва Талстога, а яго лепшая кніга — «Вайна і мір».

Арланда Блум аддае перавагу «Братам Карамазавым» Фёдара Дастаеўскага. Што ж, з яго самога атрымаўся б нядрэнны Алёша ў галівудскай версіі, калі б такую задумалі зняць усюдыісныя амерыканцы — праўда, пасля ролі «дрэннага хлопца» Бэкінгэма ў «Мушкецёрах 3D» ужо здаецца, што Арланда здолее сыграць і Івана…

Любіць пісьменніка Дастаеўскага і Дэвід Швіммэр (Рос Геллер з серыяла «Сябры»): яго фаварыт — раман «Ідыёт». Прынамсі, так прызнаўся сам Дэвід.

Цалкам прадказальныя — і тым бліжэйшыя аўдыторыі — Джоні Дэпп і Кіра Найтлі. Паслядоўны рок-н-рольшчык Джоні аддае перавагу Керуака, а канкрэтна — раману «У дарозе» («On the Road»). А памятная па экранізацыі класічнага твора Джэйн Осцін «Гонар і прадузятасць» Кіра Найтлі толькі той твор і ўзгадала. Зрэшты, народжаная ў Брытаніі актрыса магла палюбіць раман Джэйн Осцін яшчэ дзяўчынкай…

А вось брытанец Х'ю Лоры (доктар Хаўс), нягледзячы на свой моцны ангельскі акцэнт, у літаратурных любімчыках мае амерыканца — Германа Мелвіла, канкрэтна — яго «Мобі Дзіка».

Улюбёнка публікі, акторка-прыгажуня, якой не раз прыйшлося пераадольваць псіхалагічныя праблемы, Дру Бэрымор назвала сваёй кнігай №1 працу аўстрыйскага псіхатэрапеўта Віктара Франкла «Чалавек у пошуках сэнсу». Магчыма, яна сапраўды не раз падтрымала Дру ў цяжкую хвіліну.

Яшчэ адна галівудская прыгажуня «няпростага лёсу» Шарліз Тэрон сваёй любімай кнігай назвала раман «Дарога» амерыканскага пісьменніка Кормака Маккарці (які, дарэчы, атрымаў Пулітцэраўскую прэмію).

Джон Траволта, гарачы аматар авіяцыі і самалётаў, аддае перавагу раману Артура Хэйлі «Аэрапорт».

Зорка «Змяркання» Крыстэн Сцюарт, насуперак здагадкам, у звычайным жыцці любіць класіку ад Джона Стэйнбека. Любімая кніга Крыстэн — раман «Да ўсхода ад Эдэма».

Угледзець нешта аддалена-вампірскае можна ў партнёра Крыстэн Сцюарт па «Змярканні» Роберта Паццінсана — ён прыхільнік дэкаданса і фанацее ад «Кветак зла» Бадлера.

Але самы нечаканы крок зрабіў, безумоўна, Брус Ўілліс: ён заявіў журналістам, што яго любімая кніга — «Гісторыя» Герадота…

# АДМОВА АД ДЗЯРЖПРЭМІІ ГІШПАНІІ

**Гішпанскі празаік Хаўер Марыяс адмовіўся ад нацыянальнай літаратурнай прэміі, грашовы эквівалент якой склаў 20 тысяч еўра. Прэмія была прысуджана пісьменніку за раман «Захапленні».**

Як паведаміла «The Daily Telegraph», адзін з самых вядомых сучасных аўтараў Гішпаніі падзякаваў журы прэміі, аднак палічыў немагчымым прыняць узнагароду…

Паводле словаў Марыяса, усё жыццё ён пазбягаў адносінаў з дзяржаўнымі інстытуцыямі і ўладай незалежна ад таго, якая партыя была ва ўрадзе. Пісьменнік заявіў, што не хоча прымаць грошай з казны, а таксама не жадае, каб яго разглядалі як аўтара, які падтрымлівае хоць нейкую палітычную сілу. На яго думку, палітыкі не павінны ўплываць на культуру.

Хаўер Марыяс, сын філосафа Хуліяна Марыяса, які вучыўся ў Хасэ Артэгі-і-Гасэта, скончыў факультэт ангельскай філалогіі ва Універсітэце Камплутэнсе ў Мадрыдзе. У першай палове 1980-х ён выкладаў гішпанскую літаратуру ў Оксфардскім універсітэце.

Марыяс — не толькі пісьменнік, але і журналіст і перакладчык, у прыватнасці, ён перакладаў вершы Ўільяма Батлера Ейтса, Ўолеса Стывенса і Джона Эшберы.

# ПЕРАКЛАДЧЫКІ ЕЎРОПЫ — БЕДНЯКІ?

**Еўрапейская платформа літаратурнага перакладу (PETRA) апублікавала даклад пра заробкі людзей, якія займаюцца літаратурнымі перакладамі і жывуць у Еўрасаюзе.**

На кніжных рынках усіх еўрапейскіх краін назіраецца моцны дысбаланс: пераклады з ангельскай складаюць ад трацiны да паловы ўсіх перакладаў, у той час як у Вялікабрытаніі, наадварот, пераклады складаюць усяго 3% новых выданняў. Літаратурны перакладчык у Брытаніі — рэдкая прафесія.

Перакладчыкі — ахвяры «бэстсэлераманіі» выдаўцоў. У эпоху культуры бэстсэлераў яны, з аднаго боку, вымушаныя перакладаць з яшчэ большай хуткасцю, чым раней, каб выдаўцы (якім, зразумела, прасцей зняць вяршкі з перакладу міжнароднага бэстсэлера, чым з перакладу літаратурнага шэдэўра) змаглі надрукаваць чарговыя «Пяцьдзясят адценняў шэрага» аднначасова ва ўсіх краінах і атрымаць максімальны прыбытак.

Рынак так уладкаваны, што ўсюды перакладаюць адно і тое ж. Культурная разнастайнасць цяпер мала каго хвалюе…

З прычыны гэтага істотна ўпаў прэстыж прафесіі літперакладчыка. Прафесіяналы старэюць, а маладыя не спяшаюцца займацца малапрывабным у фінансавым плане заняткам.

І — калі канкрэтна пра грошы… Сярэднестатыстычны гадавы даход літаратурнага перакладчыка (да выплаты падаткаў) у васьмі еўрапейскіх краінах меншы, чым 12 тысячаў еўра, і меншы, чым 24 тысячы еўра — у дзесяці краінах.

Гэта менш тых заробкаў, што атрымліваюць кваліфікаваныя рабочыя тых краін на фабрыках і ў сферы абслугоўвання.

Прыклад жа постсавецкіх рэспублік у гэтым рэчышчы — нават трагічным не назавеш…

**Паводле litakcent.com**

# НЕВЯДОМЫ ФРАГМЕНТ РАМАНА ТРУМЭНА КАПОТЭ

**Як паведаміў сайт «The New York Times», у архівах пісьменніка Трумэна Капотэ знойдзены фрагмент яго няскончанага рамана «Пачутыя малітвы» («Answered Prayers»). Гэты фрагмент — невялікае апавяданне на шасці старонках пад назвай «Яхты і рэчы». Ён будзе апублікаваны ў лістападаўскім нумары часопіса «Vanity Fair».**

Паводле словаў аўтара біяграфіі Капотэ Джэральда Кларка, «Яхты і рэчы» — назва адной з частак рамана «Пачутыя малітвы», аднак незразумела, як з ёй суадносіцца знойдзены ўрывак. Біёграф адзначыў, што гэта абсалютна самастойны твор, акрамя таго, ён значна карацейшы за магчымую асобную частку рамана.

«Пачутыя малітвы» Трумэн Капотэ пачаў пісаць у 1966 годзе, але так і не скончыў. Згаданы твор часткова аўтабіяграфічны і ўяўляе сабой roman à clef, сярод герояў якога можна пазнаць знакамітасцяў і жонак высокапастаўленых бізнэсоўцаў і публічных персон таго часу (напрыклад, жонку прэзідэнта ЗША Жаклін Кенэдзі і акторку Глорыю Вандэрбілт).

Фрагменты рамана былі апублікаваныя ў 1975 і 1976 гадах у часопісе «Esquire», пасля чаго Трумэн Капотэ страціў многіх сяброў, якія пазналі сябе ў героях рамана. Упершыню разрозненыя фрагменты «Пачутых малітваў» былі сабраныя і выдадзеныя асобнай кнігай у 1986 годзе — пасля смерці пісьменніка.



Трумэн Капотэ — адзін са стваральнікаў і яркіх прадстаўнікоў жанру «новай журналістыкі» ў літаратуры. Ён найбольш вядомы як аўтар рамана «Сняданак ля Ціфані», паводле якога быў зняты аднайменны фільм з цудоўнай актрысай Одры Хёпберн.

**Паводле novostiliteratury.ru**

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 7 СНЕЖНЯ, ПЯТНІЦА

**Беларусь 1**

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія-Украіна). 4-я серыя.
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.25** Патрабуецца.
**10.45** Адмысловы рэпартаж.
**10.55** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Сакрата» (Белтэлерадыёкампанія).
**12.15** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія). Заключная серыя.
**13.25** Заўтра - гэта мы!.
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.20** Каталіцкія святыні Беларусі.
**16.45** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.25** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25, 23.45** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** «Нашы. Эльжбета Радзівіл».
**22.00** Нацыянальны адборачны тур конкурсу песні «Еўрабачанне-2013». Фінал. Прамая трансляцыя.
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Ваенна-шпіёнскі дэтэктыў «Выратуйце нашы душы» (Расія). Заключная серыя.

**АНТ**

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**15.00** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Юбілейнае шоў Яўгенія Плюшчанкі «Ўсяго толькі 30!».
**22.40** АНТ прадстаўляе: «Што? Дзе? Калі?» у Беларусі.
**23.55** «Вячэрні Ургант».
**00.55** Прэм'ера. «Пасля школы».
**01.50** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** Прэм'ера. «Каханне 911».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Прызнанні небяспечнага чалавека». ЗША-Германія-Вялікабрытанія, 2002 г.



**16.00** «Жыць будзеце».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Паўфінал Першай лігі МС КВЗ.
**22.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік фіналу.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Якія людзі!».
**23.55** «Перамажы Покерстарз».
**00.45** «Адмысловы праект».

**Беларусь 2**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Страсці па культуры.
**10.50** Дэтэктыўны трылер «Дзесяць негрыцят» (СССР). 1-я і 2-я Серыі.
**13.20** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**14.55** «Час акцёра». Дак. фільм.
**15.45** Беларуская кухня.
**16.20** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.40** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.35** Час футболу.
**00.15** Арэна.
**00.45** Моладзевая камедыя «Мярцвяк у каледжы» (ЗША).

**РОССИЯ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** Прэм'ера. «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.35** «Мая планета».
**12.00** Гутарка з Дз. Мядзведзявым.
**13.00** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «Уся Расія».
**15.00** «Снежны чалавек. Апошнія відавочнікі».
**15.55** Прэм'ера. Дэтэктыўны тэлесерыял «Таямніцы следства».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Галубка».
**22.25** «Юрмала-2012». Фэст гумарыстычных праграм. Фінал. 1-ая частка.
**00.20** Навіны - Беларусь.
**00.30** Фільм «Паўднёвыя ночы» (2011 г.).

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.45** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «І зноў добры дзень!».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Ліцейны».
**21.20** Вострасюжэтны фільм «Вяртанне».
**23.05** Мастацкі фільм «Снайпер».



**EUROSPORT**

**01.00** Покер.
**02.05** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - 1/4 фіналу.
**10.30** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - 1/4 фіналу.
**11.15** Санкавы спорт: Кубак свету.
**11.45** Біятлон: Кубак свету. Остэрсунд - Мужчыны Гонка пераследу.
**12.15** Горныя лыжы: Кубак свету. Жаночая камбінацыя. Хуткасны спуск.
**13.30** Біятлон: Кубак свету. Хохфільцэн – Спрынт. Жанчыны.
**14.45** Горныя лыжы: Кубак свету. Жаночая камбінацыя. Хуткасны спуск.
**15.15** Горныя лыжы: Кубак свету. Жанчыны. Камбінаваны слалам.
**16.30, 21.00** Біятлон: Кубак свету. Хохфільцэн – Спрынт. Жанчыны.
**17.45, 23.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк.
**19.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Куусама - HS 142.
**19.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.
**21.45** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Квебек.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Без рэтушы: «Беларускі лес», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.50** Аб'ектыў.
**17.55** «Рэвалюцыя», дак. фільм, 2007 г., Францыя: 4 серыя, «Аргентына: рэвалюцыя рондаляў і патэльняў».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**19.25** Маю правы (юрыдычная праграма).
**19.45** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**20.25** Невядомая Беларусь: «Атамны полк», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «CIA: таемныя войны» (C.I.A. Secret Wars), 2008 г., Францыя: фільм 3, «Вайна спараджае вайну (1990–2001)».

## 8 СНЕЖНЯ, СУБОТА

**Беларусь 1**

**06.25** Існасць.
**06.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**09.55** Камедыйны дэтэктыў «Зачараваны ўчастак» (Расія).
**11.05** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.35** Зямельнае пытанне.
**12.20** Камедыя «Старыя-разбойнікі» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.35** Меладрама «Ваенна-палявы раман» (СССР).
**17.25** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**18.25** Таямніцы следства.
**19.10** Лірычны камедыя «Час радасці» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Журналісцкае расследаванне.
**22.10** Трылер «У апошні момант» (ЗША).
**00.00** Дзень спорту.
**00.10** Камедыйны дэтэктыў «Зачараваны ўчастак» (Расія).
**01.05** Перазагрузка.

**АНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.25** «Здароўе».
**10.35** «Смак».
**11.15** «Разумніцы і разумнікі».
**12.15** Фільм «Мы вясёлыя, шчаслівыя, таленавітыя!».
**14.10** «Хвіліна славы».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вялікія гонкі».
**17.50** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**18.40** Алена Ваенга. Канцэрт.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.45** «Што? Дзе? Калі?».
**00.00** Драма «Імгненні жыцця».

**СТВ**

**06.10** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**07.55** «Гарады, што спяваюць». Дзённік фіналу.
**08.05** «Чыстая праца».
**09.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**09.30** «Мінск і мінчане».
**10.00** «Іншая краіна».
**10.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік фіналу.
**11.00** Фільм «Жаночая праца з рызыкай для жыцця». Украіна, 2006 г.
**13.15** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Лёс». СССР, 1977 г. 1-я серыя.
**15.40** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Фільм «Квартэт для дваіх». Украіна, 2007 г.



**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «Гарады, што спяваюць». Фінал.
**23.30** Фільм «Эль Грэка». Грэцыя-Іспанія, 2007 г.
**01.30** «Глядзець усім!».

**Беларусь 2**

**07.50** Дабравест.
**08.15** Дэтэктыўны трылер «Дзесяць негрыцят» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**10.50** Тэлебарометр.
**10.55** Пазакласная гадзіна.
**11.10** Альбарутэнія.
**11.45** Наперад у мінулае.
**12.20** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.25** Беларуская кухня.
**14.00** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.35** Біятлон. Кубак свету. Гонка пераследу. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**15.20** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**16.20** Фактар сілы.
**16.50** Біятлон. Кубак свету. Гонка пераследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**18.05** Парушаючы запаведзі.
**18.55** Ваша лато.
**19.35** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.45** «Імперыя песні». Музычна-забаўляльнае караоке- шоў.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**23.20** Шоў «Суперінтуіцыя».
**00.10** Баявік «Зона высадкі» (ЗША).

**РОССИЯ**

**07.00** «Юрмала-2012». Фэст гумарыстычных праграм. Фінал. 1-я частка.
**08.40** Фільм «Паўднёвыя ночы» (2011 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Ха». Маленькія камедыі.
**12.10** Тэлесерыял «І падае снег.».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**14.50** «Ад Пампеі да Ісландыі. Хто наступны?».
**15.50** Прэм'ера. «Хвілінная справа». Забаўляльная праграма.
**16.55** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.45** Прэм'ера. «Танцы з Зоркамі». Сезон-2012.
**22.55** Фільм «Васількі для Васілісы». 2012 г.
**00.40** Фільм «Пернікі з бульбы» (2011 г.).



**НТВ**

**06.25** Серыял «Справа Крапівіных».
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Жывуць жа людзі».
**09.25** «Справа густу».
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.20** Фільм «Танец жывата».
**15.05** «Жаночы погляд».
**16.20** «Следства вялі...».
**17.10** «Вочная стаўка».
**18.05** Выратавальнікі.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.25** «Прафесія-рэпарцёр».
**19.55** «Праграма Максімум».
**21.00** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.00** «Ты не паверыш!».
**23.00** Фільм «Муха».
**00.50** «Прамень Святла».
**01.20** «Рэакцыя Васэрмана».

**EUROSPORT**

**01.00** Конны спорт. Агляд тыдня.
**01.15** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.
**02.00** Аўта і Мотаспорт.
**02.15** Біятлон: Кубак свету. Хохфільцэн – Спрынт. Жанчыны.
**03.15** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**10.30** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Квебек.
**11.15** Горныя лыжы: Кубак свету. Жанчыны. Камбінаваны слалам.
**11.45** Горныя лыжы: Кубак свету. Мужчыны. Слалам-Гігант. 1-я спроба.
**12.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.
**13.15** Горныя лыжы: Кубак свету. Супер-Гігант Жанчыны.
**14.45** Біятлон: Кубак свету. Хохфільцэн – Мужчыны. Гонка пераследу.
**15.30** Горныя лыжы: Кубак свету. Слаламгігант. Мужчыны. 2-я спроба.
**16.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.
**16.45** Біятлон: Кубак свету. Хохфільцэн – Жанчыны. Гонка пераследу.
**17.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.
**19.45** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк.
**21.15** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Квебек.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Маю правы (юрыдычная праграма).
**07.50** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.25** Невядомая Беларусь: «Атамны полк», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**08.55** Аб'ектыў.
**18.10** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**18.25** «Апантаныя», дак. цыкл.
**18.35** Калыханка для самых маленькіх: «Польскія казкі і паданні».
**18.55** «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**20.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Статысты», маст. фільм, 2006 г., Польшча.
**22.45** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 9 СНЕЖНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.25** Камедыя «Старыя-разбойнікі» (СССР).
**07.55** Дакументальны серыял «Майстар вандравання» (ЗША).
**08.30** Медычныя таямніцы.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** «Нашы. Эльжбета Радзівіл».
**09.50** Камедыйны дэтэктыў «Зачараваны ўчастак» (Расія).
**11.00** Заўтра - гэта мы!.
**11.30** Зона Х. Вынікі тыдня.
**12.10** Evrovision. Вынікі тыдня.
**12.30** Культурныя людзі +.
**13.10** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.35** Каробка перадач.
**16.10** Тэлефільмы АТН «Радзівілы. Таямніцы сям'і».
**18.20** Драма «Вялікі Гэтсбі» (Вялікабрытанія-ЗША).



**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Фантастычная драма «Віхура» (ЗША).
**00.20** Камедыйны дэтэктыў «Зачараваны ўчастак» (Расія).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.25** Тэорыя неверагоднасці.
**13.15** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Парцалянавае вяселле».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** АНТ прадстаўляе: «Фактар смеху».
**17.25** Прэм'ера. Асяроддзе пасялення.
**18.25** АНТ прадстаўляе: «Песні маёй краіны».
**20.00** Контуры.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Дыханне планеты».
**21.40** «Насця». Вячэрняе шоў.
**22.50** Прэм'ера. «Таемныя знакі канца свету».
**23.55** Фільм «12».

### СТВ

**06.05** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**07.50** «Аўтапанарама».
**08.20** «Жыць будзеце».
**08.50** «100 адсоткаў».
**09.20** «Вялікі сняданак».
**10.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.00** Фільм «Квартэт для дваіх». Украіна, 2007 г.
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.35** Фільм «Лёс». СССР, 1977 г. 2-я серыя.
**15.00** «Дзіўная справа».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Дзяўчына, якая грала з агнём». Швецыя-Данія-Германія, 2009 г.
**23.05** «Куміры».
**23.55** Фільм «Вяртанне дадому». Данія-Швецыя, 2007 г.

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.05** Таямніца душы.
**07.35** Музычная казка.
**09.50** Тэлебарометр.
**09.55** Пазакласная гадзіна.
**10.15** Альбарутэнія.
**10.45** Школа рамонту.
**11.55** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.05** Біятлон. Кубак свету. Эстафета. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**14.45** Вышэй за дах.
**15.15** Пра мастацтва.
**15.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**16.20** Біятлон. Кубак свету. Эстафета. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**17.55** Шоў «Суперінтуіцыя».
**18.50** Суперлато.
**19.40** Спорт-кадр.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Хакей. КХЛ.
**23.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Манчэстар Сіці - Манчэстар Юнайтэд.
**01.05** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ.

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Далей каханне» (2010 г.).



**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** Тэлесерыял «І падае снег.».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**14.45** «Баадур Цуладзе. Я ўспамінаю».
**15.40** Прэм'ера. «Аншлагу-25». Вялікі юбілейны вечар.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Прэм'ера. Фільм «У чаканні вясны» (2012 г.).
**23.25** «Нядзельны вечар».

### НТВ

**06.25** Вострасюжэтны серыял «Справа Крапівіных».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** «Іх норавы».
**09.20** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.25** «Паедзем, паямо!».
**13.00** Сёння.
**13.15** Фільм «Я цябе кахаю».
**15.00** «Таямнічая Расія».
**16.00** Сёння.
**16.20** «Развод па-руску».
**17.10** «І зноў добры дзень!».
**18.10** «Бывае ж такое!».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.55** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.45** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.30** «ЦТ. Адкрыцці».
**22.20** «ЦТ. Вячэрняе».
**23.00** «Венік». Ток-шоў.
**23.55** Фільм «Ружы для Эльзы».
**01.45** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.

### EUROSPORT

**01.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.
**02.00** Фігурнае катанне: Гран-Пры.
**03.15** Біятлон: Кубак свету. Хохфільцэн – Жанчыны. Гонка праследу.
**10.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.
**11.15** Горныя лыжы: Кубак свету. Мужчыны. Слалам. 1-я частка.
**12.30** Горныя лыжы: Кубак свету. Жанчыны. Слалам-Гігант. 1-я спроба.
**13.15** Біятлон: Кубак свету. Хохфільцэн – Мужчыны. Эстафета.
**14.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.
**16.45** Біятлон: Кубак свету. Хохфільцэн - Жаночая эстафета.
**18.00** Снукер: Чэмпіянат Вялікабрытаніі. Ёрк - Фіналы.
**20.15** Кёрлінг: Чэмпіянат Еўропы. Швецыя.
**21.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Фільм са страшнаю назваю», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**07.45** «Таямніца Сагалі», серыял: 12 серыя.
**08.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.20** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.50** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**18.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.25** МакраФон: «Салідарныя з Беларусcю–2012», канцэрт.
**18.40** Казкі для дзетак: «Польскія казкі і паданні».
**19.00** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: «Бясконцыя бегі».
**19.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.40** Дакументальная гадзіна: «Норд-Ост. Тэатр смерці», дак. фільм, 2003 г., Польшча.
**21.00** Без рэтушы: «Свае і чужынцы», рэпартаж, 2009 г., Польшча.
**21.20** Фільматэка майстроў: «Непахаваны», маст. фільм, 2004 г., Польшча–Славакія–Венгрыя.

---

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афоміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанк», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57, Юрый
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 044) 755 66 48, Марына

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

КАЗКІ

# ЯК ГІТЛЕР БЫЎ КАТОМ У БОТАХ

Алег НОВІКАЎ

**Германія святкуе 200-ю гадавіну выхаду першага зборніка славутых казак братоў Грым.**

20 лістапада 1812 года пабачыў свет першы з пяці зборнікаў казак (ням.: «Kinder und Hausmärchen», або КНМ). Маштаб гэтай падзеі цяжка пераацаніць. Казкі братоў Грым унесеныя ў індэкс твораў, якія з'яўляюцца фундаментам заходняй цывілізацыі. Праца Якаба і Вільгельма спарадзіла па ўсім свеце пляяду вучоных, якія заняліся зборам фальклору. Не кажучы пра тое, што казкі спрыялі росту самаідэнтычнасці немцаў, наступствам чаго стала аб'яднанне Германіі.



Феномен казак братоў Грым мае яшчэ адзін цікавы аспект. Іх даўняя і вялікая папулярнасць выклікала ў палітыкаў жаданне інструменталізаваць Беласнежку, Папялушку і Ката ў ботах у сваіх прагматычных мэтах. Гісторыя палітычных інтэрпрэтацый казачных апавяданняў Грым — асобная тэма, якая часам не менш цікавая за сюжэты саміх казак.

Безумоўна, першымі інтэрпрэтатарамі былі самі браты Грым, на якіх уплываў дух эпохі. Тут няма нічога дзіўнага. Так, іх французскі папярэднік-калега Шарль Перо стылізаваў фальклор пад куртуазную літаратуру XVII стагоддзя. Напрыклад, у «Спячай прыгажуні» людаедка патрабуе падаваць ёй мяса дзяцей «пад соўсам Рабер», а прынц, які абудзіў прыгажуню, заўважае, што апранута яна досыць старамодна.

Тое ж самае было ў нашым выпадку. Пасля з'яўлення першага зборніка Грым пайшлі на саступкі патрыётам, якія заўважылі, што сярод нямецкіх казачных герояў ёсць вельмі падобныя да герояў француза Шарля Перо, напрыклад, Кот у ботах або Сіняя барада. Крыніца такога падабенства вельмі простая. Касцяк казак зборніку склалі апавяданні Даратэі Віман, якая паходзіць з роду гугенотаў — французскіх пратэстантаў, якія эміґравалі ў Германію пасля Варфаламееўскай ночы. Эміґранты прыцягнулі з сабой і французскі казачны фальклор, які ў свой час вывучаў Шарль Перо. У іншы час французскі шарм нямецкіх казак, можа, нават і не заўважылі б. Аднак у 1812 годзе ў Германіі былі моцныя антынапалеонаўскія настроі, і французскае, мякка кажучы, не віталася. Каб падкрэсліць нямецкі характар казак, апавяданне пра таго ж Ката ў ботах у другое перавыданне браты выразалі не ўключаць.

Аднак зачыстка ад французскага элементу была не апошняй карэктурай. Прыкладна ў 1850-я гады браты зноў прайшліся па тэксту. Апавяданні сталі больш вытрыманыя ў духу буржуазнай маралі. Услаўлялася праца, сям'я, адданасць манарху. Адначасова зніклі ўсе алюзіі на сэкс. Дзіўным чынам вырасла колькасць сцэн з апісаннем гвалту і жорсткасці.

Вось, напрыклад, фінал Папялушкі: «А калі прыйшоў час вяселле спраўляць, з'явіліся і вераломныя сёстры — хацелі да яе падлашчыцца. І калі вясельнае шэсце адправілася ў царкву, старэйшая апынулася па правую руку ад нявесты, а малодшая па левую. І выклевалі галубы кожнай з іх па воку. А потым, калі вярталіся назад з царквы, ішла старэйшая па левую руку, а малодшая па праву — і выклевалі галубы кожнай з іх яшчэ па воку».

Адна з версій адказу на пытанне, нашто спатрэбілася рэвізія казак, звязана з новым статусам братоў. За пару гадоў да гэтага прускі кароль Фрыдрых-Вільгельм IV заклікаў іх пераехаць працаваць у Берлінскі ўніверсітэт, і, адпаведна, яны сталі працаваць на дзяржаву, якая вяла агрэсіўную знешнюю палітыку. Увогуле, варта адзначыць, што па поглядах браты Грым былі манархістамі. Менавіта адсюль паходзіць канцэпцыя пра прынца, які з'явіцца ў адзін цудоўны дзень.

Зразумела, што пасля прыходу да ўлады нацысты папросту не маглі прайсці міма спадчыны братоў Грым. Увогуле, яшчэ ў 1935 годзе быў створаны спецыяльны дэпартамент дзіцячай літаратуры. Ён павінен быў пераглядзець масіў тэкстаў, каб вызначыць, што спрыяе росту адданасці нацысцкім прынцыпам у дзяцей. Сутнасць працы выказаў функцыянер афіцыйнага прафсаюзу «Германскі рабочы фронт»: «У нямецкія дзяцей павінен быць нямецкі Пятрушка, які перамагае ўсіх, хто не немец».

Браты Грым фашыстам спадабаліся. Як пісаў адказны за казкі Ёзэф Прэстэль: «Казка братоў Грым... з'яўляюцца ілюстрацыяй нацыянальных дабрадзейнасцяў: годнасці, устойлівасці поглядаў, адвагі ў мужчынскіх героях... пакорлівай адданасці жаночых герояў». Асаблівага выпраўлення казачных тэкстаў не адбылося. Затое была прапанавана вельмі арыгінальная інтэрпрэтацыя. Так, міністэрства Гебельса рэкамендавала настаўнікам на прыкладах рамантычных казачных гісторый даводзіць перавагу чыстых расавых шлюбаў. Папялушку трактавалі як гераіню, якая належыць да «чыстай расы», мачаху — як іншаземку. Прынца разглядалі як нацысцкага героя, што валодае несапсаваным інстынктам распазнання расавых варожых элементаў. Такім чынам, сюжэт казкі падаваўся як канфлікт светапоглядаў. Яшчэ далей пайшло нацысцкае кіно. Так, у фільме пра Чырвоны Капялюшык паляўнічы, які забівае воўка, насіў форму эсэсаўца. А экранізаваны Кот у ботах меў яўныя рысы фюрэра. На экране просты люд сустракаў хвастатага воклічамі: «Вось ён — выратавальнік!» і «Хайль, кот!»

Рэвізія спадчыны братоў Грым адбылася ў часы ГДР. Праўда, трэба прызнаць, што аснову «сацыялістычнай» версіі заклалі брытанцы. На мяжы 1940–50-х гадоў у Вялікабрытаніі з'явіўся шэраг публікацый, аўтары якіх адводзілі КНМ значную ролю ў фармаванні ў нямецкім менталітэце ўстаноўкі на гвалт. У верасні 1946-га ў берлінскіх школах, якія месціліся ў брытанскім сектары, забаранілі вывучаць нямецкія казкі, сагі і легенды. У 1948 годзе з'явілася плётка пра забарону на друк казак братоў Грым у брытанскай зоне акупацыі, аднак гэта была толькі плётка.




Затое англійская казкафобія перадалася чыноўнікам ГДР. У 1947 годзе адна з лейпцыгскіх газет падлічыла, што ў першым томе КНМ апісваецца смерць 50 чалавек. Выданне пісала: «У працэсе стварэння новай літаратуры і пераследу ўсяго, што было прычынай катастроф, трэба прасеяць таксама і казкі, каб там не гвалту і жорсткасці».

Аднак цалкам забараняць казкі братоў Грым не рашыліся па дзвюх прычынах. Па-першае, Джэні Маркс, жонка Карла Маркса, вельмі любіла іх творы. Па-другое, у СССР пачалася кампанія супраць касмапалітаў. Фальклор і аўтэнтыка сталі разглядацца як фільтр супраць пранікнення духоўна варожых культурных твораў з Захаду. У разасланых па дашкольных установах педагагічных планах патрабавалі падчас вывучэння казак акцэнтаваць увагу на наступных момантах: пазітыўная мараль, любоў да працы, калектывізм і нават вера ў светлую будучыню. У 1956 годзе выйшла рэдакцыя казак, у якіх не было згадкі пра рэлігію, а для ўсіх добрых герояў былі характэрныя моцныя антыфеадальныя перакананні.

Сэксуальная рэвалюцыя 1960–1970 гадоў выклікала хвалю фрэйдысцкіх даследаванняў казачных персанажаў. Феміністкі і левыя пачалі бачыць у паводзінах персанажаў прыхаваныя сэксуальныя фантазіі і забабоны. Аднак гэтыя постмадэрнісцкія тэорыі застаюцца дастаткова акадэмічнымі.

У сучаснай масавай культуры казкі Грым атрымалі дзіўную лявацкую інтэрпрэтацыю: быццам яны ствараюць сярод простых людзей ілюзію магчымасці сацыяльнага ліфта. Сутнасць растлумачыла каментатар на адным з інтэрнэт-форумаў: «Казка пра Папялушку — вельмі шкодная рэч. Напэўна, мільёнам дзяўчынак жыццё сапсавала. ...Менавіта яна заразіла шматлікіх дзяўчынак моцным жаданнем патрапіць «з бруду ў князі» за чужы кошт».

Наўрад ці гэта апошняя версія таго, што сапраўды хацелі сказаць браты Грым 200 гадоў таму.

> Рэвізія спадчыны братоў Грым адбылася ў часы ГДР. Праўда, трэба прызнаць, што аснову «сацыялістычнай» версіі заклалі брытанцы

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Яшчэ адно ноў-хаў Лукашэнкі — высоўванне фантастычных абвінавачванняў на адрас расійскіх бізнэсмэнаў. У канцы кастрычніка ён высунуў чарговую сенсацыю. Нейкія расійскія алігархі, быццам, прапанавалі яму таемнае пагадненне: прадаць прадпрыемства «Беларуськалій» за 15 мільярдаў долараў, з якіх 5 мільярдаў долараў узяць сабе. Як гэта было ўжо не раз, сенсацыя нарадзілася на сустрэчы менавіта з расійскімі журналістамі. Лукашэнка разлічвае зацягнуць Маскву ў чарговы штучны палітычны крызіс — проста гэтым разам не праз старую інтэграцыйную рыторыку, а праз маніпуляцыю «антыкарупцыйнай» тэматыкай. Да гэтага Лукашэнка актыўна імітаваў продаж «Беларуськалія» то кітайцам, то індыйцам. Ужо пасля трылера пра спробу подкупу беларускі лідар абвясціў, да здзіўлення ўдзельнікаў рынка, новы кошт на кампанію, аднамаментна павялічыўшы яе у параўнанні з папярэдняй на чвэрць. Усе мэты дасягнутыя: народ Беларусі ведае, што Бацька адстойвае інтарэсы рэспублікі ў адносінах з «карумпаванай» Расіяй.

**«Профиль» (Украіна)**

Паводле афіцыйнай інфармацыі, за 8 месяцаў 2012 года Следчы камітэт завяршыў вытворчасць па 34 тысячам крымінальных спраў. Мяркуючы па справаздачы, следчыя стварэнай год таму структуры штодня афармлялі для перадачы ў суд не меней за 140 крымінальных спраў з абвінаваўчым прысудам, з якіх толькі 10 разваліліся на дасудовай стадыі. У працы ў следства знаходзіцца яшчэ каля 65 тысяч крымінальных спраў. Такая статыстыка ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму выклікае трывогу, паколькі ў беларусаў практычна няма абароны ад судовай самаўпраўнасці. Беларусь — адзіная краіна на еўрапейскім кантыненце, якая не з'яўляецца сябрам Савета Еўропы, а гэта значыць, што яна знаходзіцца па-за юрысдыкцыяй Еўрапейскага суда па правах чалавека. Пра неабходнасць рэформаў у Беларусі кажуць ужо не толькі праваабаронцы, але і чыноўнікі.

**«Deutche Welle» (Германія)**

Спачатку была спроба дамовіцца з МВФ, якая не мела поспеху па палітычных матывах, затым Мінск спрабаваў зарабіць на кантрабандзе нафтапрадуктаў пад выглядам растваральнікаў у абыход расійскага бюджэту. Як ужо пісала НГ, Расія не толькі зачыніла гэту магчымасць, але і зусім скарацілa аб'ёмы паставак нафты ў Беларусь. Замежныя інвестыцыі, якія маглі б вырашыць праблему беларускага безграшоўя, таксама ў краіну не ідуць па прычыне яе палітычнай ізаляцыі, а таксама высокіх эканамічных рызык, якія выкліканыя пастаянным і грубым умяшаннем дзяржавы ў эканоміку. Прадаваць уласнасць прэзідэнт Лукашэнка не дазваляе, паколькі баіцца разам з ёй страціць сваю ўладу».

**«Независимая газета» (Расія)**

Як бы ні вырашылася пытанне пра балансы, Беларусь у будучым годзе напэўна не атрымае такога тлустага кавалку, які атрымала ў першым паўгоддзі 2012-га дзякуючы бізнэсу на растваральніках. А значыць, рэсурсаў для росту ВУП будзе яшчэ менш. Менавіта таму Мінск у апошні час усё актыўней цікавіцца казахскай нафтай. Калі прававая база для казахска-беларускага нафтавага гандлю будзе створана, то адносіны паміж краінамі, верагодна, увойдуць у новую фазу, у якой Казахстану трэба будзе сцерагчыся «пастак» з растваральнікамі.

**«Республика» (Казахстан)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. БУНДЭСТАГ ЗМАГАЕЦЦА З ЗААФІЛАМІ

Незвычайны законапраект пачаў абмяркоўваць нямецкі парламент. Пад ціскам абаронцаў правоў жывёл дэпутаты вырашылі ўвесці штраф аматарам займацца сэксам з братамі меншымі. У прынцыпе, параграф пра заафілію прысутнічаў у нямецкіх законах і раней, але ён забараняў такую практыку выключна ў выпадку, калі жывёле было балюча. Самае незвычайнае, што ў грамадстве з'явіліся праціўнікі закона, якія кажуць, што ініцыятыва — замах на сэксуальнасць, паколькі рэакцыя жывёл-партнёраў на такія кантакты не вывучаная. Быццам такі закон будзе нагадваць законы пра забарону садаміі, якія дзейнічалі ў Германіі да 1969 года, і каралі за ўсе гомасэксуальныя кантакты без вывучэння адносін паміж партнёрамі. Мяркуючы па ўсім, такая аргументацыя не пераканае дэпутатаў, паколькі ў нямецкім грамадстве вельмі моцна ідэя пра тое, што стаўленне да жывёл уплывае на агульны гуманістычны светапогляд. Хутчэй за ўсё, заафілаў цалкам забароняць яшчэ да канца гэтага года.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ВЕНЕСУЭЛА. ЧАВЕС РЫХТУЕ АДМІНІСТРАТЫЎНУЮ РЭФОРМУ

Томас Гуаніпа, адзін з лідараў антычавескай апазіцыі заявіў, што валодае інфармацыяй аб намерах прэзідэнта перагледзець правы штатаў, а канкрэтна працэдуру абрання губернатараў. Як вядома, Венесуэла, хаця і прэзідэнцкая рэспубліка, складаецца з 23 штатаў, жыхары якіх самі абіраюць свае выканаўчыя органы. Вельмі часта кіраўнікамі штатаў становяцца прадстаўнікі апазіцыі (зараз яны кантралююць, напрыклад, сталіцу і галоўны нафтавы штат), што, быццам, дастала Уга. Цяпер ён чакае 16 снежня, калі ў шэрагу штатаў пройдуць губернатарскія выбары. Калі вынік зноў будзе мінорным для партыі ўлады, краіну чакае адміністратыўная рэформа. Лакмусавай паперкай тут стане вынік выбараў у штаце Міранда, дзе на другі тэрмін мае намер пераабрацца Энрыке Капрылес, канкурэнт Чавеса на апошніх прэзідэнцкіх выбарах. Па словах Гуаніпа, у гісторыі Лацінскай Амерыкі было толькі два выпадкі, калі скасоўваліся правы аўтаномій. Першы раз так зрабіў Піначэт пасля перавароту ў Чылі, а другі — сандыністы ў Нікарагуа падчас расправы з ліберальнай апазіцыяй.

**Паводле венесуэльскай прэсы**

### УКРАІНА. ЦІ ВЫРАТУЕ ЯНУКОВІЧА АД САЦЫЯЛЬНЫХ ПРАТЭСТАЎ МУЛЬТФІЛЬМ?



На ўкраінскім тэлебачанні з вялікай помпай прадэманстравалі першую серыю палітычнага мультфільма «Казачная Русь», дзе персанажы прадстаўляюць палітычную тусоўку краіны. Мультфільм створаны студыяй «95 квартал» (былая каманда КВЗ з Крывога Рогу), адным з галоўных уладальнікаў якой лічыцца віцэ-прэм'ер Валер Харашкоўскі. Сярод герояў мульціка — Віктар Януковіч і яго папярэднік Віктар Юшчанка, прэм'ер Мікалай Азараў, які дрэнна размаўляе на ўкраінскай мове, віп-вязень Юлія Цімашэнка, Арсень Яценюк і г.д. Героі казкі па сюжэту сварацца паміж сабой з-за нейкіх бытавых тэмаў. Нягледзячы на тое, што гарант паказаны камічна, эксперты пабачылі тут глабальны падтэкст. А менавіта: украінская палітыка падаецца аўдыторыі як простая серыя бытавых міжасобасных канфліктаў. Між тым, в ўмовах пагаршэння сацыяльна-эканамічнага становішча ўвесь час узрастае рызыка прамых пратэстаў насельніцтва. Пагрозы гвалту з боку міліцыі і «Беркута» не заўсёды з'яўляюцца эфектыўнымі. Таму перад уладай узнікла маштабная задача — зменшыць жаданне грамадзян актыўна ўдзельнічаць у палітыцы. Мы бачым перавод канфліктаў з плоскасці сутыкнення ідэалогій, інтарэсаў алігархаў і сацыяльных груп у кухонныя разборкі. Выходзіць на вуліцу супраць Падатковага ці Працоўнага кодэксаў — быццам бы апраўдана. А вось выходзіць на вуліцу з-за пабытавай сваркі Віці, Юлі і Сені (так паказана ў мульціку) не варта.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### РАСІЯ. АТАМАНЫ ПАТРАБУЮЦЬ АЎТАНОМІІ

У студзені 2013 года данскія казакі плануюць правесці ў Растове-на-Доне маштабны мітынг. Вынікам мітынгу, на які запрошаны прадстаўнікі Кубанскага і Церскага казацкіх войскаў, павінна стаць рэзалюцыя, адрасаваная прэзідэнту і Дзярждуме, а таксама абласным і краявым органам улады поўдня Расіі. У яе праекце некалькі патрабаванняў, галоўныя з якіх — прызнаць казакоў асобным этнасам і не ўмешвацца ў іх унутраныя справы. Такое рашэнне прынята на нядаўняй сустрэчы казацкага актыву ў станіцы Старачаркаская. Фактычна гаворка ідзе пра праект адраджэння казацкіх аўтаномій, якія існавалі ў царскай Расіі. Як кажа атаман рэестравага вайсковага казацкага грамадства «Усевялікае войска Данское» Віктар Вадалацкі, дэпутат Дзярждумы: «Казакі — гэта адзін з усходнеславянскіх народаў. Мы цвёрда ўпэўнены, што казак — гэта нацыянальнасць». Перспектыва надання казакам дзяржаўнасці не вельмі падабаецца цэнтру. Некаторым занадта актыўным атаманам кампетэнтныя органы ўжо далі зразумець, што іх дзейнасць могуць узяць пад кантроль.

**Паводле расійскай прэсы**

▸ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

# КАТАЛОНІЯ НА РОСТАНЯХ

*Алег НОВІКАЎ*

**Вынікі мясцовых выбараў у Каталоніі, якія прайшлі 25 лістапада, можна лічыць парадаксальнымі: выбаршчыкі прагаласавалі за незалежніцкія партыі, каб у выніку адтэрмінаваць незалежнасць.**



Яшчэ ніколі ў гісторыі ў парламенце Каталоніі не было такой колькасці аматараў стварэння незалежнай каталонскай дзяржавы. Патрабаванне пра незалежнасць утрымліваюць выбарчыя праграмы аж чатырох прадстаўленых у парламенце партый. Гэта правая «Канвергенцыя і саюз» (CiU) — 50 месцаў, «Рэспубліканская Левая» (ERC) — 28, «Зялёныя» — 13 і CUP — 4. У суме гэта 74 парламенцкіх крэсла са 135.

Аднак ніякай эйфарыі «суверэністаў» (так называюць каталонскіх нацыяналістаў) не назіраецца. Іх вядучая газета «El Punt» віншуе сваіх чытачоў з гістарычнай перамогай, аднак радасць выглядае трохі нацягнутай. Здаецца, што чакалі чагосьці іншага і большага. Затое сапраўднае вяселле б'е праз край у лагеры іх антаганістаў. У офісе «Народнай партыі» (PP), вядучай палітычнай сілы іспанскіх дзяржаўнікаў, у літаральным сэнсе п'юць шампанскае. На першай пасля выбараў прэс-канферэнцыі ўсё кіраўніцтва каталонскай PP узняло перад журналістамі тост за тое, каб ніколі не было «больш» — гульня слоў, звязаная з тым, што прозвішча кіраўніка цяперашняга нацыяналістычнага ўраду, лідара CiU, Артура Маса можна перакласці як «больш». Дарэчы, PP таксама набрала рэкордную ў сваёй гісторыі колькасць галасоў на каталонскіх выбарах — 13 працэнтаў.

Прычына такой абсурднай сітуацыі звязана з правалам урадавай партыі «Канвергенцыя і саюз», якая не атрымала большасць у парламенце, аднак нават страціла 12 мандатаў. Гэта значыць, што яна не зможа адна фармаваць Генералітэт — так называецца каталонскі ўрад. Між тым, партыя Артура Маса, у адрозненні ад іншых незалежніцкіх партый, мела канкрэтную стратэгію дасягнення незалежнасці, асноўнымі крытэрамі якой павінны былі стаць перамога на выбарах 25 лістапада і прызначэнне на 2015 год рэферэндуму пра суверэнітэт.

Аднак Артур Мас прайграў. Прычыны паразы — адна з самых дыскутуемых тэм на старонках іспанскіх медыя. Большасць пагаджаецца з тым, што каталонцы папросту не прабачылі ўраду Маса скарачэнне фінансавання публічных службаў і сацыяльных выплат — звычайная рэакцыя на крызіс правых ліберальных партый, да якіх адносіцца CiU. Каталонія таксама стала ахвярай сусветнай рэцэсіі. Сёння ў аўтаноміі каля 800 тысяч беспрацоўных, з якіх кожны 192-і не атрымлівае дапамогі па беспрацоўі. Кожны дзень 102 каталонца трапляюць у фінансавую пастку, паколькі не здольныя плаціць іпатэку. Штодня ў Каталоніі зачыняецца 20 прадпрыемстваў. Каля двух мільёнаў чалавек ужо зараз жывуць на мяжы беднасці.

Не дзіўна, што ў соцыуме ёсць шмат такіх, хто не любіць урад. Аднак галасуючы па эканамічных рэзонах за альтэрнатыўныя «Канвергенцыі і саюзу» партыі, такія выбаршчыкі адначасова адмовіліся ад цалкам рэальнай у выпадку перамогі Артура Маса дарожнай карты па стварэнні кантураў незалежнай Каталоніі.

Узнікае пытанне, ці можа Артур Мас дабіцца намечанага ў кааліцыі з іншымі «суверэністамі»? Чамусьці на старонках беларускай дэмакратычнай прэсы дамінуе менавіта такая заліхвацкая думка — усе вось-вось аб'ядноюцца і дружна абвесцяць незалежнасць. Аднак, як высвятляецца, адносіны паміж каталонскімі «самастойнікамі» не такія простыя. Аб'ядноць каталонскіх незалежнікаў пад адным дахам не менш цяжка, чым беларускіх апазіцыянераў.

Перш за ўсё, ёсць гістарычны і ідэйны бэкграўнд. Ніколі не пойдуць у кампанію да правай CiU «Зялёныя», якія паўсталі на базе аб'яднання эколагаў і былых камуністаў. Іх праграма ўвогуле бачыць фармат незалежнай Каталоніі без знаходжання пры ўладзе CiU, лідара якой яны параўноўваюць з Ангелай Меркель і іншымі ідэолагамі эканамічнага курсу жорсткай эканоміі.

Найбольш лагічным партнёрам Артура Маса падаюцца левыя рэспубліканцы (ERC), партыя, якая ў 1920-я гады заклала падмуркі каталонскага нацыяналізму. Больш таго, іх праграма ў галіне будаўніцтва дзяржаўнасці больш радыкальная за пастулаты CiU.

Аднак чамусьці кіраўніцтва партыі не спяшаецца ствараць блок з правымі нацыяналістамі. Тут ёсць гістарычныя крыўды. Партыя доўгі час пазіцыянуе сябе як вядучая сіла апазіцыі на адрас CiU, і менавіта гэтым, як прызнаюць усе, абавязана цяперашняму прарыву: фракцыя ERC у парламенце вырасла па выніках апошніх выбараў амаль удвая — з 10 да 21 дэпутата. На ўжо агучаную прапанову Артура Маса ўвайсці ў агульную кааліцыю левыя рэспубліканцы катэгарычна сказалі «не». Па словах іх лідара, галоўная перашкода для фармавання агульнага кабінету — супрацьлеглыя погляды на эканоміку. ERC патрабуе ўвесці мараторый на скарачэнне сацыяльных выплат. Між тым, Артур Мас ужо запланаваў урэзаць сацыяльныя артыкулы ў будучым бюджэце яшчэ на 4 мільёны еўра.

Цікава, што адначасова ліст з запрашэннем пачаць кааліцыйныя перамовы быў дасланы з офісу CiU лідарам PSC — партыі каталонскіх сацыялістаў, якая на самай справе філіял «Іспанскай аб'яднанай рабочай партыі» (PSOE). PSOE, нягледзячы на тое, што прайграла выбары, захавала сваю групу ў парламенце — 20 месцаў (у парламенце папярэдняга склікання сацыялістаў было 28). Фішка ў тым, што PSC не падтрымала ідэю рэферэндуму пра незалежнасць. На думку сацыялістаў, цяперашнія праблемы цэнтра з аўтаноміяй можна развязаць за кошт ператварэння Іспаніі ў федэральную рэспубліку.

Такі беспрынцыпны падыход у пошуках партнёра зноў выклікаў дэбаты наконт сапраўдных мэтаў, якія пераследуе Артур Мас, гуляючы з нацыяналістычнай ідэяй. Як вядома, CiU узнікла на базе той часткі каталонскай буржуазіі, якая шукала кампраміс з Франка, ахвяруючы праблемамі мовы і культуры. Акрамя таго, CiU і PP блакіруюцца ў шматлікіх мясцовых муніцыпалітэтах (разрыў гэтых кааліцый — яшчэ адно з патрабаванняў левых рэспубліканцаў для стварэння сумеснага ўраду з Масам). У гэтым плане цікава, што на пакт з CiU набіваецца PP. Каталонскія нароўнікі не выключаюць дамовы аб стварэнні ўраду з нацыяналістамі, праўда, у выпадку адмовы Маса ад «суверэннай стратэгіі».

Цяжка сказаць, наколькі рэальны такі кансенсус, аднак у іспанскай прэсе цяпер можна знайсці акіян праектаў, як замірыць каталонскія і мадрыдскія эліты. Напрыклад, разглядаецца ірландскі варыянт — у 1921 годзе Ірландыя абвясціла пра незалежнасць, аднак засталася пры гэтым у складзе Вялікабрытаніі. Існуе цэлая палітра сцэнараў развіцця сітуацыі, і які ў выніку пераможа, пакуль цяжка сказаць.

МЕРКАВАННЕ

# ФРАНЦУЗЫ СУПРАЦЬ ГЕЯЎ

**Францыю страсаюць масавыя пратэсты супраць законапраекта пра аднаполыя шлюбы. Пра вытокі гамафобіі французаў і перспектывы развіцця сітуацыі журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з Наталі Пізан, сябрам французскай праваабарончай арганізацыі «SOS racisme».**

***— Наколькі тэма правоў сэксуальных меншасцяў стала часткай французскага палітычнага і грамадскага дыскурсу?***

— Рух за правы сэксуальных меншасцяў узнік у нас, як і паўсюль у Еўропе, на пачатку 1970-х, хаця ў тым жа фрывольным Парыжы, асабліва сярод багемы, заўсёды хапала геяў і лесбіянак. Абсалютна легальна яшчэ ў 1950-я гады выходзіў іх часопіс «Аркадзія». Усур'ёз пра праблему роўнасці правоў пачалі размаўляць у 1991 годзе, калі па ініцыятыве сацыялістычнага ўраду Жаспэна быў прыняты закон пра Грамадзянскі пакт салідарнасці. Пакт — гэта фактычна новы інстытут сумеснага жыцця, накшталт грамадзянскага шлюбу. Ён тычыцца сумесных абавязкаў партнёраў у выпадку сумеснай арэнды кватэры, сацыяльных ільготаў, спадчыны. Пакт можна заключыць у натарыяльнай канторы, прычым яго могуць заключаць таксама аднаполыя партнёры. Цяпер у Францыі такіх аднаполых «пактаў» каля 10 тысяч. Гэта, паводле статыстыкі, працэнтаў пяць ад агульнай колькасці пактаў. Таксама, напэўна, будзе цікава ведаць, што ў Францыі каля 3 мільёнаў чалавек адносяць сябе да сябраў лігі сэксуальных меншасцяў.

***— Чаму ўзнікла патрэба пашырыць правы сэксуальных меншасцяў?***

— Францыя ганарыцца тым, што з'яўляецца радзімай Дэкларацыі правоў чалавека, якая, на думку левых, павінна мець універсальны, а не выбарачны характар. Калі гей з'яўляецца грамадзянінам, то ён павінен карыстацца ўсім пакетам свабодаў, які гарантуе яму канстытуцыя. Таму Пакт ад 1991 года заўсёды разглядаўся левымі не як канчатковы этап, а толькі як плацдарм або тактычны манеўр, што яны, дарэчы, заўсёды падкрэслівалі. Напрыклад, адзін мэр ад партыі «Зялёных» на знак салідарнасці з правамі геяў рэгістраваў у сваёй мэрыі аднаполыя шлюбы, якія, праўда, не мелі юрыдычнай сілы. У 2007 годзе патрабаванне «шлюбы для ўсіх» было ўключана ў праграму вядучай левай сацыялістычнай партыі. Адразу пасля перамогі Франсуа Аланда на выбарах прэзідэнта гэта пытанне пачалі абмяркоўваць у ніжняй палаце парламенту, аднак у левых не хапіла мандатаў, каб давесці справу да канца. Пасля пазачарговых чэрвеньскіх выбараў у парламент сацыялісты атрымалі большасць у дэпутацкім корпусе, што выклікала чуткі пра хуткую рэформу. 7 лістапада на пасяджэнні кабінету міністраў сапраўды быў прадстаўлены законапраект пра легалізацыю аднаполых шлюбаў. Цяпер на студзень наступнага года прызначаны парламенцкія дэбаты на гэты конт. Гэта навіна вывела на вуліцу сотні тысяч праціўнікаў лібералізацыі. Самая значная дэманстрацыя — каля 70 тысяч чалавек — прайшла ў Парыжы. Паралельна пратэставала правінцыя. На 13 студзеня прызначана новыя дэманстрацыі.

***— Хто арганізоўвае пратэсты?***

— Відавочнага лідара ў лагеры гамафобаў няма, хаця прэса часта цытуе кардынала, ліёнскага біскупа Філіпа Барбарэна, які адным з першых пачаў мабілізоўваць каталіцкую грамаду супраць новага закону. Увогуле, афіцыйна пратэсты падтрымалі ўсе тры самыя буйныя французскія канфесіі — каталікі, іудзеі і мусульмане. Далучыліся сюды і правыя партыі, у тым ліку «Нацыянальны фронт». Партыя Марыны Ле Пэн патрабуе правядзення рэферэндуму па праблеме аднаполых шлюбаў. Аднак больш заўважныя не партыі і царква, а грамадзянскія асацыяцыі, накшталт «Civitas» або «La Manif pour tous».

***— Як вядома, зараз узнік сур'ёзны канфлікт у шэрагах вядучай правай партыі «Саюз за народны рух» (UMP). Былы прэм'ер Франсуа Філон і цяперашні генеральны сакратар Жан-Франсуа Капе не могуць разабрацца, хто павінен быць партыйным правадыром. Тэма правоў гомасэксуалістаў неяк прысутнічае ў дэбатах паміж кандыдатамі?***

— Не. Хаця падыходы ў іх розныя. Капе адкрытым тэкстам заклікаў аднапартыйцаў выходзіць на вуліцы, а Філон, асудзіўшы законапраект, заклікаў да пошуку нацыянальнага кансенсусу па гэтым пытанні. Цікава, што крызіс у UMP у медыйным плане падарваў дынаміку росту руху супраць аднаполых шлюбаў. Калі меркаваць па СМІ, грамадства ўжо забылася пра праблемы геяў і цалкам пераключылася назіраць за баталіяй паміж двума апаратчыкамі.

***— У газетах пішуць, што не ўсе сябры левых партый пагаджаюцца з ідэяй легалізацыі аднаполых шлюбаў...***

— У акцыях супраць аднаполых шлюбаў удзельнічалі некаторыя вядомыя фігуры з левага флангу. Імі нават створаная ініцыятыва «Левыя за рэспубліканскі шлюб». Існуе ініцыятыва «Гомасэксуалісты супраць усынаўлення дзяцей». Пакуль няма канчатковай пазіцыі ў галоўнага прафсаюза CGT, функцыянеры якога не разумеюць, як можна сацыяльна абараняць аднаполыя сем'і. А вось блізкі да сацыялістаў прафсаюз CFDT цалкам падтрымаў законапраект.

***— У прэсе дзякуючы маніфестацыі 17 лістапада часта ўзгадваюцца каталікі-фундаменталісты.***

— Маецца на ўвазе інстытут «Civitas», які лічыцца структурай, блізкай да Братэрства Святога Пія. Гэта фракцыя ў Касцёле, якая мае вельмі складаныя адносіны з Ватыканам з-за праблемы экуменізму і нейкіх абрадаў. «Civitas» вельмі актыўны, аднак, на маю думку, яго падыход занадта «бальшавіцкі». Лідары «Civitas» кажуць нават пра тое, што гомасэксуалізм — гэта антрапалагічнае адхіленне, якое трэба лячыць. Французская публіка не такая ваяўнічая. Паводле апытанняў, каля 60 працэнтаў французаў не супраць легалізацыі аднаполых шлюбаў. Тым больш, што яны ўжо легалізаваныя ў суседніх Бельгіі або Іспаніі без катастрафічных наступстваў. Адпаведна апытанням, людзі баяцца толькі практыкі выхавання аднаполымі парамі дзяцей. За гэта выступаюць каля 30 працэнтаў.

***— Якая рэакцыя ўлады і прыхільнікаў рэформы на пратэсты? Якая можа быць развязка ў гэтым канфлікце?***

— Радыкальныя абаронцы правоў геяў і лесбіянак увогуле спрабавалі гамафобскія маніфестацыі сарваць, у тым ліку дэманстратыўна цалуючыся перад натоўпам. Часта гэта прыводзіла да банальнай бойкі. У Парыжы падчас такой бойкі нават засвяцілася ўкраінская арганізацыя «ФЕМЕН». Што тычыцца ўлады, то яна аслабіла напор. Аланд заявіў, што гатовы паважаць свабоду свядомасці і надасць права мэрыям самім вырашаць, рэгістраваць або не аднаполыя шлюбы. Пасля гэтага левыя апаненты Аланда заявілі, што ён падрывае рэспубліканскі прынцып універсалізму закона, даючы права выконваць іх па сваім жаданні. Прэзідэнта абвінавацілі нават у палітычнай кан'юктуры — быццам ён спецыяльна ўзняў тэму геяў, каб адвесці ўвагу ад праблем у эканоміцы. Аднак, калі меркаваць па тону левай прэсы, значная частка левай публікі гатовая на кампраміс — адкласці законапраект на карысць шырокіх дэбатаў па гэтай тэме. Хаця не факт, што законапраект увогуле не знікне ў нетрах бюракратычнай машыны. Як вядома з гісторыі, сацыялісты часта нешта абяцаюць, а пасля пра гэта забываюць. Хрэстаматыйным ёсць выпадак з абяцаннем надаць неграмадзянам Францыі права ўдзельнічаць у мясцовых выбарах. Такое патрабаванне прысутнічае ў праграмах сацыялістаў яшчэ з часоў Мітэрана, аднак ніякіх змен як не было, так і няма.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### МІНЦІМЕР ШАЙМІЕЎ



Шайміеў — першы прэзідэнт Татарстана, які пад ціскам Крамля пакінуў сваю пасаду ў 2010 годзе. Здаецца, Масква зрабіла памылковы крок, адправіўшы Шайміева ў адстаўку, паколькі цяпер журналісты адзначаюць цікавую тэндэнцыю: у Татарстане імкліва паўстае культ асобы Шайміева. Так, сярод наведвальнікаў Казанскага крамля распаўсюджваецца новая традыцыя — сем разоў абысці вакол востраканцовага каменя, усталяванага ў крамлі ў памяць пра пачатак будаўніцтва саборнай мячэці Кул-Шарыф, якую заклаў Шайміеў, пра што сведчыць адпаведная шыльдачка. З боку дзеянні турыстаў каля каменя нагадваюць рух мусульман вакол Каабы (Мекка). Пры гэтым, трэба адзначыць, удзельнічаюць у гэтым абрадзе як мусульмане, так і праваслаўныя. На думку палітолагаў, сакралізацыя ўлады першага прэзідэнта Татарстана стала следствам ідэалагічнага вакууму, які ўтварыўся пасля сыходу Шайміева. Цяперашнія кіраўнікі рэспублікі — тыповыя тэхнакраты, якія так і не змаглі запоўніць гэту пустэчу. Некаторыя лічаць, што настальгія па Шайміеву — бомба з гадзіннікавым механізмам: як толькі тэхнакраты зробяць памылку, народ выйдзе на вуліцы і запатрабуе вяртання любімага палітыка, які, дарэчы, апошнім часам вельмі сімпатызуе татарскім нацыяналістам.

### ЛАРЫ ХЭГМАН



Славуты амерыканскі актор, які выканаў ролю тэхаскага мільярдэра-прайдзісвета Джэя Ара Юінга ў славутым серыяле «Далас», памёр 22 лістапада на 82-м годзе жыцця, што прымусіла шматлікія СМІ заняцца вывучэннем яго ўплыву на масавую культуру. Як вядома, вобраз Джэя Ара вельмі спадабаўся аўдыторыі, хаця спачатку паводле сцэнару гэта быў герой другога плану. Далей за ўсё пайшла ірландская прэса, якая абвінавацілі нябожчыка ў тым, што ўвасоблены ім персанаж (асоба сквапная, абсалютна прагматычныя і гатовая дзеля дасягнення сваіх мэтаў пайсці на ўсё) заразіў перalічанымі вышэй якасцямі ўсю генерацыю ірландскіх падлеткаў, якія глядзелі «Далас» на мяжы 1970–1980-х гадоў. Быццам менавіта фанаты Джэя Ара дабіліся ператварэння Ірландыі ў 1990-я гады ў краіну з адной з найбольш ліберальных эканомік у свеце. А паколькі з пачаткам цяперашняга сусветнага крызісу тая мадэль ляснулася, якраз Лары Хэгман, на думку ірландскай прэсы, ускосна нясе адказнасць за ўсе праблемы ірландцаў.

### МАРТОН ДЗЬЁНДЗЬЁШЫ

Дэпутат венгерскага парламенту ад правай партыі «Jobbik» шакаваў усю Еўропу, калі ў сваёй прамове ў парламенце прапанаваў высветліць, колькі яўрэяў маюць мандаты венгерскіх парламентарыяў. Прычына для такой калькуляцыі, па словах прадстаўніка «Jobbik», проста фантастычная: нядаўні канфлікт паміж Ізраілем і палесцінцамі з Сектара Газа, быццам, можа пагражаць нацыянальнай бяспецы Венгрыі, і, каб зразумець маштабы гэтай пагрозы, трэба ведаць статыстыку прысутнасці венграў яўрэйскага паходжання ў заканадаўчым органе Венгрыі. Антысеміцкая выхадка дэпутата выклікала абурэнне нават ва ўрадзе, што фармуе кансерватыўная партыя «Fidesz», якую Брусэль абвінавачвае ў парушэнні правоў чалавека. Кіраўнік МЗС Венгрыі заявіў, што краіна з'яўляецца паслядоўным саюзнікам Ізраіля. Хаця левая і ліберальная апазіцыя мала верыць у шчырасць ураду. Яна звяртае ўвагу на тое, што спікер, сябра «Fidesz», ніяк не адрэагаваў на правакацыю дэпутата, правага радыкала.



СУСТРЭЧЫ

# КУЛЬТУРА НАЦЫІ ВЫЗНАЧАЕЦЦА КОЛЬКАСЦЮ КАЛЕКЦЫЯНЕРАЎ

Сяргей ЧЫГРЫН

**У Беларусі калекцыянаванне пачалося ў XII–XIV стагоддзях у канфесійных установах Полацка, Турава, Віцебска і ў іншых гарадах і мястэчках.**

Нашы далёкія продкі ўжо тады ў культурна-асветных асяродках збіралі рукапісныя кнігі, дакументы, абразы, царкоўнае ўбранне, рытуальны посуд. А прыватнае калекцыянаванне ўзнікла на Беларусі дзесьці ў XVI стагоддзі ў асяроддзі адукаваных магнатаў, а з пашырэннем сувязей з Заходняй Еўропай — сярод іншых саслоўяў.

Найбольшыя калекцыі ў XVI–XVIII стагоддзях захоўваліся ў Нясвіжы, у Шчорсах на Навагрудчыне, у Вішаве на Валожыншчыне і ў іншых рэгіёнах нашай Бацькаўшчыны. Гэта былі калекцыі кніг, мапаў, малюнкаў, карцін, ювелірных вырабаў, манет, зброі. У XIX стагоддзі ўвага калекцыянераў была накіравана на збіранне помнікаў айчыннай даўніны і мясцовых аб'ектаў прыроды.

Сёння ў Беларусі калекцыянаваннем займаюцца тысячы беларусаў. Яны калекцыянуюць маркі, паштоўкі, кнігі, латарэйныя білеты, манеты, медалі, боны, творы беларускага выяўленчага мастацтва і г.д. З аршанскім збіральнікам, адным з заснавальнікаў газеты «Беларускі калекцыянер», будаўніком-рэстаўратарам Алесем Сяроўкіным я сустрэўся ў Оршы. За кубкам гарбаткі мы распачалі нашу гутарку пра калекцыянаванне ў Беларусі.

***— Давайце прыгадаем час 22-гадовай даўніны, калі ў Беларусі ўпершыню пачала выдавацца газета для калекцыянераў і для тых, хто цікавіцца даўнінай, — «Беларускі калекцыянер». Чаму вы пачалі выдаваць менавіта такую газету?***

— Найперш трэба нагадаць, што ў той час існавала Канфедэрацыя беларускіх суполак, у якую ўваходзіў і аршанскі клуб «Повязь». Старшынёй гэтага клуба быў я. Дык вось, канфедэрацыя выдавала сваю газету пад назвай «Супольнасць». Атрымаўшы 4 нумары гэтага выдання, мне вельмі спадабаліся змешчаныя там выявы розных беларускіх пячатак. І менавіта тады, у 1989 годзе, упершыню ўзнікла думка пра неабходнасць выдання для беларускіх калекцыянераў. Але апошняй кропкай, якая падштурхнула працу па выданню «Беларускага калекцыянера», была радыёперадача Язэпа Барэйкі «425-я ўгодкі беларускай пошты», што прагучала па «Свабодзе» напачатку 1990 года. Яна мне так спадабалася, што я яе запісаў на магнітафонную стужку, а потым перапісаў у сшытак. Гэта ўжо быў фактычна матэрыял, з якога можна было пачынаць выданне для беларускіх калекцыянераў. Сваёй думкай пра выданне газеты «Беларускі калекцыянер» я



Алесь Сяроўкін (у цэнтры) сярод сяброў фонда Архітэктуры і спадчыны імя Андрэя Рублёва




Беларускі латарэйны білет 1928 года

падзяліўся з Уладзімірам Цярохіным — даследчыкам беларускага калекцыянавання. Ён шчыра падтрымаў ідэю і параіў звярнуцца ў Аршанскую друкарню. Тагачасны дырэктар друкарні Рышард Лясота вельмі падрабязна мне ўсё растлумачыў, што трэба зрабіць, каб выйшаў першы нумар «Беларускага калекцыянера». Больш таго, ён асабіста пазнаёміў мяне з супрацоўнікамі аршанскай «раёнкі». Адзін з іх, Мікола Дземідовіч, узяў на сябе асноўную працу па вёрстцы і вычытцы матэрыялаў для газеты. Потым я купіў у аршанскай краме «Канцтавары» 32 кілаграмы паперы, бо так мы дамовіліся наконт майго разліку з друкарняй, і ў лістападзе 1990 года свет пабачыў першы нумар «Беларускага калекцыянера».

***— Колькі ўсяго выйшла нумароў газеты?***

— Усяго выйшла з друку 24 нумары. Быў падрыхтаваны і 25-ы нумар, але так і не з'явіўся з-за недахопу фінансаў. Але газету адразу заўважылі не толькі ў Беларусі, але і калекцыянеры з іншых краін Еўропы. Ад чытачоў пачалі прыходзіць лісты. Дарэчы, яны і сёння прыходзяць. Пасля выхаду першых нумароў «Беларускага калекцыянера» адразу адгукнуліся беларусы замежжа. Напрыклад, калекцыянер з Чыкага Багдан Павук даслаў выяву маркі Слуцкага паўстання, якую на той час у Беларусі мала хто бачыў. Нам пісалі лісты калекцыянеры з Прыбалтыкі, Польшчы, Украіны, Германіі, Расіі. Дзякавалі за выданне газеты і прасілі дасылаць ім наступныя нумары, яны ж, у сваю чаргу, дасылалі ў газету цікавыя, арыгінальныя матэрыялы, інфармацыі. А з Беларусі калекцыянеры нас проста завальвалі лістамі. Першыя нумары «Беларускага калекцыянера» выдаваліся накладам 990 асобнікаў. Распаўсюджвалася газета праз Белсаюздрук, ТБМ, праз сядзібу БНФ, была на яе і падпіска. Пазней, калі змяніліся палітычныя ўмовы, газета выдавалася накладам 299 экземпляраў.

Зараз толькі мы ў Беларусі не маем свайго выдання для калекцыянераў. У Расіі, напрыклад, нават кожны рэгіён выдае штонебудзь сваё. Некалькі гадоў таму ў Беларусі вучыўся адзін немец. Яму так спадабалася Беларусь і наша філатэлія, што ён, калі вярнуўся ў Германію, пачаў на нямецкай мове выдаваць там свой прыватны часопіс, цалкам прысвечаны беларускай філатэліі. Часопіс называецца «Belarus-Report». Ён змяшчае на сваіх старонках даволі цікавыя і сур'ёзныя артыкулы пра нашу філатэлію. Але не ўсе беларусы-калекцыянеры пра гэта выданне ведаюць. А тыя, хто ведае, нават дасылаюць туды свае артыкулы, іх там перакладаюць на нямецкую мову і публікуюць. Некалькі нумароў гэтага выдання ёсць і ў мяне.

***— А што вы калекцыянуеце?***

— Сам я збіраю беларускія значкі, памятныя медалі і беларускія латарэйныя білеты. Прычым, значкі калекцыяную, якія зроблены з металу, паперы, пластыка, шкла. Адзіная ўмова, каб гэты значак меў дачыненне да Беларусі. Збіраю іх тэматычна: гарады, прадпрыемствы, калгасы, дзяржустановы, войска, міліцыя, навучальныя ўстановы, культурныя фэсты і г. д. Латарэйныя білеты, акрамя ўласна беларускіх, калекцыяную тыя, якія выкарыстоўваліся на тэрыторыі Беларусі ў розны час: пад Расійскай імперыяй, СССР, нямецкай акупацыяй, даваеннай Польшчай…

***— Якая ў вашай калекцыі, напрыклад, ёсць рэдкая беларуская латарэя?***

— Ёсць у мяне латарэйны білет мінскага таварыства «Прыхільнік дзяцей» 1928 года. Гэта была такая рэчавая латарэя, якая разыгрывалася ў дапамогу беспрытульным дзецям. Усяго было выпушчана 10 тысяч такіх білетаў па 50 капеек. Тыя, хто купіў латарэю, маглі тады выйграць дзіцячыя ложкі, швейныя машыны, веласіпеды, паліто жаночыя, гарнітуры мужчынскія, прымусы, штаны мужчынскія, самабрэйкі «Жылет», гадзіннікі, гарнітуры чайныя, галёшы, лодачкі жаночыя, чаравікі мужчынскія, адрэзы мануфактуры, коўдры дзіцячыя, муку пшанічную, радыёпрыёмнікі і нават барэльеф таварыша Калініна.

***— А якія ёсць каштоўныя значкі?***

— Для калекцыянера кожная рэч каштоўная. Але часам гэты кошт вызначае сам калекцыянер. Напрыклад, у мяне ёсць сяброўскія значкі беларускіх суполак «Талака» (Мінск), «Узгор'е» (Віцебск) і «Повязь» (Орша). Гэта просценькія значкі, але для мяне яны вельмі каштоўныя. Ды і наклад іх быў мізэрны. Да гэтага часу шукаю значак «Паходні» (Гродна). Ёсць і іншыя значкі, якія выходзілі накладам у 50 і нават 10 асобнікаў. Такія значкі адразу становяцца рэдкімі. Магу пахваліцца і беларускімі значкамі пачатку 1950-х гадоў, якія выпускаліся пры Сталіне.

***— Ці падтрымліваеце сувязі з іншымі беларускімі калекцыянерамі?***

— Вядома ж. Сувязі з іншымі калекцыянерамі падтрымліваць трэба заўсёды. Без гэтых сувязей немагчыма папаўняць калекцыю і развіваць яе. Дзякуючы калекцыянерам латарэйных квіткоў Міхасю Верацілу з Ваўкавышчыны, Аркадзю Падліпскаму з Віцебска і Уладзіміру Бачкову з Бабруйска я ў апошні час значна папоўніў сваю калекцыю сучасных беларускіх латарэй. У сваю чаргу і яны ад мяне атрымліваюць нешта цікавае.

***— Як вы сталі калекцыянерам?***

— У 15 гадоў, пакідаючы Беларусь на вакзале ў Оршы, купіў на памяць тры значкі: Якуб Колас, Касцюшка і Белавежская пушча. У Ленінградзе, дзе я вучыўся, павесіў іх над ложкам. Разам са мной жылі некалькі землякоў, якія таксама мелі беларускія значкі. Вось такім чынам і пачалася мая калекцыя беларускай фалерыстыкі. Жывучы ў Ленінградзе, я стаў наведваць клуб калекцыянераў, дзе вельмі здзіўляў расійскіх калекцыянераў, бо, калі яны пыталіся, што калекцыяную, я адказваў: беларускія значкі і медалі. І калі я вярнуўся дахаты, стаў сур'ёзна займацца фалерыстыкай.

Беларускія латарэі я пачаў збіраць пазней — напачатку 2000 года. Таму ёсць вялікі прабел у гэтай маёй калекцыі. Але я пацІху яго запаўняю.

Па спецыяльнасці я — будаўнік. Працаваў брыгадзірам у Аршанскіх рэстаўрацыйных майстэрнях ад самага іх утварэння ў 1987 годзе і да закрыцця ў 1996-м. Потым займаўся рэстаўрацыяй розных храмаў у Віцебскай вобласці і ў Расіі. Цяпер працую ў адной аршанскай будаўнічай фірме.

***— Ведаю, што вы цікавіцеся і старадаўняй цэглай і кафляй, нават калекцыянуеце іх.***

— Такую сваю калекцыю я называю прафесійнай. Справа ў тым, што працуючы са старадаўняй цэглай, часам трапляюцца цікавыя цагліны з рознымі надпісамі, кляймом, адрасамі. Такія цагліны я пакідаю сабе. У Оршы на месцы былога Успенскага Куцеінскага манастыра часам назіраю за рознымі землянымі работамі. І вось нядаўна знайшоў некалькі фрагментаў геральдычнай кафлі, якія склалі арыгінальны малюнак.

***— А ці шмат сёння ў Беларусі калекцыянераў?***

— Ёсць такое выказванне: узровень дабрабыту і культуры нацыі вызначаецца колькасцю калекцыянераў сярод чальцоў гэтай нацыі. Мне вядома, што ў Германіі, каля 10 працэнтаў насельніцтва што-небудзь калекцыянуе. Колькі калекцыянераў у Беларусі сёння — цяжка сказаць, але яны ёсць. У маёй Оршы, напрыклад, з насельніцтвам больш за 100 тысяч чалавек — набярэцца толькі каля 150 калекцыянераў. Тым не менш, яны ёсць і будуць. Калекцыя беларускай філатэліі, якую сабраў Леў Коласаў з Мінска, мае нацыянальную і дзяржаўную каштоўнасць. У яго калекцыі ёсць унікальныя выданні, якіх няма нават у беларускіх дзяржаўных музеях і архівах. Наогул, беларусы калекцыянуюць шмат што. З'явіліся сёння нават калекцыянеры, якія збіраюць старыя бутэлькі з надпісамі на шкле. Нядаўна мае землякі знайшлі бутэльку Аршанскага піўзавода царскіх часоў. Бутэлька вельмі прыгожая і цікавая, захавалася ў добрым стане. Знаходку выставілі ў інтэрнэце. І хутка масквічы-калекцыянеры за добрыя грошы яе купілі. У нас — не. Бяда ў тым, што шмат дарагіх і каштоўных старых беларускіх рэчаў знікае за межамі Беларусі.

***— У набыцці беларускай даўніны найперш павінна быць зацікаўлена дзяржава. Яна павінна скупляць каштоўнасці нашага народа для архіваў, бібліятэк, музеяў. Дзяржава павінна і дапамагаць нашым калекцыянерам, хаця б выданнем газеты ці часопіса. Ці не так?***

— Па-першае, вельмі хацелася б, каб дзяржаўныя структуры стварылі ў поўным аб'ёме нацыянальную калекцыю нумізматыкі, банікстыкі, фалерыстыкі, філатэліі, каб калекцыянер мог прыйсці ў Дзяржаўны гістарычны музей і паглядзець усё гэта. Па-другое, з боку дзяржавы, безумоўна, павінна быць дапамога ў выданні часопіса ці газеты для беларускіх калекцыянераў, дапамога ў выданні розных каталогаў і даведнікаў для калекцыянераў. Але пакуль, на жаль, гэтага няма.

СПАДЧЫНА

# «НЯСВІЖСКАЯ КАЗКА» АЛЬБРЭХТА РАДЗІВІЛА

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У 1935 годзе ў Варшаве памёр XVI Нясвіжскі ардынат Альбрэхт Антоні Радзівіл. Мала хто ведае, што гэты чалавек зрабіў даволі шмат дзеля росквіту архітэктурнай жамчужыны зямлі беларускай — Нясвіжскага замка.**



Баль у Нясвіжскім замку

Нарадзіўся князь Аба, як называлі ардыната блізкія, у Берліне, у 1885 годзе. У 1914-м ён атрымаў у спадчыну Нясвіжскія валоданні. Неўзабаве пачынаецца Першая сусветная вайна. Хутка па рашэнні князя на тэрыторыі Нясвіжскага замка арганізуецца шпіталь на 100 чалавек, а праз год у радавым гняздзе Радзівілаў размяшчаецца штаб 2-й рускай арміі.

Пасля ўсталявання бальшавіцкай улады ў Нясвіжы ў кастрычніку 1917 года гаспадар замка разам з цяжарнай жонкай спешна пакідае маёнтак і на доўгія 4 гады з'язджае за мяжу, у Лондан. Справа ў тым, што ў 1910 годзе князь Альбрэхт ажаніўся з брытанкай Дораці Паркер-Дзікан, якая ў 1917 годзе нарадзіла яму дачку — Альжбету. У 1921 годзе бацькі дзяўчынкі развяліся. Княгіня Бэтка засталася з маці і прыязджала ў Нясвіж да бацькі толькі на вакацыі. Сам князь у 1919 годзе, нягледзячы на цяжкую хваробу ног, уступіў у Войска Польскае і ў званні паручніка 10-га палка ўланаў удзельнічаў у польска-бальшавіцкай вайне.

Пасля ад'езду Радзівілаў радавы маёнтак быў фактычна кінуты на разрабаванне. У пачатку 1919 года ў замак прыйшлі бальшавікі. Атрад чэкістаў вывез з палацу шмат каштоўных рэчаў, што нават выклікала абурэнне з боку вышэйстаячага кіраўніцтва. Зрэшты, бальшавіцкая ўлада ў гэтых месцах затрымалася ненадоўга. Па выніках Рыжскай мірнай дамовы 1921 года Нясвіжскі замак і большасць беларускіх XVII стагоддзяў, якія належалі Мікалаю Радзівілу Чорнаму і Кшыштафу Радзівілу Пяруну.



Альбрэхт Радзівіл

Дарэчы, з калекцыяй зброі, якая знаходзілася ў Нясвіжскім замку, звязаны цікавы і даволі пацешны эпізод. У замак быў запрошаны спецыяліст, які павінен быў навесці парадак у сховішчы зброі. Гісторык упарадкаваў калекцыю, а князь Аба запытаў у яго, колькі трэба заплаціць за працу.

Госць сышоў ад адказу, падкрэсліўшы, што праца яму не ў цяжар, і ён працуе з вялікім задавальненнем. Толькі пасля таго, калі на спецыяліста «націснулі», падкрэсліваючы, што ён павінен атрымаць грошы за сваю працу, работнік спытаў, ці можа ён на памяць узяць які-небудзь асобнік з калекцыі. «Ды хоць дзесяць», — адказаў князь. Спецыяліст абраў адзін з экспанатаў, а затым прадаў яго за мяжой за некалькі мільёнаў.

У 1922–1928 гадах у Нясвіжскі замак з Масквы быў вернуты шэраг рарытэтаў, якія раней упрыгожвалі старажытную рэзідэнцыю. У адпаведнасці з Рыжскай мірнай дамовай савецкі бок пагадзіўся вярнуць Польшчы ваенныя трафеі, усе навуковыя і культурныя каштоўнасці, вывезеныя з тэрыторыі Польшчы пачынаючы з 1 студзеня 1772 года, а таксама абавязаўся выплаціць Польшчы 30 мільёнаў залатых рублёў за ўнёсак Польшчы ў гаспадарчае жыццё Расійскай імперыі і перадаць польскаму боку маёмасць на суму 18 мільёнаў залатых рублёў. Так, у 1922 годзе ў Нясвіж вярнуліся старадаўнія гарматы. Частка з іх упрыгожвала палац. Іншыя былі адпраўлены ў музеі ў Кракаве, Львове і Варшаве. Акрамя гэтага, у замак былі вернуты старадаўнія дакументы і частка карцін з княжацкай галерэі.

Нягледзячы на пачатковыя фінансавыя цяжкасці, Альбрэхт Радзівіл даў працу тым землеўласнікам, маёмасць якіх пасля 1921 года аказалася на савецкім баку. Крупскія, Аскеркі, Шалевічы, Абуховічы, Нядзведскія працавалі ў 1930-х гадах у адміністрацыі Радзівілаўскіх землеўладанняў.

26 кастрычніка 1926 года Нясвіж наведаў Юзаф Пілсудскі. Афіцыйна маршал прыехаў, каб ушанаваць памяць свайго былога ад'ютанта Станіслава Радзівіла, які загінуў пад Кіевам падчас польска-бальшавіцкай вайны. Але ўсе разумелі, што гэты візіт звязаны з больш важнымі справамі. 23 верасня 1929 года Нясвіжскі палац наведаў прэзідэнт Польшчы Ігнацій Масціцкі. Аўтамабіль прэзідэнта сустракала ганаровая варта конных асаднікаў, а таксама прадстаўнікоў улад. Князь Альбрэхт Радзівіл прыняў прэзідэнта ў сваім замку і адзначыў, што старажытныя сцены рэзідэнцыі бачылі многіх знакамітых людзей і яму прыемна, што сёння ў Нясвіж прыехаў сам прэзідэнт.

Візіты першых асоб польскай дзяржавы да Радзівілаў тлумачыліся жаданнем Пілсудскага і Масціцкага заручыцца падтрымкай багатай магнатэрыі «крэсаў», бо, як вядома, караля робіць світа. Акрамя гэтага ў Нясвіж пастаянна наведваліся прадстаўнікі знакамітых еўрапейскіх дваранскіх родаў, а таксама палітыкі. У розныя гады там бывалі князь Манака Людовік II, а таксама нашчадак Неапалітанскага караля князь Мюрат. Альбрэхт Радзівіл быў заўзятым паляўнічым і часта запрашаў іншаземцаў на паляванне.

Акрамя афіцыйных прыёмаў у замку адбываліся і свецкія балі і вечарыны. У замку гасцілі між іншых польская актрыса Ядвіга Смасарска і «Хор Дана», таленавіты польскі спявак Мячыслаў Фог. У 1930 годзе князь Альбрэхт набыў у Варшаве дарагое чырвонае сукно і заказаў у нясвіжскіх краўцоў пашыў фракаў для сваіх гасцей. Для дам у польскай сталіцы былі набыты дарагія, зробленыя па модзе часоў караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, парыкі. Адна з відавочцаў так успамінала той баль. Жанчыны былі ў чорных, доўгіх сукенках з ніткай жэмчугу на шыі і белымі парыкамі на галаве, а мужчыны ў чырвоных фраках. Толькі запрошаным афіцэрам было дазволена знаходзіцца на балі-маскарадзе ў вайсковых строях. Урачыстая вячэра была па-каралеўску раскошнай. Вакол кожнага месца стаялі пяць рознага памеру крышталёвых фужэраў з гербам Радзівілаў. Гасцей частавалі рыбай, фазанамі, курапаткамі, а таксама іншымі вельмі вытанчанымі стравамі.

Летам замкавы парк быў месцам шпацыраў маладых людзей і мам з дзецьмі, а зімой возера вакол замка Радзівілаў ператваралася ў вялікі каток, на які акрамя вучняў гімназіі прыходзілі нават ксяндзы і афіцэры 27-га ўланскага палка Войска Польскага.

Адным з сяброў князя Абы быў палкоўнік Уладзіслаў Абух-Вашчацінскі. Ардынат арганізаваў пышны шлюб адной з дачок ваеннага. Дарэчы, князь Альбрэхт пазнаёміў дзяўчыну з багатым землеўласнікам з Вільні, афіцэрам нясвіжскага ўланскага палка. Шлюбную сукенку для дачкі палкоўніка шылі ў Вене. Маладых, якія выходзілі з касцёла, сустракала ганаровая варта афіцэраў, якія над галавой трымалі шаблі.

Між тым цяжкая хвароба дабівала князя, і 18 снежня 1935 года яго не стала. Па загадзе міністра абароны пахавалі князя з воінскімі ўшанаваннямі. Газета «Дзённік крэсовы» пісала, што ў дні пахавання гатэлі Нясвіжа і замкавыя пакоі не змаглі змясціць усіх людзей, якія прыехалі развітацца з князем. Перад жалобным картэжам салдаты 27-га Нясвіжскага ўланскага палка неслі вянкі ад былога імператара Германіі Вільгельма II, прэзідэнта Італіі і прадстаўнікоў іншых замежных дзяржаў. Пахавалі Альбрэхта Антонія Радзівіла ў радавой крыпце касцёла Божага Цела. Паводле ўспамінаў відавочцаў, калі жалобная цырымонія накіроўвалася ў касцёл, з замкавай вежы данесліся прыгожыя гукі паляўнічых ражкоў. Так з гаспадаром замка ў Нясвіжы развітваліся яго верныя слугі-гаявыя.

Другая сусветная вайна скончыла «Нясвіжскую казку», якую стварыў Альбрэхт Радзівіл. 17 верасня 1939 года ў Нясвіж увайшлі часткі Чырвонай Арміі. Шмат з тых, хто знаходзіўся ў замку, уключна з апошнім ардынатам, малодшым братам Альбрэхта Радзівіла князем Леонам былі арыштаваны НКУС. Радзівілаўскія скарбы былі нацыяналізаваны, што па сваёй сутнасці стала звычайным разрабаваннем. Але гэта ўжо іншая гісторыя.



Прыём у Нясвіжскім замку



Пахаванне Альбрэхта Радзівіла ў 1936 г. (Нясвіж)

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# ПОЛЬСКІ «ГАРЫ ПОТЭР» ПА-БЕЛАРУСКУ

Ева ВАЙТОЎСКАЯ

**У Мінску ў межах фестывалю Януша Корчака прэзентавалі гісторыі Мацюся-караля і Кайтуся-чарадзея.**










Адразу тры кнігі Януша Корчака з'явіліся сёлета ў выдавецтве «Логвінаў». Дзве з іх — знакамітая дылогія «Кароль Мацюсь Першы» і «Кароль Мацюсь на бязлюдным востраве», якая ўпершыню выйшла ў 1923 годзе і была перакладзеная на 20 моваў свету. Кнігі сталі перавыданнем даўніх перакладаў Ядвігі Бяганскай і Уладзіміра Васілевіча. Трэцяя кніга — «Кайтусь-чарадзей» (1935) была ўпершыню пераствораная па-беларуску Марынай Шодай. Кнігі ілюстраваныя дасціпнымі малюнкамі Настассі Атраховіч.

## Нармальныя дзіцячыя мары

Кім вы марылі стаць у дзяцінстве? Я — настаўніцай. Але ў дзяцей варта пытацца не толькі «кім», але і «чаму». Я марыла стаць настаўніцай, каб мець права крэмзаць чырвонай асадкай у сшытках іншых дзетак. Мой сусед па парцы, вядома, хацеў стаць лётчыкам. «Або кранаўшчыком», — дадаваў ён, падумаўшы. Яму карцела глядзець на людзей з неба.

Пераважная большасць аднакласнікаў марыла быць прадаўцом у кафетэрыі нашага ўніверсаму. Мы былі перакананыя, што гэта самая салодкая пасада, якая дазваляе есці марозіва і цукерак колькі захочацца.

Вось жа, калі мы былі маленькімі, нас прыцягвалі тры рэчы: улада, звышсіла, усёдазволенасць.

## Дэмакратыя ў карцінках

Доктар Януш Корчак не толькі не лічыў, што варта караць дзяцей за звышамбіцыі. Ён увасобіў гэтую волю да ўлады ў вобразе — не, не прынца — а маленькага караля Мацюся Першага, каб паказаць: хацець быць каралём у дзяцінстве — гэта нармальна. І таксама ненавязліва намякнуць, што вялікая ўлада — гэта вялікая адказнасць. Калі хочаце, «Кароль Мацюсь Першы» — падручнік па дэмакратыі для самых маленькіх.

Ролевыя гульні, кіраваныя дасведчанымі педагогамі, вельмі хутка рассейваюць міфы пра тую ці іншую працоўную «маліну». Так, гуляючыся «ў краму», малы хутка дазнаецца, што ў канцы дня трэба здаваць касу, і за з'едзенае марозіва ўсё-ткі давядзецца заплаціць. Гэтак і чараўнік Кайтусь урэшце разумее, што нават самаму магутнаму ведзьмаку даводзіцца спярша думаць, а потым ужо здзяйсняць чары…

## Ні за якія піражкі?

Як ні заваблівалі афішы маленькага чытача на прэзентацыю кнігі 24 лістапада, у тым ліку паппсова параўноўваючы герояў Корчака з Гары Потэрам, гэтая падзея ўсё адно мела характар класічнай тусоўкі маладых бацькоў, што канваявалі з сабой тых чадаў, якія пакуль не надта здольныя супраціўляцца культпрасвету, а гэта значыць, малых у веку 0–6 гадоў. Мэтавая аўдыторыя «Мацюся» і «Кайтуся» — 9–12-гадовыя — надзейна заляглі на дно. Аўтарка гэтых радкоў так і не здолела выцягнуць у свет ніводнага з пляменнікаў пазначанага веку — «сок і печыва» ды «мульцік» — аказаліся заслабой заманухай для пераборлівага кантынгенту. Агульнавядома: дзеці сёння не чытаюць ні за якія піражкі!

Будзьма спадзявацца, што хоць бы постфактум кніга дойдзе да свайго маленькага чытача.

### Непадцэнзурны Корчак, або Малітва караля Мацюся

«Цікавыя рэчы выявіліся падчас падрыхтоўкі да друку новага выдання аповесці Януша Корчака «Кароль Мацюсь Першы», — піша ў сваім блогу ўкладальнік «карчакіяны» Андрэй Хадановіч. — Выданне — і гэта ў канцы дзевяностых! — было досыць жорстка адцэнзураванае. Напрыклад, з тэксту былі выкінутыя ўсе згадкі пра Бога, рэлігію, малітвы...»

Вось як выглядаў эпізод, дзе маленькі кароль Мацюсь дазнаўся, што яго краіне абвясцілі вайну адразу тры каралі: «З кім параіцца ў гэтую цяжкую хвіліну? — Мацюсь адчуваў, якая вялікая адказнасць зараз ляжыць на ім. — Што рабіць?» Кароль Мацюсь заплакаў і нарэшце заснуў, прытуліўшыся да бярозавага пня» (Мінск, «Юнацтва», 1998, пераклад Ядвігі Бяганскай).

Параўнанне з арыгіналам выявіла, што насамрэч перад тым, як заснуць, маленькі кароль... параіўся з Богам!

«Я маленькі хлопчык, — маліўся Мацюсь, — без Тваёй, Божа, дапамогі я не дам рады. Гэта па Тваёй волі я атрымаў каралеўскую карону, дык дапамажы мне, бо я ў вялікім смутку…» (Мінск, «Логвінаў», 2012).

Справа цэнзуры, па словах Хадановіча, датычыць і ранейшага выдання корчакаўскага «Мацюся на бязлюдным востраве». Вось найхарактэрнейшы прыклад:

«…Прэфект паліцыі нават выдаў загад, што ў тэатрах, парках, школах, наогул ва ўсіх публічных месцах забараняецца згадваць імя Мацюся. За парушэнне — грашовая кара або тры дні арышту. Дзякуючы гэтай забароне пра Мацюся сталі казаць яшчэ больш» (Мінск, «Юнацтва», 1998, пераклад Уладзіміра Васілевіча).

І на гэтым кропка. А ў поўнай версіі — яшчэ адзін сказ: «Бо так ужо ўладкаваны свет, што найпрыемней гаварыць і рабіць тое, што забаронена» (Мінск, «Логвінаў», 2012).

Зрэшты, наўрад ці варта шукаць у такіх купюрах беларускую канспіралогію. Па словах перакладчыцы Марыны Шоды, тыя самыя пасажы адсутныя і ў перакладах Януша Корчака на рускую мову, выдадзеных да 1991 года. Хутчэй за ўсё, «Юнацтва» аўтаматычна перадрукавала ідэалагічныя праўкі савецкага часу.

Януш Корчак — (сапраўднае імя — Эрш Хенрык Гольдшміт, мянушкі — Стары Доктар, Спадар Доктар (1878 або 1879 — 1942) — пісьменнік і педагог, які адмовіўся ствараць уласную сям'ю, каб прысвяціць сябе дзецям, польскі яўрэй, які заяўляў пра падвойную ідэнтычнасць і бачыў сваёй мэтай збліжэнне палякаў і яўрэяў у Польшчы — стаў сёлета адной з цэнтральных фігур гэтай краіны: у 2012-м палякі адзначаюць год Корчака. Толькі згадваюць не юбілей, а 70-годдзе са дня смерці пісьменніка. Доктар Корчак фактычна здзейсніў самагубства, адмовіўшыся пакідаць дзяцей створанага ім яўрэйскага дзіцячага дома, разам з імі ўвайшоўшы ў газавую камеру.

…Па адной з версій, кіруючыся з варшаўскага гета на транспарт у Трэблінку, дзетдомаўцы Януша Корчака неслі сцяг караля Мацюся Першага.

КНІГАРНЯ

# ПАЭЗІЯ АРХІТЭКТУРЫ АД ТАМАРЫ ГАБРУСЬ

Аляксей ХАДЫКА

**У Мінску ў выдавецтве «Беларуская навука» пабачыла свет чарговая кніга доктара мастацтвазнаўства Тамары Габрусь «Паэзія архітэктуры».**

Гэта далёка не першы выхад на кніжны рынак твораў вядомай даследчыцы — варта прыгадаць такія грунтоўныя публікацыі, як «Страчаная спадчына» (1998, 2003), «Мураваныя харалы», «Сакральная архітэктура беларускага барока» ды іншыя, напісаныя лёгкай, зразумелай мовай, заўсёды добра ілюстраваныя і дакументаваныя, яны звыкла прыцягвалі заслужаную ўвагу. І невыпадкова: даследчыца не толькі асабіста працуе з архівамі, вяртаючы да навуковага жыцця малавядомыя факты і творчую фактуру гісторыі нацыянальнага дойлідства, абапіраючыся на дакументы, аднак займальна выкладае прадмет і па заслугах з'яўляецца і сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У творчым здабытку Тамары Габрусь — больш за 400 навуковых і папулярных публікацый. Гэтым разам у кнігу ўвайшлі нарысы і эсэ, якія цягам 20 гадоў друкаваліся ў зборніках і перыядычных выданнях — «Нашай веры», «Спадчыне», «Нашым слове», «Архитектуре и строительстве». Аб'яднаныя тэматычна і храналагічна, яны ствараюць панарамны агляд архітэктурных помнікаў і ансамбляў у Беларусі, Расіі і Еўропе, уводзячы чытача ў чароўны свет «застылай музыкі» архітэктуры.

Кніга, удумліва дапоўненая слоўнікам прафесійных тэрмінаў, можа выкарыстоўвацца як унікальны беларускі падручнік па вывучэнні гэтага ўзнёслага складанага мастацтва, падобна, як у XX стагоддзі настольнымі для пачаткоўцаў-мастацтвазнаўцаў з'яўляліся працы Барыса Віпера. Але на старонках выдання знаходзяць месца і дадатковыя тэмы. З цікаўнасцю разам з аўтаркай




можна прачытаць дзённік Язэпа Драздовіча. Прайсці шляхамі Напалеона Орды. Прыгадаць, як патрыятычныя акцэнты з'явіліся пры афармленні плошчы перад Нацыянальнай бібліятэкай.

Ядро зборніка — нарысы пра ансамблі прыгажэйшых беларускіх гарадоў — Полацка, Навагрудка і ваколіц («Яны натхнялі Міцкевіча»), Оршы («Нездарма тут нарадзіўся Караткевіч»), Мінска. Знайшлося месца і стваральніку мінскага «горада сонца», «галоўнаму магістральнаму архітэктару беларускай сталіцы» Міхаілу Паруснікаву.

Аўтарка, карэнная мінчанка, даводзіць свой погляд на прыгажосць і спецыфічную гармонію, якая ўкладзена ў праекты часоў сталінскага ампіру. У кожнай эпохі свае помнікі, і варта мець магчымасць чароўным ключыкам ведаў адчыніць іх змест.

Выданне накладам 600 экзэмпляраў ужо ў кнігарнях па кошце 48 700 рублёў.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1247

Падпісана да друку 30.11.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.